НІНА ГІЛЕВІЧ

# ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК

*Лексіка. Фразеалагізмы.*
*Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі.*
*Параўнанні.*

«Беллітфонд»
2005

НІНА ГІЛЕВІЧ

# ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК

*Лексіка. Фразеалагізмы.*
*Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі.*
*Параўнанні.*

«Беллітфонд»
2005

УДК 808.26-3
ББК 81.2Беи-4
Г47

**Гілевіч Н.**

Г 47 Дыялектны слоўнік. / Н. Гілевіч – Мн.: «Беллітфонд», 2005.–176 с.

ISBN 985-6576-64-4.

«Дыялектны слоўнік» Ніны Гілевіч – справа, над якой гэтая цудоўная жанчына працавала ледзь не ўсё жыццё. На жаль, яна не дачакалася выдання свайго «Дыялектнага слоўніка», які падрыхтаваў яе муж, славуты беларускі пісьменнік Ніл Гілевіч.

**УДК 808.26-3**
**ББК 81.2Беи-4**

ISBN 985-6576-64-4

## Зусім коратка пра слоўнік Н. І. Гілевіч

Матэрыялы да гэтага Слоўніка Ніна Іванаўна збірала ўсё жыццё. Напачатку, у вёсках свайго дзяцінства і юнацтва, яна ўбірала каларытныя словы і выслоўі ў памяць, не думаючы аб тым, што некалі давядзецца перанесці іх на паперу. Потым, на працягу паўстагоддзя, ужо свядома і мэтанакіравана, рабіла запісы, будучы студэнткай, аспіранткай і выкладчыцай філфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У час праграмнай дыялекталагічнай практыкі, на якую яна шмат разоў выязджала са студэнтамі ў розныя раёны Міншчыны (1960-я — 1970-я гады), Ніна Іванаўна не ўпускала выпадку «падабраць» і занесці ў сшытак любое, раней не чутае ёю, «жывое», нелітаратурнае слова ці фразему з мясцовай гаворкі. Выкарыстоўвала і магчымасці, якія давала ёй пасада дацэнта кафедры беларускай мовы — прасіла студэнтаў запісаць і прывезці дыялектную лексіку сваёй мясцовасці, іншы раз асобным з іх даводзіла гэта як курсавое заданне ці як дыпломную работу. Увогуле ж старалася запісаць дыялектнае слова ці ўстойлівае словазлучэнне паўсюль, дзе пашанцуе пачуць — у дарозе (у аўтобусе або ў электрычцы), у гасцях у вясковых сяброў і родзічаў, у час летняга адпачынку на Нарачы, у размовах з бабулькамі на рынку... Запісаў назбіралася багата, але ў гэты томік адабрана толькі тое, чаго няма ў іншых дыялектных

слоўніках, або — словы, хоць і вядомыя, ды з новым сэнсавым значэннем.

На вялікі жаль, падрыхтаваць свой Слоўнік да выдання сама Ніна Іванаўна не паспела — гэту работу давялося ў меру маіх магчымасцяў (не з'яўляюся лінгвістам) зрабіць мне. Па наяўных, вядома ж, узорах. Так што і ўсе недагляды і хібы, дапушчаныя пры падрыхтоўцы матэрыялаў да друку, кладуцца, натуральна, на мяне. Загадзя прашу прабачэння.

2005, ліпень *Ніл Гілевіч*

# ЛЕКСІКА

## А

АБАГНАЦЬ зак. Абараць, акучыць бульбу. Я ўжо абагнаў яшчэ заўчора, а Мікіта й ня думае. *Слабада.*

АБАМБЕРЫЦЬ зак. Абстрыгчы. Во, брат, абамберыла! Хоць як авечку — у рады, але чыста. *Слабада.*

АБАРАЦЬ зак. Абагнаць. Была на полі сёння. Бульбу абаралі. Чуць прыцягнулася дамоў. *Рудня.*

АБГАРОДАЧКА ж. Від узора, якім ткалі пасцілкі. Якую аснову зробіш, то такі ўзор і вытчаш. Узоры красівыя былі: і ў пасы, і ў клетачку, і ў абгародачку, во як вакно, якраз рамы раней такія былі. *Рудня.*

АБДЗІРКІ мн. Высеўкі, адыходы, якія застаюцца пры вырабе круп. Барабан круціцца, і шалуха адлятае, а крупы застаюцца. Крупы можна рабіць і дробныя, і буйныя. А пасеі, іначай — абдзіркі — ідуць асобна. *Рудня.*

АБГУЛЯЦЦА зак. Загуляцца. Прыдзе да мяне ўнучка, але сёння, мусі, там абгулялася зь дзецьмі. *Хожава.*

АБЕ́ДНІ прым. Абедзенны. Вам, дзяўчатам, крыху цяжэй, а хлопцам — схадзіў на стан, там, у абедні перарыў многа збіраецца, і запішыця. *Хожава.*

АБІНДЗЁЖЫЦЬ зак. Ашукаць, абакрасці.

АБЗЛАДЗЕЙНІЧАЦЬ зак. Незаслужана абвінаваціць у зладзействе, абняславіць. Пасварыліся мы ўжо даўно: яна ж мяне абзладзейнічала. *Хожава.*

АБКЕРЗАНЫ (ад абкерзаць) прым. Забруджаны, абхляпаны нечыстотамі. Вярнуўся аж пад раніцу, увесь абкерзаны. *Слабада.*

АБЛАЗІЦЬ незак. Траціць першапачатковы колер, ліняць. Я ж яе (сукенку) так берагла. Ды мацерыя такая добрая — шоўк. І не аблазя. *Рудня.*

АБЛІВЕ́НЬ м. Зімовы дождж. Надовічы вот пагода была, марозік, ціха было, а сёння аблівень ідзе і замаражаваць пачынае, галалёдзіца будзе. *Краснае.*

АБЛЭВУХ м. 1) Аблавухі, у вялікай вушанцы. 2) Някемлівы, няспрытны, размазня. Ну што ж, калі ён аблэвух, размазня. *Слабада.*

АБЛЮМАЦЬ зак. Апаскудзіць, забрудзіць. Усю спадніцу аблюмала, глядзець брыдка. *Слабада.*

АБМАНАЧКА ж. Падманшчыца, ашуканка.

Дзяўчатачкі, абманачкі вы мае.

Абманулі маладзенькую мяне. *Больнікі.*

АБМЕ́ЦІЦА ж., толькі ў адз. Мука з абмецця (зерня нізкага гатунку). Горшае зерне абмятаюць, аддзяляюць ад мякіны, і яно на абмеціцу добра. *Краснае.*

АБМЕЦЦЕ н., зборн. Зерне нізкага гатунку. Як веюць на такавішчы ўручную, абмецце, яно лягчэйшае за добрае, дык далёка ляціць. Тады яго абмятаюць, аддзяляюць ад мякіны, і яно на абмеціцу добра. Змалоць — і свінні зьядуць. *Краснае.*

АБМОЛ м. Мука, якая ідзе на корм жывёле. Абмол ідзе свінням, а астатняя частка сабе. *Кукалеўка.*

АБРАДАВА́ЦЦА незак. Рабіць, як патрабуе вясельны абрад. Усе садзяцца за стол, абрадуюцца па адной, ці па дзве чаркі. *Рудня.*

АБРУСАК м. Абрус, настольнік. Так у нашай Стэфкі брыдка ў хаце. На стале абрусак з махрачамі — чорны. *Рудня.*

АБУРВАЛАК м. Непрыгоднае палена. Летась у новую хату перайшлі, а каля яе работы процьма. Адных абурвалкаў да ліха валяецца. Трэба будзе на падпал перапілаваць. *Краснае.*

АБФЭНДАЦЬ зак. Забрудзіць, абхляпаць нечыстотамі. Гл. Абкерзаць і аблюмаць. *Слабада.*

АБУЗВЕЧЧА н. Розны, звычайна, рагазлівы хлам. *Мастоўскі р-н.*

АБЦЭНГІ мн. Абцугі. Во гэтымі абцэнгамі яшчэ дзед мой сапожнічаў, я іх берагу, хай ляжаць. *Навагрудскі р-н.*

АБЦЯМНЕЦЬ зак. Быць засцігнутым цемнатой. Ішлі тры дзяўчынкі дарогай і абцямнелі. Тады глядзяць — стаіць хатка. Зайшлі яны ў тую хатку. *Ляшчынск.*

АБЭЛГА ж. Непаразуменне, памылка. Нейкая абэлга выйшла у Мар'яна з Валяй, адзін аднаго ні раскумекалі. *Волма.*

АГАЗЗЮ прысл. Надта нахабна, нахрапіста, бессаромна. Агаззю лезе ў вочы — радачкі няма, не абараніцца. *Застадолле.*

АГАРНУЦЬ зак. Утаргаваць з выгадай. А я панясу яечкі прадаваць, ды лічу, сколькі ўтаргавала. «Сколькі ўзяла?» — пытае. «Два», буркну я. А сама шэсьць агарнула. *Хожава.*

АГЛАБІНА ж. Аглобля. У лес ездзіла, дровы рэзала. Калі зломіцца аглабіна — плачу, а тады і сама навучылася іх рабіць. *Рудня.*

АГЛУМЛЕННЕ н. Тлум, лішні клопат. Цяпер во ўнукі прыехалі на лета, арыштанты, адно аглумленне

ад іх: кожны дзень трэба мыць да пояса, павымазваюцца ў пяску. *Рудня.*

АГЛЯДЗІНЫ мн. Агледзіны. Але да вяселля маладая павінна пабыць на аглядзінах у маладога. Бывалі такія случаі, што можа сватаць адну дзеўку, а яму потым падвядуць другую. *Рудня.*

АДАКРАСЦІ зак. Украсці, выкрасці. Дачка мая харошая была. Былі яе картачкі, але зараз няма, нехта адакраў. *Рудня.*

АДАСНУЦЦА зак. Адаспацца. От цяперацька ты хоць адасніся. Давай дома храпака, мілка мая дарагая, атдыхай. А то ніхто не папытаецца, ці можаш ты, а рабі і ўсё. *Рудня.*

АДВАВУЛІЦЬ зак. Адрэзаць ёмкі, вялікі кавалак хлеба, сала, каўбасы. Во адвавуліў колькі! Ці ўходаеш? *Слабада.*

АДГОДА ж. Удзячнасць, адплата за паслугу. Буду я вам у вялікай адгодзе, у вялікай адгодзе, у вялікай прыгодзе. *Псуя.*

АДГАСЦІЦЬ зак., перан. Набіць. Ото б, здэцца, узяла б палку і адгасьціла б так яе, каб век помніла. *Волма.*

АДГУДЗІЦЬ зак. Адгаварыць. Адгудзілі тваю дзеваньку малойцы. *Мосар.*

АДКІНЕНЫ дзеепрымет. Адкінуты. Аткінены ўжэ чалавек. Твая луста ужэ адрэзана. *Хожава.*

АДКРЫВАЦЦА незак. Пачацца. Уся яда адкрыецца смашная, як малако паявіцца, а то аж сьвет не міл, душа засохла без млека. Волма.

АДМЯНІЦЦА зак. Перамяніцца. Усё адмянілася ў вачох, як захварэла: і хата не такая, і коўдра другая — усё не падобнае на сябе стала. *Волма.*

АДМЯСІЦЬ зак. Набіць. На вясельлі мяне адмясіць хацелі, лезьлі праз вокны і фігу далі. *Хожава.*

АДНАСТАЙНЫ прым. Аднолькавы. У гэтага чалавека, угледзьцеся, не аднастайныя вочы: адзін глаз сьветлы, другі — цёмны. *Хожава.*

АДНІМКА ж. Ануча, якой дастаюць гаршкі з печы. Вазьмі аднімку з прыпечка. *Бірулі.*

АДОНАК м. Подсціл пад стог сена. На адонак няма чаго палажыць. *Бірулі.*

АДПЕТРЫЦЬ зак. Адсохнуць. Ай, галоўка, мая! Каб яна адпетрыла. Здурнела, скаварада ў печы, і агонь запаліла. *Рудня.*

АДПРАКАЦЬ незак. Адпраўляць. Міхалінка наша такая яна добрая была, дзяцей надта ж любіла. Любіла ў ягады хадзіць і цёмгля дзяцей водзя, ніколі ні атпракала іх. І дзеці за ёй аж млелі. *Краснае.*

АДПУСЦІЦЬ безасоб., перан. Перастань балець. Яе схваціў нерф — і крыша, і ломя, але потым перабрала, адпусціла. *Хожава.*

АДРАЗАНІК звычайна мн.: адразанікі. Апоркі, боты без халяваў. У атразаніках хадзілі. І яшчэ радаваліся. *Застадолле.*

АДРАЗАНКА ж. Вінтоўка з адпілаваным канцом ствала. А тады былі адразанкі нейкія, вінтоўкі такія. Дык меў пісталет, ці як яго, гэту адразанку. *Хожава.*

АДУБЕЦЬ зак. Змерзнуць. Занадта разгарачылася, глядзі, як пасядзіш крыху на холадзе такім, дык косьці мігам адубеюць і захварэеш. *Волма.*

АДСТУПЛІВЫ прым. Адыходлівы. Так ударыў, што сіняк пад вокам быў, але ж Шурка такая атступлівая, адойдзя і ўсё. *Хожава.*

АДТУТУРКВАЦЦА незак. Адхінацца. Ён да яе прыціскаецца, а яна — адтутурkваецца, не даецца... *Слабада.*

АДХАІЦЬ зак. Адратаваць, адхадзіць, вылечыць. Усе кажуць, каб трохі раней, дак атхаілі б. А так не. Прывезлі дадому, памылі, адзелі і пахавалі. *Хожава.*

АДЧЭПНАЕ субст. прым. Тое, што даецца, робіцца дзеля адчэпкі, фармальна. Здаў адчэпнае і паехаў. *Хожава.*

АДШАТОКАЦЦА зак. Паправіцца, ачуняць. У вайну з месяц быў у нас пленны. Надта ж ён слабы быў. Праўда, пажыў у нас трохі, адшатокаўся ды просіць работу. Якую ж яму работу дасі, калі і фасольку і тую лушчыць не мог? *Краснае.*

АЖЫДЗЕЦЬ зак. Стаць вадкім. З'ем кісель, пакуль ён цёплы, а то ажыдзяе, стоячы ў печы. *Волма.*

АЗАЛЕЦЬ зак. Змерзнуць. Во Бладзя новась прывёз з родзіны. Кажа, што Кацярына Іванішына напілася, як на галаву да Ігнася хадзіла, аж дамоў не дацягнулася, азалела пад кустом. *Краснае.*

АЗЯРЭДЗІЦЬ зак. Закладаць снапы ў азярод. Даўней азярэдзілі: ставілі жэрдкі і сушылі снапы. *Рудня.*

АЗЯЦЬ зак. Узяць. Але як у яго азяць гэтыя грошы? Мацкі. Азяла дубец і шлёгае. *Слабада.*

АКАЗЛІВАТЫ прым. Той, што падае адразу голас. (Пра сабаку.) Наш сабака надта аказьліваты. Хай хто зойдзя на суседзкі двор, ні кажучы аб нашым, дык што моцы брэша, што званок заліваецца. *Волма.*

АКАЛЯЧЭЦЬ зак. Пакалечыцца. Зламала руку, проста акалячэла. *Хожава.*

АКАРАНАВАЦЦА зак. Пасяліцца на сталае месцажыхарства. Посьля немцы прыказ далі на работу ўсім ісьці, і яго забралі. Да нас ён ужо ні вярнуўся. Дзе ён посьля акаранаваўся, хто яго ведае? *Краснае.*

АКАРА́СКАЦЦА зак. Справіцца з якой-небудзь справай, працай. Усё жыццё і таўкуся каля гэтых свіней. Вот доля, каб яе перуны сасмалілі! Дасць бог дзень дык да вечара чуць акараскаешся. Людзі ж жывуць неяк і без гаспадаркі такой. *Краснае.*

АКОМАН м. Аканом. Жыў пан, а ў пана быў акоман. *Пруды.*

АКРУЦІЦЬ зак., груб. Ажаніцца. Ну і дзеўка — герой. Акруціла і, як захацела, увабрала хлапца. Хоць адна зрабіла, як ёй захацелася, а то ўсё верх хлопцы дзяржаць. *Волма.*

АКУРА́Т прысл. Якраз. Паліто гэта акурат табе, як на цябе шытае. Купляй і не думай доўга [...] Ішоў я ад Волькі і акурат пакойніка таго вязьлі, што электрыкай забіла. Вот дзе провад быў, праз усю вуліцу вянкі несьлі. *Краснае.*

АНДЫНА́РА ж., уст. Месячны аклад. Я ўжо сваю андынару выбраў, рашчытаўся з панам. *Волма.*

АНЁЖ злуч. Аж, ажно. Чую нейкі лемант каля рэчкі. Я туды, анёж там Карповічавы пастушкі сашчапіліся біцца. Чуць расьцягнула злыдняў тых. *Краснае.*

АНТАЛЯЖЫ толькі ў мн. Карункі. Вербная за нядзелю. У хаце к сьвяту прыбраць трэба. Ёсьціка ішчэ неўжываны рушнік с анталяжамі — на кут, абраз пакрыць. *Краснае.*

АПА́ЛІНЫ толькі ў мн. Адходы, якія застаюцца пасля таго, як апалаюць зерне. Некалі груцу рабілі

самі, дык усыпяць у ступу ячмень, памочаць вадой і датуль таўкуць, пакуль не стаўкуцца крупы. Тады, як у начоўках прасохне, выбіраюць у маленькія апалушкі і апалаюць. Апаліны адходзяць у смяццё, яны нідзе не прыгодныя. *Краснае.*

АПІВОШ(А) м і ж. Той, хто дапівае ўсе астаткі. П'яніца, алкаголік.

АПІВУДА агульн., абразл. П'яніца. Вот каб гарэлку піць, дык ён хоць кажны дзень. Гультай і апівуда і больш ніхто. *Краснае.*

АПОЧЫНА м і ж. Гультай, лежабок. Апочына ты! Што ты ўсё вылежваешся. *Язвіна.*

АПРАГАЦЦА незак. Моцна крычаць. Апрагаецца, а чаго апрагаецца — і сам не ведае. *Слабада.*

АПРЫЧО́НІКАМ прысл. Асобна. Ішчэ мая бабка расказвала, што была ў яе нявестка. Ды такая далікатуха, ніколі разам не ела з аднэй міскі, а ўсё апрычонікам. А цяперака ўсе толькі апрычонікам ядуць. *Краснае.*

АПУЛІЦЦА зак. Так гавораць пра хворую курыцу. Хавала, хавала курачку. Такая добрая сакатушка была. А цяперака апулілася раптам і мусіць нічога з яе не будзе. Мусіць, валяк не высядзела. Трэба ей гарэлкі з салам даць. *Краснае.*

АПУШЧЭНСТВА н. Апушчэнне. Наскрозь прамоклі. Гэна ўсё ваша апушчэнства, мае вы дзеткі. *Хожава.*

АРА́ВА ж. Мнагадзетная сям'я. Сам стары раз у гадзіну дыхая, а трэба і на сябе, і на араву гэту рабіць, бо малыя есьці хочуць. *Волма.*

АРЭЙДАЛА м і ж. Нязграбны, нягеглы, недарэка. Ідзі прынясі дроў з-пад паветкі! Што ты стаіш, як арэйдала! *Слабада.*

АРЭХАЎКА ж. Арэшына. Зялёная арэхаўка на тын налягаіць. *Слабодка.*

АСКАЛЕПАК м. Аскепак. Пабілі мне люстэрка, адны аскалепкі засталіся. *Даўматаўшчына.*

АСЛЕПНУЦЬ перан. Забыцца (знарок). Аслепнеш, як будзеш жаніцца. І Міша казаў, пазаву, пазаву, а як прыйшлося, дык і аслеп. *Хожава.*

АСЛЯДЗІ́ЦЬ зак. Высачыць. Вот аслядзілі іх і злавілі так, нават на возе злавілі, не ўспелі крадзенага прыняць. *Волма.*

АТОХЦІСЯ зак. Задыхацца. Так спяшаўся, што ажно атохся. *Язвіна.*

АТРУПЯНЕ́ЦЬ зак. Вельмі спалохацца. Як немцы ішлі ў вайну, пашла я жыта жаць. Жну, а ня ведаю, што немец у жыце забіты ляжыць. Дажалася да яго — аж атрупянела і серп выпусціла. Ніколі мерцьвяка не бачыла сярод поля лежачы. *Краснае.*

АСПАДА́Р м. Гаспадар. Аспадары былі такія журлівыя, вечна ім не дагодзіш. (...) Німа майго аспадара дома, ён бы многа чаго расказоў, ён умея. *Краснае.*

АСТАЛБАВАЦЦА зак. Спыніцца. Пісоў мой сын, што яго асудзілі за многажонства, ён і на гэтым не асталбуецца. *Рудня.*

АСТЫРА́СЬ ж. Непрыемнасць, прыкрасць.Была сям'я як сям'я. Ні сваркі той, усё добра, суладна, каб не браток добры. Нарабіў зводаў, укінуў астырась у хату, а цяперака жыцця нікому німа. *Краснае.*

АТА́БУРЫЦЬ зак. Размясціць. Як у нас немцы былі, яны тут гарнізон атабурылі. *Рудня.*

АТО́САК м. Сталёвая провалка, што злучае ў возе кола з аглобляй. Атосак саўсім перарэзала. *Бірулі.*

АТЫМА́ЛКА ж. Ануча для адымання гаршкоў. Во гаспадыня, як дасьць бог раніцу, дык атымалку ніколі ня нойдзе, галаву цёмгля зьверне шукаючы. *Краснае.*

АХРА́К м., зневаж. Саплівы чалавек. Вот ужо людзі не роўныя, як кажуць: хто арэ, хто барануя, усіх бог не параўнуя. Антось Таўпекаў, дык як у яго толькі нос не адгніе, цёмгля каплі пад носам вісяць. Ахрак ахраком. *Краснае.*

АХРАПАК м. Асяродак у качане капусты. Як шаткавалі капусту, дык мы, дзеці, надта любілі ахрапкі есці. Ад недаяду, пэўна, ад голаду. *Слабада.*

АЧУЦІ́ЦЦА зак. Апрытомнець. Доўга Сцяпан ляжаў, пакуль ачуціўся. Нарэшце ачуціўся і прыпомніў: «Каб яго халера з Абрамам, проўда, за год разабрала, добра закруціла ў галаве». *Ракаў.*

АЯЮСЕНЬКІ выкл.

Ой, божа мой, аяюсенькі,
Не баюся я нікагусенькі. *Малінаўка.*

## Б

БА́БКА ж. Лічынка страказы. У рацэ водзяцца бабкі, казяўкі, возьмеш шуфель, навыцягваеш іх з гразі, начэпіш — і тады плотка бярэ. *Рудня.*

БАГА́ТАЧКІ мн. Кветкі. Напярэдадні Яна хадзілі ў поле, шукалі кветкі такія, багатачкі; чыя распусціцца — будзе багаты. *Глыбоцкі р-н.*

БАГАТУХА ж., уст. Каляндарна-абрадавае свята. Як я была дзеўкай, дак багатухі спраўляліся, музыка была харошая. *Хожава.*

БАГАЧ м. Свята, якое прыпадае на 8 верасня ст. ст. Гэта было ўвосень, на багач. Узяў гарэлкі, хлеба, клікнуў дзядзьку і пайшлі ў сваты. Коцькі. Прыйшоў багач, кідай рагач, бяры капач. *Тамсама.*

БАДЗЮЛЬКІ толькі ў мн. Дзядоўнік. Прыдзі, кумачка, да мяне жаць. Не пайду, кажа, бо бадзюлькі колюцца ў рукі. А назоўтрае прышла кума гарнец мукі пазычыць, а я ёй так адказала: «Як я ў кубел па муку, дык бадзюлькі за руку». І не дала ёй мукі. *Краснае.*

БАЁВІК м. Жаночы жакет з байкі. Уперад быў такі таўсты бай, мультан. А з яго шылі баёвікі кароценькія, на падкладачцы. *Краснае.*

БАЗОВАЦЬ незак. Угаворваць, ушчуваць. Прыходзіць Васіль да нас і пытае, чаму раскідана печка. Муж кажа, што не палілася, дык і раскідаў. Васіль яго базоваў-базоваў і кажа: «Ты ж, дурань, усё паб’еш». *Рудня.*

БАЙСТРУК м., абразл., уст. Дзіця ад грамадзянскага шлюбу. Верка Халявінская нарадзіла байструка, а бабка падсаветавала — і задушылі яго. Тады не дагадзілі гэнай бабцы, яна і выявіла ўсё! *Краснае.*

БАЛАБО́НЫ толькі ў мн. Дурніцы, буякі. А было ж у нас. Дзве дзяўчынкі, год ім па сем было. Наеліся гэных самых балабонаў дый захварэлі... *Хожава.*

БАЛАНТЭС м. Той, хто балантэсіць.

БАЛАНТЭСІЦЬ незак. Гаварыць абы-што пустое. Ат! Балантэс балантэсіць, а ты слухаеш. *Слабада.*

БАЛАНТЭСЫ (п’яныя) мн. Пустыя, неразумныя словы. *Слабада.*

БАЛАТОРЫЯ ж. Лабараторыя. Як толькі развіднела, так і вярнуліся з балаторыі. *Хожава.*

БАЛАЦІНА ж. Лагчына, у якой застойваецца вада. Такая балаціна там, дождж як ідзе, дык вада туды сцякае. *Кукалеўка.*

БАЛДЫГАВАЦЬ незак. Бегаць, хадзіць марна, траціць час упустую. Цэлы дзень балдыгуе сабе і ні якой работы не знае. *Слабада.*

БАЛЕ́СЦЬ ж. Хвароба, боль. Не ўсякі боль роўны, ня роўная балесць. *Волма.*

БА́НДАЖ м. Калун. Дзед жа з Гойтава бандаж прывёз, добра будзе пні тыя пашчапаць. Найтаўсьцейшыя палены расьсякае, гэткі добры. *Краснае.*

БАНКА́РТ м. Пазашлюбнае дзіця, байструк, бэнсь. Ён жа банкарт! *Бірулі.*

БАНСЮК м. Пазашлюбнае дзіця. Ён жа бансюк, але не такі, як усе. Бывае ж і бансюкі ўдаюцца, гэты ж — дык ні людзям, ні сабе. *Рудня.*

БАРАН м. Вялікі габэлік, якім габлююць удвух. Баранам выскраблі доскі ўсе. *Бірулі.*

БАРАНАВАЛО́КІЯ прым. субст., уст. Наёмныя работнікі, якія баранавалі зямлю. Некалі пан баранавалокія нанёў. Але ж і гультаі былі. Хоць ты ім што хочыш рабі, усё роўна па-свойму барануюць. Дзе ж ты дзенешся, у такую пару ён бы лепшых не знайшоў. *Краснае.*

БАРЗДА прысл. Вельмі. А ўжо пры панах ня барзда важна было. *Хожава.*

БАРЛЯЦЬ (збарляць) незак. Грэбліва перабіраць лыжкай (відэльцам) якую-небудзь страву. Што ты барляеш? Еш, калі паставілі, а не барляй! *Слабада.*

БАРЫШ м. Выкуп за маладую і яе пасаг. Маладыя таргуецца за куфар, сват патрабуе барыш. *Рудня.*

БАРЫШЫ мн. Змовіны, заручыны. Малады, калі ідзе ў сваты, бярэ звычайна дзядзьку, бацьку хроснага або шурына. П'юць у дзеўкі барышы, калі яна дае згоду. *Рудня.*

БАЎДЗІЛАВАТЫ прым., зневаж. Дурнаваты, недалёкі чалавек. А жаніх той ні п'е, ні есць, ні разгаворчывы быў, такі баўдзілаваты. Сядзіць толькі, рукі трэ і думае, як тут да іх патступіцца. *Краснае.*

БАЎТУШКА ж. Яечня на «разбітых», разбоўтаных жаўтках. У адрозненне ад яечня «на вочках» ці «на гузіках». *Слабада.*

БАХАНЁЦ м. Форма ацэнкі ад бохан. Дала хлеба баханец. *Новы Свержань.*

БАХІЛЫ толькі ў мн. Чуні. Бладзя наш валёнкі зьбіў на зіму. А на гары гэткая ж добрая камера. Валяецца, якраз на бахілы да валёнкаў будзе. *Краснае.*

БАЦ м. Пацук. Зноў у хаце бацы завяліся, былі прапалі, нех іх халера вэзьме. *Навагрудскі р-н.*

БАЦВІННЕ н. Буракі, страва, звараная з маладога лісця буракоў. За адным бацьвіннем касы не пацягнеш. *Мурожніца.*

БАЯРКА ж. Удзельніца вясельнага рытуалу з боку жаніха і нявесты. Баяркі, дзеўкі, садзіліся на покуце. *Хожава.*

БЕЗГАЛОЎЕ н., толькі ў адз. Нечаканая бяда, няшчасце, мор. Учора Аньця прыходзіла і во якую бяду расказала. Кажа: «Чула, цётка, якое безгалоўе зрабілася ў Халявінскага?» Гэта ж прыехаў злыдзень той, зяць іх, хацеў дошкі красьці ў цесьця. Халявінская выйшла паглядзець — анёж машына на дварэ. Яна гвалт справіла. А зяць як стукне дошкай, дык Халявінская і не паднялася. Але ж і злыдзень, гэта ж чалавека забіў! *Краснае.*

БЕ́ЗСЕБЯ прысл. Кінуць без прыгляду, без дагляду. Гэтае дзіця вечна безсебя. *Слабада.*

БЕ́ЛЕВЫ прым. З белі — белага фабрычнага палатна. З распушчанымі валасамі ў доўгай белевай сукенцы ішла Ганна па вёсцы. *Нарэйшы.*

БЕЛЬ ж. Палатно. На той кладцы слічна паненка рукі мыла, бель бяліла. *Удзела.*

БЕРКУЛЁЗ м. Туберкулёз. Муж забалеў васпаленнем, а потым беркулёзам і жаўтухай, і ўсё разам у кучу перамяшалася. Памёр. Рабіў механікам. *Рудня.*

БІКСА ж. Высокая, здаровая дзяўчына. *Язвіна.*

БІЛЬЗІН м. Бензін. Сагналі немцы ўсіх людзей: малых, і старых, і баб, далі з аўтаматаў чаргу, аблілі хлеў більзінам і падпалілі. *Рудня.*

БІ́МБУС агульн., асудж. Гультай. Што цяперака за сьвет, якія дзеці гультаі, бімбусы гэткія! Паехала ў бальніцу, а хату, як пакінула, так і застала. Ці ж табе не можна было ачысьціць у хаце? Адзінаццаць год дзяўчыне, а за халодную ваду не бярэцца. *Краснае.*

БІТЫ[1] прым. Уезджаны. Не пайду дамоў, тут заначую, пры белай бярозе, пры бітай дарозе. *Канстанцінава.*

БІТЫ[2] дзеепрым. Спрытны, увішны, дападкі. Ён просты мужык быў, але настолькі па-воінску біты. *Хожава.*

БІРКУЛЁЗ м. Туберкулёз. Хворы быў, дык яго біркулёзам звалі. *Язвіна.*

БЛАГУТА́ЦЬ незак. Гаварыць глупства, благое пра чалавека. 1) Як пачне блюзьніць, благутаць, дык хоць ты вушы затыкай. 2) Каб сказоў, што п'яны ды благутая, а то цьвярозы і вот благутая і благутая. *Волма.*

БЛАКІРОЎКА ж. Блакада. Была блакіроўка. З вёскі ніхто не мог уцеч. Сядзелі ў ямах. У нас тут самы парцізанскі край быў. У вайну немцы некалькі раз палілі нашу вёску. Блакіроўка была, ачапілі ўсю вёску, сказалі, што ёсць у нас партызаны. *Рудня.*

БЛЫНДАЦЦА незак. Блудзіць. Чакай, карову павяду ў поле. Гора з ёю: і ў поле вядзі, і з поля. Прывыкла дзе папала блындацца... *Хожава.*

БЛЮЗНІЦЦА безас. Здаецца. Дурню дурное блюзніцца заўсёды. *Волма.*

БЛЮЗНІЦЬ[1] незак. Трызніць, гаварыць без памяці. Як захварэла на ціф, дык начэй з тры блюзьніла, не маглі яе ў сябе прывесьці. *Волма.*

БЛЮЗНІЦЬ[2] незак. Гаварыць глупства. Ні люблю нават слухаць. Як пачне блюзніць, благутаць, дык хоць ты вушы затыкай. *Волма.*

БО́ГАЧ м. Грамафон. Раней яўрэй Ілька тут жыў. Меў богач, гэта таке грамафон быў, труба была вялікая такая, як бы ў складачкі, блішчастая ўся. *Рудня.*

БОЛЬКА прысл. Балюча. Пазаўчора на рэчцы ножку распаласавала. Болька табе, Аксаначка? *Рудня.*

БО́МА ж. Гл. Бонба. Ігнась, можа ў цябе бома ёсьціка? Хацеў хляўчук перакрыць, німа жэрдкі ніякай доўгай, бому зрабіць. *Краснае.*

БО́НБА ж. Доўгая жэрдка, апора для будаўніка, калі крыюць саламяную страху. Піліп да нас усё бонбы прыходзіў пазычыць, хацеў хлеў пакрыць. Дык казоў, што салома надта ж благая ў яго, стрыхоўкай ані яе не ўкіруіш, не выраўніш. *Краснае.*

БОРКІ мн. Баруканне. Узлезлі на хату і ўзяліся ў боркі. *Кальнік.*

БО́ЎДЗЯЛА агульн., абразл. Дурань. На вяселлі Лукашовым толькі вочы палалі праз гэтага боўдзялу. Трэба ж гэтак напіцца! *Краснае.*

БРАВЭРКА ж. Целагрэйка. Трэба павесіць бравэрку, каб пасохла. *Волма.*

БРАЖДЖА́ЛЬ м. Брызгліна. У нас каля рэчкі такі куст браждждалю расьце. На ім такія ружовенькія сярожкі, а ў сярожках завязваюцца ягадкі. Гэныя ягадкі, кажуць, зелле добрае. *Краснае.*

БРАТО́ЎКА ж. Братавая. Як прыду са школы, то братоўка работаць застаўляла. *Рудня.*

БРАХАЦЬ незак. Маніць, хлусіць. Вада згатавалася. Гэта ж я брахала, што нічога не вару. *Рудня.*

БРАЦЕНІК м. Брат. Да ездзілі два брацанікі па полю, да згубілі варанога каня падкову. *Рудня.*

БРАЦІХА ж. Братавая. Месяцы тры пажыла дармо, а потым брацiха выгнала мяне. *Рудня.*

БРА́ЦЦА незак. Старацца. Ахвоту ўнук мой меншы надта ж на целевізар мае, дак да вучобы не надта ж, каб браўся. *Хожава.*

БРОІЦЬ незак. Гарцаваць. На тым сівым кані малойчык выязджаіць, а пад ім кося броіць. А не брой, кося, не брой, капытом зямлю не крой. *Слабодка.*

БРУНГАЛА толькі ў адз. Ворчык. Цяперака слоў даўнейшых маладыя не знаюць. Кату надовічы: «Вовачка, прынясі брунгала». Ён пайшоў, пакруціўся і кажа: «Дзедка, нідзе німа таго брынджала». *Краснае.*

БРУНТКА ж. Маленечкая бірачка з дрэва, на якую зашпільвалі споднія штаны. Паміж біркай і

брунткай няма адрозненняў... бірка і брунтка толькі ў калісонах... настолькі ашчаднасць была. *Ляшчынск.*

БРЫГА́ДНІ прым. Брыгадны. Раніцой можна пайсьці на брыгадні двор, там паўсотні народу зьбіраецца. *Хожава.*

БРЫДЗІЦЦА незак. Грэбаваць. Як гэта есьці не хацець, я думала, вы брыдзіцеся. *Хожава.*

БРЫЗГАЦЦА незак. Грэбаваць, адносіцца з пагардай. Мая ты Юзюнька, хай яна не брызгаецца гэным хлопцам, бо ўжо штогод сама ідзе ўніз, а не ўверх. *Волма.*

БРЫК выкл. у знач. вык. Раптоўна знікнуць, перарвацца. Німа каму ісці даіць. А каровы дзень пастаяць — малако ўжэ брык. *Рудня.*

БРЫКА ж. Воз для перавозкі сена. Брыку маю разбілі саўсім. *Бірулі.*

БРЫЛЬ м. Выступ у коміне. Робіцца перад печы да столі, затым робяць брыль, вышэй — юшкі. *Рудня.*

БРЫНЧЭЦЬ незак. Ціха пазвоньваць. Дзень адрабіў, а вечарам злот у кішэні брынчыць. *Хожава.*

БУБЛІК м. Плод слівы. Во на гэнай сьліве былі такія бублікі, што атрасалі. *Хожава.*

БУЗА ж. Рэдкая гразь. Дно бузянае саўсім, адна буза. *Бірулі.*

БУЛЬМА ж. Бульба. У нас кажуць бульма і картопель. Пасля вайны есці не было чаго, ведама пасля такога гора. Бывала надзяру бульмы палавіну, палавіну мукі і пяку хлеб. *Рудня.*

БУРАЧКОВЫ прым. Лілова-чырвоны. Як запляцеш каснікі і зялёныя, і бурачковыя, дык каса аж жа пояса. *Рудня.*

БУРВАЛА́К м. Невялікі ўзгорак, сухое месца на нізіне. Летась сена ўкасілі ў лесе, але з возам не

пад'ехаць было, дык выцягвалі з вады на бурвалак. *Краснае.*

БУРДО́ВЫ прым. Бардовы. Бурдовы бяры, ён не ліняе. *Хожава.*

БУРКАЛЫ мн., груб. Вочы. Ну што ты свае буркалы вылупіў? Што ты прыкідваешся, як бы і сапраўды не ведаеш? *Язвіна.*

БУРЫЦЬ. Брадзіць. У мяне варэньне ніколі не бурыць.

БУХТА ж. Глыбокае месца ў рэчцы. Бухта ўвечары здалася нам чорнай, злавеснай. *Нарэйшы.*

БЭБАХІ мн. Абы-як кінутае адзенне, таксама — коўдры, простыні. Прыбяры свае бэбахі! *Язвіна.*

БЭРЛІЦА ж. Мука з зерня нізкага гатунку. Як вееш жыта ці якое дабро, дык лепшае зьбярэш, а пазадкі ўжо на промяшку ці на бэрліцу ідуць. Карова натта ж сечку з бэрліцай добра есьць, але цяперака ані німа, бульбу даём. *Краснае.*

БЭРСАЦЬ незак. Блытаць, зблытваць. От зараза: усе ніткі мне пабэрсала! (На кошку.) *Слабада.*

БЭСЦІЦЦА незак. Здзекавацца. Колькі ўжо яму хацелася — змываўся, бэсціўся над кабетай, як здаровая была, а як цяпер канаёнцая, ляжыць — дык шкадаваць пачаў. *Волма.*

БЭСЦІЦЬ незак., асудж. Не берагчы, не шанаваць што-небудзь. А калі вытчыш і завяжаш — аж хлапцы заглядаюцца, гэткія яны былі зграбныя. Пільнуешся, каб хаця не бэсьціць, каб надаўга была. *Краснае.*

БЯДУЛЬКА агульн., іран. Чалавек, які без прычыны любіць наракаць на лёс. Жонка яго гэткая бядулька, усё бедніцца. Сколька ў яе чаго есьціка, ніколі яна не пахваліцца, а ўсё плача, усё бядуе, што ў яе недаставае хоць чаго. *Краснае.*

БЯЗДОЛЬНІЦА ж. Гаротніца. Жанчына без долі і шчасця. Як багатую сястру на дарозе пераймаюць, а мяне, бяздольніцу, на парозе не спазнаюць. *Прудок.*

БЯЗМЕН м., груб. Тупы, някемлівы чалавек. А гэты немец, што нас вёў нейкі бязмен быў бязменам, ён загледзеўся, а мы шморг і ў лес. *Рудня.*

БЯЛІЦЬ незак. Здымаць скуру з зарэзанай жывёлы. Бярыцеся адразу і бяліце (авечку), пакуль відна. *Бірулі.*

БЯЛЬМА́ТЫ[1] прым., перан. Няясны, расплывучаты. Праўда, хустка аблезя, бо гэны бок зусём бяльматы. *Хожава.*

БЯЛЬМА́ТЫ[2] прым., груб. З вялікімі вачыма, зякраты. Бяльматы той з Клябані ўнадзіўся хадзіць да Надзі. Ці ж яна яму пара? Гэткая красівая дзяўчына, а ходзе з ім. *Краснае.*

БЯРОЗАВЫ ЖУК м. Хрушч. А галавень — гэты бярэ сама лучшай на бярозавага жука. *Рудня.*

## В

ВА́ДЗІЦЦА незак. Сварыцца. Чым ён цябе угнявіў, што ты з ім так вадзішся? *Бірулі.*

ВАЖДАНІ́НА ж., толькі ў адз. Доўгая марудная справа, валаводжанне. Як свой хлеб пяклі, дык столькі важданіны было. *Хожава.*

ВАЛТУХАЦЬ незак. Валтузіць. Нашто ты яго валтухаеш? *Бірулі.*

ВАЛАЧЫСЯ незак. Ісці запаволенай хадой, цягнуцца. Ён ужо ўвесь счарнеў, як зямля, ледзь валочыцца. *Хожава.*

ВАЛЬ ж. Вэлюм. А ёсць меснасці, дзе заведзяно мераць усім падружкам валь маладой. *Рудня.*

ВАЛЯВА́ТЫ прым., ад Валяк. Той, у якога тоўстая шыя. Во была ў нас баба валяватая, што галаву не апусьця ўніз, з паўбулкі хлеба пад барадой. *Краснае.*

ВАЛЯК м. Падбародак. Такі валяк вялікі, з паўбулкі хлеба пад барадой. Пад старасьць знашоўся ён у яе! Казалі, што цяжкія роды пашкодзілі. *Краснае.*

ВАНДЗЭЛАК[1] м. Клунак. Міхалінка сядзя пад дубам, дапільнуе, пакуль яны абуюцца, зьбярэ іхнія вандзэлачкі зь ядой, каб не пагублялі, тады і вядзе ў лес. *Краснае.*

ВАНДЗЭЛАК[2] м. перан. Дзіця малое, на руках. Дай мне патрымаць гэты вандзэлак, табе ўжо рукі самлелі. *Слабада.*

ВАНЦАЧ м. Хвароба, заварат кішак. Ці не ванцач табе прываліў? *Слабада.*

ВА́РА ж. Трава, густая, сакавітая. Па аналогіі з бацвіннем у гародзе. Вой, тут такое балота было калісьці, як станеш, дык і едзеш, а кустоў, кустоў! Бывала, сена косіш, дык па пояс вара, і грабеш, а топка, топка! *Рудня.*

ВАРАЖБІТ м. Уст. Той, хто ўмее варажыць. Во, удод ужо крычыць: «Дож-дож, дож-дож, сей бульбу і боб». Гэта птушка добры варажбіт. *Краснае.*

ВАРАНЕЦ м. Конь вараной масці. Асядлаў свайго коніка варанца. *Крыўцы.*

ВАРАЦАКІ м. Ваніты. (Ад варацаць — ванітаваць.) Цягне, як ката на варацакі. *Слабада.*

ВАРО́ЖКА ж., уст. Жанчына, якая займаецца варажбой. А я, мае дзяўчаткі, у варожкі не веру. *Хожава.*

ВАРУВАЦЦА зак. Саромецца. Прышла я да іх, зяць ляжыць напіўшыся. Мне так гэта ўсё не па сэрцы. Яна нешта сказала, дык ён біцца да яе. Я б табе, кажа, не так доў, але маткі варуюся. «Чаго ж тут варувацца, сынок, што панаіменавана, тое й рабі», завярнулася і пашла з хаты. *Краснае.*

ВАРЫЎНЯ ж. Невялікі будынак, у якім захоўваюць гародніну. Істопка. Сама села на парозе ў варыўні, высыпала бульбу і перабіраю, думаю, не палезуць сюды. *Хожава.*

ВЕЛЬМА прысл. Вельмі. Вельма жыць спачатку не хацеў. «Куды ж я, кажа, без рук і без ног...» *Рудня.*

ВЕСІЛЬНІЦА ж. Вісельня, шыбеніца. Падагналі нас немцы да вёскі і сталі рыхтаваць весільніцы. Але парцізаны перабунтавалі ім усё. *Рудня.*

ВЕ́ШАЛКА ж. Вяшак, гіцаль. Пятля, за якую вешаюць куртку. Парвалася вешалка ў куфайцы. Трэба новую прышыць. *Ляшчынск.*

ВЕРХАВОДЗЬ ж. Верхаводка. Рыба ў нашай рэчцы плодзіцца. Ёсць акунь, плотка, карасі, ліны, пяшкуры, сліжыкі, верхаводзь... *Рудня.*

ВЕРХНІЦА ж. Верхняя частка невада. Вы ж верхніцу ўпусцілі, мальцы. *Бірулі.*

ВЕТРАЦІ незак. Сушыцца на ветры. Гаварыла баравое жыта, у полі стоячы, гаварыла: дый не буду на полі стаяці, на ніве ветраці, дый не буду. *Нарэйшы.*

ВЕТРУГА́ ж. Моцны вецер. Узнялася ветруга, а я ж за адну панчахэ прывязала дульку. *Хожава.*

ВЕЯЛКА ж. Савок, якім веялі жыта. А вунь яна, веялка, у смецці ляжыць, непатрэбная ўжо і кінулі. *Навагрудскі р-н.*

ВЕ́ЯНКА ж. Посуд з саломы для веяння зерня. У маёй мацеры была яшчэ веянка, а ў мяне німа. *Навагрудскі р-н.*

ВІДЭЛЬЦА н. Відэлец. Ля кожнага чалавека пакладу відэльца і нож, прынясу вядро малака і пастаўлю — самі налівайце. *Рудня.*

ВІННІК м. Уст. Чалавек, які займаўся вырабам віна і гарэлкі ў панскіх маёнтках. Нас знайшоў панскі віннік, што водку гнаў. *Хожава.*

ВІТКА ж. Звязаныя вярхамі лазовыя ці бярозавыя галіны, якія ложацца на верх стога. Забыліся ўзлажыць віткі. *Бірулі.*

ВІТУШКА ж. Пяньковая вяровачка, якой прывязвалі лапаць да нагі. Аборка. У нас было дванаццаць душ, кожнаму трэба было сплесці лапці. Бралі ліпавыя пучкі, з іх плялі лапці. Былі і вітушкі і раменкі. Вітушкі з пянькі, а раменкі са шкуры. *Рудня.*

ВОБУЙ м., толькі ў адз. Абутак. На гэта балота вобую ні на нагу німашка. Хоць бы галяшовікі якія купіць. *Краснае.*

ВОГАРТКІ мн. Бакавыя дошкі на возе для возкі бульбы. Драбінкі знімалі з воза і клалі дошкі, іх называлі вогарткі. *Навагрудскі р-н.*

ВО́ЙЛАКІ мн. Валёнкі. Унясі войлакі ў хату, што марудзіш? *Навагрудскі р-н.*

ВОЛЕ і ВАЛЁ н. Валлё. Набіў воле. Збіраў як валё. *Навагрудскі р-н.*

ВОЛЬНАСЦЬ ж., толькі ў адз. Панос. Стары мой захварэў, вольнасць такая праняла, саўсім абнядужаў за гэтыя дні! *Краснае.*

ВОСЛА (ВОСЛА) ж. Аса. Або, я раз на цэлы мех вослаў наткнуўся. Во страху набраўся. Ух, лепей асьцерагацца, бо жыгала надта ўрэднае. *Краснае.*

ВУВЯЗКА ж. Жэрдачка для прымацавання саломы (да латаў) пры накрыцці страхі. Цяперака саламяных стрх сусім мала. А даўней клалі салому, расьцілалі ў рады і тады прыкладавалі вувязку, а дубцамі прывязвалі да латаў. *Краснае.*

ВУПАР агульн., неадабр. Упарты чалавек. Некалі ж да нашай Ніны добры хлапец сватоўся. Хата была як шклянка і жыў надта ж добра. Але ўпарты — не перапрэш. Ніна прыдзе калі з гулянкі і кажа: «Вацак на мяне заглядаецца». Дачушка ты мая, на чорта табе гэты вупар, ён жа ішчэ й доўгі, як вочап, увесь у бацьку. Такі я яе адгаварыла. *Краснае.*

ВУРЗГАЦЬ незак. Сёрбаць пры шчырай ядзе. Во, брат, вурзгае! Прагаладаўся. Усё вывурзгаў, чыста. *Слабада.*

ВУЦЬ ж. Качка. На возеры вуць плавала. *Прудок.*

ВЫБІРА́ЧКА ж. Жанчына, якая выбірае бульбу. Сабіроў Іван выбірачак бульбу выбіраць і да нас зайшоўся. А мама бліны пякла на снеданне. Пасядзеў ён і кажа: «Што ты, што ты ім пячэш, гэтыя налісьнічкі, ты б наліла роўна зь берагамі, ён бы адзін з'еў і адваліўся». *Краснае.*

ВЫБРАНЗАЦЦА зак. Высыпацца, паабрывацца. Хустка выбранзаецца, калі не зарубленая. *Хожава.*

ВЫБЫДЖГА́ЦЬ незак. Праяўляць пераборлівасць. Німа чаго выбыджгаць з ядой, з'еў абы пад'есці, а ні выбіраць — гэтага ні хачу, гэта ні смашна. *Волма.*

ВЫЙЕЗД м. Вяроўка, якой замацаваны канец невада. Выйезды будзем выцягваць. *Бірулі.*

ВЫКУП м. Адзін з этапаў вяселля, сімвалічная плата за маладую, яе пасаг. Сват ідзе за маладой, дзеўкі яе не аддаюць, выкупа просяць. *Рудня.*

ВЫЛЕЎНЫ прым. Спорны, моцны, праліўны. На вуліцы такі дож вылеўны сцёбая, што сцёклы ў вокнах трымцяць. *Волма.*

ВЫЛІВАК м., перан. Здыхляк, кволы, як яйцо-вылівак. Не дзіця, а вылівак нейкі. *Слабада.*

ВЫМЕРАЖЖКАВАНЫ дзеепрым. Мярэжысты. Помню, пашылі мне паркалёвую сукенку з карманамі, троху вымеражжкаванымі. *Волма.*

ВЫМЕРХАЦЦА зак. Выгаладацца. Вымярхаюцца, во ляцяць: «Давай, баба, есці». Там кашкі прасілі, дак зараз дам малачка. *Рудня.*

ВЫНКНУЦЦА зак. Сплаціць, аддаць доўг, выбрацца з доўгу. Я во цяпер вынкнулася, а ён два парсюкі здаў. *Хожава.*

ВЫПІТЫ дзеепрым. Тое, што і быў выпіўшы. Чалавек у стане нямоцнага ап'янення, не зусім п'яны. А ён прыйшоў выпіты, ну і сарваўся. *Слабада.*

ВЫПЯТРЫЦЬ зак., зневаж. Схуднець. Ятроўка яе, Кастуся, як замуж зашла, дык як пятрына, выпятрыла саўсім. І мужык добры, яна ў яго цёмгля ўхвалёна. *Краснае.*

ВЫСАЛАПІЦЬ зак. Высунуць язык. Куды гэта ляціш, язык высалапіўшы? *Слабада.*

ВЫТВАРАЦЬ незак. Свавольнічаць. А мы што хацелі тое і рабілі, вытваралі гэтак усякія штукі. *Волма.*

ВЫТУЗАЦЬ безас., зак. Званітаваць, вырваць. Уздыхнула нешта, а камар у рот ускочыў і сядзіць там. Я вады быстрэй. Вытузала мяне. *Рудня.*

ВЫХАВАЦЬ зак. Трымаць, даглядзець жывёлу, птушку. У вёсцы лепей і карову выхаваю. *Хожава.*

ВЫХАРТАВАЦЦА зак. Выбегацца і выгаладацца. Выхартаваліся, дык галодныя, як сабакі. *Рудня*

ВЫЦАЦКАВАНЫ прым. Спешчаны, гадаваны. Паехаў Бладзя на торг парасё купляць. Я яму й кажу, што не купляй жа такога выцацкаванага, самі будзем цацкаць. *Краснае.*

ВЫЦЕПЛІЦЬ зак. Прапаліць. Выцеплілі лазню, ідзіце мыйцеся. *Мацкі.*

ВЫЦМУГЛЫ прым. Высокі, тонкі ў поясе. Вася там туюю нядзелю дамоў прыязджоў с хлапцамі. Абудва хлопчыкі такія выцмуглыя, глядзець люба. *Краснае.*

ВЫЧУБІЦЬ зак. Убраць насенную канюшыну — паставіць «у кучкі» з пракосаў. А мы да абеда, мусі, з гактараў тры вычубілі. *Хожава.*

ВЫЧУЦЬ зак. Падслухаць, пачуць. Вычула яна (Баба-Яга), як бабка клікала Івасіка. *Зачарэўе.*

ВЫЧЫСЦІЦЬ безас., зак. Ванітаваць, нудзіць. А як вычысьціла яго, дык пачаў прасіцца: гэна, кажа, хлопцы, пусьціця мяне дамоў. *Хожава.*

ВЫШТУКОЎВАЦЦА незак. Займацца выдумкамі, жартамі. Кінь, не выштукоўвайся, а то аж брыдка глядзець. Без штукаў і дня пражыць не можаш, што дзіця, сталасьці не маеш. *Волма.*

ВЭЛЕН м. Вэлюм. Усе прыбіраюцца ў вэлены, як маладая. Раней вэлен доўгі быў, ажно па зямлі цягнуўся. *Хожава.*

ВЭЛЬ ж. Вэлюм. Маладая вэль надзяе. Вэлі доўгія былі, куплёныя, а ў каторых не было, дык з марлі рабілі. Накрухмаляць, яна і стаіць. *Рудня.*

ВЫЮДЗГАЦЦА зак. Упэцкацца. Паглядзіся ў люстэрка вунь, выюдзгалася ў сажу ўся, аж страх глянуць на чалавека. *Волма.*

ВЯДРОНЫ прым. Багаты на ўраджай. Вядроныя рабіны — будзе вады па аглабіны. *Маскалі.*

ВЯСНА ж., зборн. Вясеннія песні. Даўней святы розныя праходзілі от як: хлопцы водку ўжо сабіраюць, дзеўкі — закуску. Тры дні гуляюць. Вясной ізноў: «Вясну» пяюць, на Вялікдзень — валачобныя. *Рудня.*

ВЯТРАНКА ж. Вятрак. Былі ў нас вятранкі, а ў вятранку тую засыпалі збожжа, я чуць помню. *Кукалеўка.*

ВЯТРОЎКА ж. Ятроўка. На судзе былі мае дочкі, вятроўкі, а гаварыла толькі я. *Рудня.*

ВЯЧУРКА ж. Вечарынка. Ішла я, помню, з дзеўкамі на вячорку, на танцы, і пасьлізнулася. *Волма.*

## Г

ГАГА́НЕЦ м. Гальштук. На кірмаш сягання саброўся ісьці, дык гаганец прычапіў да кашулі, а дачка пытаецца, чаму я разадзеўся, як на выставу. Як старому, дык прыбрацца як сьлед няможна. *Краснае.*

ГА́ДКІ прым. Брудны. Німа ў чом вады паставіць, усе гаршкі гадкія. *Волма.*

ГАЛЕТНІК м., пагард. Бядняк. Або, галетнікі гэныя, як ім не брыдка толька. Сколькі ні давай — усё роўна мала. Падранага меха ніколі ні напоўніш. Я ж гэтулькі ім перапёрла, а ні якой падзякі, усё адно благая. *Краснае.*

ГАЛЯНІСТЫ прым. Галінасты. За новымі ды варотамі стаіць вярба галяністая. *Вярхуціна.*

ГАЛЯПАВАЦЬ незак. Моцна крычаць, гукаць, лемантаваць. Чаго ён на ўвесь лес галяпуе? *Слабада.*

ГАЛЯШОВІК м. Жаночы абутак, кароткія рызінавыя боцікі. Хай цябе немач, увалілася ў шумалку, поўныя галяшовікі вады набрала. І не па ночы ішла, а повідну. *Краснае.*

ГАМЗАНУЦЬ зак. Сказаць у нос. Ты ж баішся сказаць, нешта гамзанула сама сабе пад нос. *Хожава.*

ГАМЗІ́ЦЬ незак. Гаварыць у нос, невыразна. І што ён за чалавек, гамзане ў нос нешта, а ты гадай, што ён казоў. Цёмгля гамзіць, не па-людзку гавора. *Краснае.*

ГАМЗУК м. Гамзаты. Ён быў з малых год гамзаты, дык як назвалі гамзуком, так і завуць. *Застадолле.*

ГАМЗУН м., зневаж. Чалавек, які гаворыць невыразна, у нос. Калі гэта я суседа стрэў, дык я і не ведаў, што ён гамзун. Нешта пра соткі свае казоў, я дык і не разабраўся. *Краснае.*

ГАМЗУХА ж., зневаж. Гл. гамзун. У гэнага Ангельскага ў Хайценях швагерка гамзуха. Як загавора, то не поймеш, што яна там гамзіць. *Краснае.*

ГА́МІНЬКАЦЬ незак., з дзіц. лексікі. Есці. Давай будзем гамінькаць (ад гам-гам). *Волма.*

ГАМО́Н м. Канец, смерць. Яму гамон будзя, не выжывя, бо стары і ўдражніў балесьць, задоўніў. *Волма.*

ГАМЭРНЯ ж. Памяшканне, поўнае шуму-гаму. Аксана, сціхні, а то як у гамэрні якой. *Рудня.*

ГАНАРО́ВЫ прым. Ганарысты. Тады ён паехаў у часьць ды кажа брату, што сястра твая дык надта ж ганаровая. Хацеў пагаварыць з ёй, дак наадрэз адказалася. *Хожава.*

ГАНОРНА прысл. Ганарова. Жыў стары дзядзька, зваўся Васіль, а фамілія была Голад, а хто хацеў дужа ганорна, дык называў «дзядзька Голад». *Мацкі.*

ГАНЬБАВА́ЦЬ незак. Грэбаваць. Вам дзякуй, што не ганьбуеце старым. *Хожава.*

ГАНЯЦЬ незак. Акучваць пры дапамозе плуга-акучніка бульбу. Усе людцы ўжо ганяюць бульбу, а вы? *Бірулі.*

ГАРА́ ж. Гарышча. Палезь знімі бяльё з гары, а то я часу не маю. *Навагрудскі р-н.*

ГАРГАРА ж. Вялікая нязграбная жанчына. І дзе ён гэткую гаргару адкапаў? *Слабада.*

ГАРАТНІЦА ж. Гаротніца, бяздольніца. Сядзіць наша гарантніца пад аконачкам, горкі слёзы льець. *Псуя.*

ГАРГЕТА́ЦЬ незак. Гаварыць на незразумелай мове. А немцы ўсё нешта гаргечуць: «Матка, капут». *Хожава.*

ГАРЛЯЧОК м. Форма ацэнкі ад горла. Пасля вайны ваўкі дзяцей хапалі. Цераз плот прыбег воўк ухапіў дзевачку і ў лес. Нарабілі крыку, пабеглі следам. Знайшлі ў гушчары толькі гарлячок. *Рудня.*

ГАРСЭТ м. Цёплая безрукаўка на ваце. Во, на дзень жанчын прынесла хрышчоніца мне такі цёпленькі, мякенькі гарсэт. А бо-о, гэта ж такая добрая адзежына для мяне старой. Не магу схваліць яе, аддзякваць, так яна мне ўгадзіла. *Краснае.*

ГАРУТНІЦА ж., спагадл. Жанчына, якая перажыла многа гора. Хрышчоніца мая такая гарутніца. Яна ж усё жыццё ў горы. Асталася сіратой, вочы ад слёз не высыхалі. Памёр брат, а после братавая, асталіся трое дзетак, хоць не свае, але братнія, галава шчапалася, дзе іх прытуліць. А працы ўлажыла, што конь таго ні ўложа. *Краснае.*

ГАЦІ́ЦЬ незак. Рабіць гаць. Перан.: засыпаць прорву, яму, роў. Гачу і гачу, а з даўгоў ніяк не вылезу. *Слабада.*

ГАЧКА ж. Матычка, драпцы. Недзе мая гачка згубілася, пазыч, калі самой не трэба. *Навагрудскі р-н.*

ГЕЎЛЯ м і ж. Высокі ростам. Геўля такі вырас, на лес гледзячы. *Тураў.*

ГІЧА́ННЕ н. Бацьвінне. Пайду нарву гічання, а то Максім (паршук) раве. *Навагрудскі р-н.*

ГЛЁРА ж., пагардл. Ганарыстая, фанабэрыстая жанчына. Устрэціў у аляктрычцы гойтаўскую глёру, ну, гэну Стэфку Франкову. Але і не загаварыла, трэба ж гэткаму чалавеку ўдацца. Колькі я яе помню, дык яна а ні з кім ні пагаворыць. Задзярэ галаву і як не яна. *Краснае.*

ГЛЮГА ж. Дзюба. Вот квактуха мая гадкая, як зацыўкае ў яйцы, дык курыца дастае і глюгай абдзяўбае аж да крыві, і ўсё вон. І так кажнае яечка выкіне. *Краснае.*

ГО́РСІКІ толькі ў мн. Фальбонка, валан. Некалі вот харошыя фартушкі шылі с чорнай шатынкі, і кругом, кругом абшывалі горсікамі, бо без горсікаў дык і фартушком не хацелі называць. *Краснае.*

ГРА́БІЦЬ незак. Грабці. Усё раней сама рабіла: і копы зносіла, і грабіла, і стагі рабіла. *Рудня.*

ГРА́ЗНА прысл. Гразка. Як пройдзе дождж, гразна хадзіць і баішся, каб не абліла машына. *Хожава.*

ГРАМАЗДА́ агульн., толькі ў адз., груб. Няздатны да працы чалавек. Ня трэба далёка хадзіць. Во наш Антось, такі ўжо грамазда, да толку нічога ні зробя. Я Ганне казала, прападзеш ты за ім. Але во жывуць і чорт іх ні бярэ. Яна ім камандуе, а ён — куды ні папхні. *Краснае.*

ГРА́МАЦЬ ж. Грамата. У майго хадзяіна грамаць слабая. А я не знаю нічога, я ніграматная. *Рудня.*

ГРУБА[1] прысл. Тоўста. Я бяру батон. Адразаю. Намазваю маслам груба. Гэта ж харашо. *Ракаў.*

ГРУБА[2] ж. Грубка. А гэтую кахлю, што на грубе, мы ў Красным куплялі. *Хожава.*

ГРУДЛІВЫ прым. Грудкаваты. Грудліва дарога, грудліва, варанога каня з ног збіла. *Папкі.*

ГРУДОК м. Воблака. Калі садзяць бульбу і на небе ёсць грудкі, то будзе бульба ўраджайная. *Ляпешкі.*

ГРУДЫ прым. Купісты. Паляцелі курачкі на грудое балота збіраць дзеткам золата. *Арэшніца.*

ГРУК м. Груган, крумкач. Аднаго разу бачыць — ляціць грук: «Гру! Гру!» Глядзіць гэта свякроў, што грук ляцеў і закуркаў. *Мацкі.*

ГРЫМОТЫ толькі ў мн. Раскацісты гром. Я вельмі люблю навальніцу з грымотамі і з перуном. *Хожава.*

ГРЭЧНЫ прым. Грэцкі. У нас кажуць: мука грэчная, крупы грэчныя. *Кукалеўка.*

ГУ́БІЦА ж. Мера даўжыні роўная 7 аршынам (4,97 м). Я наткала толькі тры губіцы, а Манька восем і не спачне. *Навагрудскі р-н.*

ГУБКА ж. Мера палатна або асновы на даўжыню сцяны. Я сама аснавала восем губак тонкага кужалю. І павесіла сушыць посьля. А сьвіня прыляцела — і да таго зблытала ніткі! Дык я на нагах не дастоіла, як убачыла. Уся мая праца прапала. *Краснае.*

ГУГО́ЛЬ м. Хвошч. Гуголь расьце на згон зімы, яго дзеці ахотня зьбіраюць. Як ёсьціка цялётка, надта ж добра яно гуголь есьць. *Краснае.*

ГУ́ДЗІЦЬ незак. Абгаворваць.

А ці мой, ці не мой будзеш,<br>Нашто мяне, маладую, гудзіш? *Бабцы.*

ГУКА́ЦЬ незак. Гаварыць. Ты, дзеўка, нешта не тое гукаеш. *Бірулі.*

ГУЛЬТА́ІЦЦА незак. Ленавацца, гультаяваць. Вот гультаяцца, рабіць ані не хочуць. *Хожава.*

ГУЛЬНЯ ж. Вечарынка. У нас ё клуб. Калі якая гульня, то там поўна людзей. *Рудня.*

ГУЛЯНКА ж. Вечарынка, забава. Раз у вёсцы гулянка была. Маладзёш стала збірацца с усіх вёсак. *Хожава.*

ГУЛЯЦЬ незак. Танцаваць. А танцавалі ж ня гэдак, як цяпер. І хлопцы нашыя ўмелі добра гуляць. *Рудня.*

ГУРЗА́Л м. Сухі камяк зямлі. Бывае, я на свайго крычу, што, як ты забаранаваў, адны гурзалы на полі, а Піліп як выбаранавае, дык ралля, як мак, нідзе гурзалочка німа. *Краснае.*

ГУРЗА́ЛЛЕ н. Зборн. толькі ў адз. Гл. Гурзал. Гэны дзірван, як ні баранавоў Бладзя, усё адно не выбаранавоў. Не поле, а гурзалле адно і камянёў — ні прайсьці! *Краснае.*

ГУСЯ ж. Гусь. Гусяняткі вывеліся. Тры раней, з курыцай ходзяць і, пазнейшыя будуць, гуся сядзіць на яйках. *Рудня.*

ГЭНАМ прысл. Там. Тутака трохі мяхоў ускінула на вяроўку і гэнам, за хлявом, на плот ушчапіла. *Краснае.*

## Д

ДАБРО м. Збожжа. Вярнуліся мы з лесу, а дома дабра амаль не засталося, што з сабой бралі, паелі, а што дома пакінулі, пакралі. *Рудня.*

ДАБРО́ТНА прысл. Багата. Зара людзі дабротна жывуць: у кожнага амаль цілівізары ёсьць, а таксама і многа гэных, як іх, матаролаў, падлога пафарбавана. *Хожава.*

ДАВЕДАЦЦА безас. Адведаць. Даведалася да яе ў бальніцу, нічога, скора выпішуць, сказала. *Слабада.*

ДАЙНІЦА ж. Даёнка. Дзе ж гэта дайніца падзелася! Карова нядоеная стаіць!. *Навагрудскі р-н.*

ДАКЛЯРАВАЦЬ зак. Абяцаць, паабяцаць. Ты ж дакляраваў дзядзьку — едзь. *Хожава.*

ДАКТОРКА ж. Урач. Чаму гэта дакторкі няма? Час ужо, а не ідзе. *Навагрудскі р-н.*

ДАЛАДОН м., зневаж. Чалавек, які многа і без толку гаворыць. Ёсьціка ў нас сусед, Лялей завуць. Вот ужо даладон, ніколі не маўчыць, цёмгля язык, як на калаўроце. Парог ішчэ ні пераступя, а ўжо гавора. *Краснае.*

ДАЛІКАТУХА ж. асудж. Грэблівая жанчына. Нявестка ў яе такая далікатуха была, ніколі разам не ела з аднэй міскі, а ўсё апрычонікам. *Краснае.*

ДАПАДНЫ прым. Дападкі. Коні у іх былі надта харошыя, ды й самі былі дападныя. *Волма.*

ДАПАСЦІ зак. Прыйсці да канечнага пункта, паспець, закончыць перамяшчэнне ў прасторы. А я такі дапала, магазін яшчэ не закрылі. *Навагрудскі р-н.*

ДАРМА́ прысл. Нядрэнна, добра, лепш. Тэкля прыехала з бальніцы і трохі дарма. Рука ўжо нічога, але пальцы не гнуцца. *Кукалеўка.*

ДАСТА́ЦЦА зак. Дабрацца да чаго-небудзь. А самі ледзь дасталіся ў Мінск. У Маскву як дастаўся, пытаецца: «Можна парцізанку арганізаваць?» *Хожава.*

ДАСТРАНЧА́ЦЬ незак. Дагаджаць, выконваць чыё-небудзь жаданне. Гэны хлопец Філіпоў харошы, але прывык, каб яму дастранчалі што толькі яму хочацца, дзьмухалі, хукалі. *Волма.*

ДАСУЖЫ прым. Руплівы работнік, здатны да ўсякае працы. Цяперака маладая, дык дасужая, пачакай, во, як пастарэе, дык і досуг яе прападзе. *Краснае.*

ДАЎБЕ́ШКА ж., абразл. Гл. доўбня. Шурка на дачку цёмгля крычыць доўбня альбо даўбешка, абы чуць зазлавалася на яе. Я ей колькі казала: «Шурка, Шурка, не кажы гэтак». *Краснае.*

ДАХОДАЦЬ зак. Уходаць, прывесці да заняпаду, да смерці. Даходаюць яны гэту кабылу, ліха іх матары, лётаюць, як ліхое. *Навагрудскі р-н.*

ДАЦЦА[1] зак. Дастацца, запомніцца. Пад вечар вярнуўся мужык і адвязаў жонку. Але ёй і далося. І камары абкусалі ўсю... *Рудня.*

ДА́ЦЦА[2] зак. Ударыцца. Яна ж злазіла з машыны, далася аб асфальт і палучыла зноў трэшчыну. *Хожава.*

ДА́ЦЦА[3] зак. Перажыць, адпакутваць, змучыцца. Матка за ёю далася, што божа мой. *Хожава.*

ДАЦЮКАЦЦА зак. Дажыцца, абнясдавіцца. Дацюкалася зубны ўруч, кавалера знайшла, дзеўкі не хацелі з ім дружыць, скупы, каб хацеў як найяк што ўзяць, дык ні дасьць. *Волма.*

ДВАЯКІ́ толькі ў мн. Посуд, які складаецца з двух гладышыкаў, спарыш. У Кастусіхі былі двоякі, спарышы такія, а ў мяне ішчэ не было, дык я пазычала ў восяць, калі лён мялі. Есьці брала. *Краснае.*

ДВУХКО́СКА ж. Канюшына, якую косяць два разы. Канюшыну рана ішчэ касіць, як мядункі не

расцьвілі. А як сеюць двухкоску, дык раз скосяць зь мядункамі і атаву, як зацьвіце мядункамі, скосяць. *Краснае.*

ДЗЕВЯТУХА ж. Хрысціянскае свята, якое прыпадала на дзевяты чацвер пасля вялікадня. Сягоння вось таксама свята. Дзевятуха. Вось сядзім, палоць не хочам. *Рудня.*

ДЗЕВЯЦІНЫ мн. Памінкі праз дзевяць дзён пасля пахавання нябожчыка. На дзевяты дзень робяць дзевяціны. Збіраюцца ўсе і абед гатуюць. *Рудня.*

ДЗЕЎКАВА́ЦЬ незак. Жыць дзявоцкім жыццём. Як я дзеўкавала, дык на ногі з тоўстага брызэнту туфлі шыла. *Хожава.*

ДЗЕСЯТУХА ж., устар. Хрысціянскае свята — дзесятая пятніца пасля вялікадня. Сёння ж дзесятуха — фэст некалі вялікі быў у Лебядзеве. *Хожава.*

ДЗЁРКА[1] ж Тарка. На гэтай дзёрцы доўга драць, вазьмі буйнейшую. *Бірулі.*

ДЗЁРКА[2] ж. Дранка, гонта. Дзёркі нарэзалі на хату, а прывезці нечым. *Бірулі.*

ДЗІНАТУР м. Дэнатурат. Прыедуць у Мінск, прададуць на Камароўцы сена, купяць дзінатуру, камсы і хлеба і сядзяць тады, п'юць. *Рудня.*

ДЗІРГУН м. Шарпак. Абсуюзіла боты, дык па етым дзіргуну і ряшылі іх. *Мурожніца.*

ДЗОГНУЦЬ зак. Ударыць. Аксаначка, ножкай не дзогні, бо ў цябе болька на ножцы. *Рудня.*

ДЗЫГАВАЦЬ незак. Гізаваць. Вот калі бывае сонца і каровы дзыгуюць, хлопцы стараюцца туды іх загнаць. *Хожава.*

ДЗЯВОЧЧЫНА ж. Дзявочае жыццё, дзявоцтва. А якая мая дзявоччына была? Як багатыя папры-

ходзяць на вечарынку, дак і туфлі блішчаць, як у беднага — дак нагой баішся прытупнуць — разваліцца. *Хожава.*

ДЗЯВОШЧЫНА ж. Дзявоцтва. Дзявошчына, бывае, мне сасьніцца. *Хожава.*

ДЗЯДЫ мн. Свята ўшанавання нябожчыкаў. Вучыліся ад Дзядоў і да Вялікадня, бо трэба было бацькам памагаць. *Рудня.*

ДЗЯЛКА ж. Невялікі ўчастак зямлі, выдзелены ў карыстанне. Дзялянка. Кожны сваю дзялку асушваў да трыццаць дзевятага года. *Хожава.*

ДЗЯЛЯНКА ж. Кавалак. Кавалак свежага сала ці мяса, які прыносяць у якасці гасцінца сваякам, суседзям, знаёмым, калі колюць кабана. Як гэна Геня несла, дык я не хачу несьці і не хачу відзець, гэткія дзялянкі. Колькі жыву не відзіла. Прынесла на людскі смех кусочак і голы, голы, нават у паперу не завярцела. *Краснае.*

ДЗЯЦІНЕЦ м. Хвароба, прыпадак, прыпадачная. На дзяцінец мне гэтыя грошы! Ці не дзяцінец ёй прываліў? *Застадолле.*

ДЗЯЦЮК м. Нежанаты хлопец, жаніх, малады. Баб ад дзецюкоў і нявест называлі свацціямі. *Хожава.*

ДОДНЯ прысл. Час перад тым, як пачне днець, світаць. Ён выйшаў здому яшчэ додня, на прыцемку. *Слабада.*

ДО́ЛЕ прысл. На падлозе, на зямлі, унізе. Горача, дык распрануліся і ляглі спаць доле. А мухі не даюць мінуткі спакойна паляжаць. *Рудня.*

ДОЎБНЯ м і ж., абразл. Няспрытны, нязграбны чалавек. Маці прылажыла её гэта імя. У яе дык слова лепшага німа, як доўбня. Цёмгля крычыць на яе, абы чуць зазлавалася. *Краснае.*

ДО́ЎНА прысл. Даўно. Наша Жана не прыехала, ужо доўна была. *Кукалеўка.*

ДРАНДЗІ мн. Старое зношанае адзенне. Прымі свае драндзі, параскідала па хаце. *Навагрудскі р-н.*

ДРА́ПЦЫ мн. Матычка. Як ні сварылася, прыйшла, сястра ж, родная крывінка, узяла драпцы і памагла. *Навагрудскі р-н.*

ДРАТАВАНКА ж. Пуга, звітая з сырамятнай скуры або з тонкіх вяровачак. Каваль зрабіў нож, узяў пугу-дратаванку і пайшоў. *Рудня.*

ДРАЧ м. Дранік. Драчоў напяклі і паснедалі, дармо што хлеба не было. *Бірулі.*

ДРОВІНКА ж. Форма ацэнкі ад дровіна. Кавалак дрэва, галінка. Калі вады з крыніцы прынясеш, то і тая ў хаце замярзае. Ходзіш, дзе дровінку, дзе карча выламіш. *Рудня.*

ДУЛЬКА ж., памянш. ад дуля. Грушка. За адну панчаху прывязала дульку. *Хожава.*

ДРУЖЫНА ж. Удзельнікі вясельнага поезда з боку жаніха або нявесты. Малады бярэ ўсю сваю дружыну і едзе да маладой. [...] У гэты час прыязджаюць дружына, прыданыя яе. *Рудня.*

ДРЫЗЛЫ прым. Абрызглы. Я і дрызлага малака магу выпіць. *Бірулі.*

ДРЫМЧЭЦЬ зак. Вібрыраваць, утвараць гук. На ветры дрымчэла адарваная бляха. *Слабада.*

ДРЫНДУЛЯСТАЯ ж. Вельмі высокая і нясkладная дзеўка або жанчына. Жонка з твару нішто, усміхаецца прыгожа, але ж надта дрындулястая. *Слабада.*

ДРЫНЧЭЦЬ незак. Моцна балець, ныць, не даючы спакою. Да таго дрынчаць зубы, што хоць ты сцяну кусай ад болю. *Волма.*

ДРЭЎКА н. Маленькае тонкае паленца. Светласці ж не было. Толькі калі ў суботу, у свята лямпу запаляць, а так — дрэўкамі на комінку. *Рудня.*

ДУБЭЛЬТЫ[1] мн. Аконныя рамы, якія ўстаўляюцца на зіму. Дубэльты пагнілі, трэба новыя рабіць. Навагрудскі р-н.

ДУБЭЛЬТЫ[2] мн. Акуляры. Гэта ж ганьба для дзеўкі — дубэльты, даўней ніхто замуж такую не ўзяў бы. *Мікалаеўшчына.*

ДУДКА зборн. Жорскія і цвёрдыя сцябліны ў сене. Гэту дудку вытрасі і вон выкінь, яе карова не зьесьць. *Краснае.*

ДУКАВАЦЬ незак. Вучыць. Я не сагласілася за яго ісці. Ён настаўнік, а я — не вучоная, будзе мяне дукаваць ды муштраваць. *Рудня.*

ДЫМКА ж. Пасцілка, тканая ў квадраты. З кроснаў выходзіла і плаценка, і пасцілка, і дымка. Рудня. Дымку б заслала, свята ж! *Бірулі.*

ДЫРДА м і ж. Худы высокі чалавек.

ДЫРДЗІНА м і ж. Гл. Дырда. *Слабада.*

ДЫХТА ж. Фанера. Нешта пол дыхціць, бы дыхта. *Навагрудскі р-н.*

ДЭФАКТОВЫ прым. Слабы здароўем, хваравіты. Яна і дэфактовая дзяўчына, усякай балесцю балела, жывога месца на ёй не засталося. *Волма.*

## Е Ё Ж

ЕСЦЕЧКІ (з дзіцячай лексікі) Есці. Уваходзіць малы хлопчык гадкоў трох і плача: «Цёця, ножкі ў мяне мокрыя, я ад мамкі адбіўся, есцечкі хачу». *Каліта.*

ЕЧА ж. Страваввод. А бо-о, якая бяда ў хату ўвалілася. Аднэй бяды не ўтамавалі, другая наскочыла. Сусём нідоўна закалолі сьвіню, а цяперака другую трэба. Есьці нічога не ўзяла, еча мусіць апечана. *Краснае.*

Ё дзеясл. Ёсць. У нас хлопцы ё такія: валасы доўгія, не разбярэш, ці хлопец, ці дзеўка. Гадка глядзець. *Рудня.*

ЁСЦЕКА дзеясл Ёсць. Дзе вы чулі, каб жана дзярэктара каровы даіла! А ў нас у Рудні ёсцека: дзярэктарава жана доіць кароў. *Рудня.*

ЖАВІНЫ мн Ажына. Ёсць у нашых лясах і ягады. Растуць чарніцы, суніцы, маліны, брусніцы, журавіны, жавіны. *Рудня.*

ЖАДЗЁН прым. Прагны, сквапны. Яны самі паміж сабою жадны. *Хожава.*

ЖАЛОБНЫ АБЕД. Памінкі, абед у памяць нябожчыка. Жалобны абед робяць жанчыны. Робяць квас, суп, кашу, канон, пякуць праснак. *Рудня.*

ЖАНДАРОВЫ прым. Яркаблакітны. Плечы яе былі ахінуты прыгожай жандаровай хусцінай. *Навагрудскі р-н.*

ЖАЎТАЧКА ж. Жаўтуха. Але ж нека хвароба навалілася на беднага, жаўтачка мусіць, бо зжаўцеў. *Малева.*

ЖАЧАК м. Валачобнік. Я маленькі жачак, паўзу як рачак. Не дасі кока — вылезе вока; не дасі яечка — здохне авечка. *Аляхновічы.*

ЖБАНІК м. Збаночак. Збегаў, прынёс яму жбанік квасу. *Рудня*

ЖВАКАВАЦЬ незак. Жаваць жваку (пра карову). Карова паходзіць — ужо і жвакуе, ужо і пад'ела. *Ракаў.*

ЖДЭНА ж. Крупадзёрка. І тады Іван кажа папу: «Вот у мяне ждэна, а вот мех ячменю. І калі хочаш заўтра на абедню папасці, дык давай, круці». Дык поп цэлую ноч крупы драў на ждэна. *Рудня.*

ЖНЕЎНІК м. Іржышча. Такі жнеўнік калючы. І думала ж надзець боты, бач, як колка. *Рудня.*

ЖУЖМА ж. Кіпа, стос, груда. Усе дзеці вучацца. Дык як кончылі, цэлыя жужмы паперы валяліся па хаце. *Кукалеўка.*

ЖУРЛІВЫ прым., асудж. Уедлівы, прыдзірлівы. Некалі хадзіла я кросны ткаць там да адных. Але я ў іх не магла. Аспадары былі гэткія журлівыя, вечна ім не дагодзіш, то не там паставіш, то не тое падасі. Ён табе ў кажды збанок паглядзіць і пакажа. *Краснае.*

ЖУЧОК м. Шпілька для валасоў. Даўней валасы робяць на радок, зачэсваюць гладзенька і жучкамі пазакольваюць хораша і ўжо на кірмаш ідуць. А кірмашы далёкія, далёкія былі, пехатой хадзілі. І я гэтымі жучкамі закольвала, недзя здымка ёсьціка ў Ніны. *Краснае.*

ЖЫВАЯ ВАННА лячэбная ванна. Нагледзелася ў Грузіі ўсяго. Там жа толькі адны жывыя ванны, кранік адкруціш і ліецца вада. Такая шэрая, як карасіна. *Рудня.*

ЖЫВЫ прым. Жвавы, рухавы, непаседа. Вот жывы ў цябе малец расце. *Бірулі.*

ЖЫГУН[1] м., толькі ў адз. Рэдкае, нетрывалае палатно. Яно такое мяккае, не мае зьвязі ніякай, сусём няшшыўнае. У Лукашовай Стэфкі кросны няўдалыя былі, дык яна аднаго жыгуну наткала. Хоць ануч наробя з жыгуну. *Краснае.*

ЖЫГУН[2] м. Неўраўнаважаны, няўрымслівы чалавек. Вун у Іваніхі з Гойтава сын — такі жыгун!

Надта ж ён лятучы. Цяжка некаму будзе жыць зь ім. *Краснае.*

ЖЫРГА́ЦЬ незак. Шырока ступаць. Во, брат, жыргае! Не сыйсціся. *Слабада.*

ЖЫРЛІВЫ прым. Пражэрлівы. Як сяду есці, кажуць: «Жырлівая». *Нарэйшы.*

ЖЫЧКА ж. Аздоба ў кажусе. Кажух надта ж добры сёлята пашыў з жычкай. Цяперака не зьмерзну зімой.

Кароцінькі кажушок,
Чырвоная жычка.
Любя мяне мужычок,
хоць я невялічка. *Краснае.*

ЖЫХНУЦЬ зак. Бліснуць. Я дык надта ж маланкі баюся. Як астануся адна ў хаце і віджу, што хмура находзя, то так баюся. А як бліскавіца жыхня, дык я і зь мейсца не сыду і ні да кога не загавару. *Краснае.*

ЖЫЧЫЦЬ незак. Зычыць. Я яму блага не жычу, а каб толькі добра было, як сабе. *Волма.*

## З

ЗАБА́ЧЫЦЬ зак. Убачыць. А жонка, як забача, што ён п'яны, дак дзе-небудзь у чужую хату ўцячэ. *Хожава.*

ЗАБОР м., уст. Улада, прыгнёт. Польшча, значыць, была пад заборам трох імператараў: рускага, нямецкага і аўстрыйскага. Яны падзялілі яе меж сабой. У часе рэвалюцыі палякі паўсталі, а калі немцы адступалі ад Оршы, палякі разьдзелі і разулі немцаў пад Варшавай. *Краснае.*

ЗАБЫТЛІВЫ прым. Той, што забываецца, не помніць. А ён дуж ды ляніў, ды й забытлівы быў. *Уліна.*

ЗАБЯГА́ЛАЎКА ж. Сталовая, чайная. Вось у нас тут каля забягалаўкі сабяруцца і давай пра гэтыя атамы гаварыць. *Хожава.*

ЗАВАЛОЖЫЦЬ зак. Заправіць, закрасіць. Завалож кашу маслам, толькі не перадай, трошку. Завалож цыбулю смятанай. *Мурожніца.*

ЗАВІ́ДЗЕЦЬ зак. Убачыць. Я, як завідзяла, што скора абяруць усе слівы, дык ababрала шэсць вядзёр і занясла на гару. *Хожава.*

ЗАВІ́НУЦЦА зак. Імгненна сабрацца рабіць што-небудзь. Завінецеся буйны ветры ў полі, раздуйця траўку-мураўку зялёну. *Коцькі.*

ЗАВІ́ШНЫ прым. Увішны. Ён ня будзя сядзець без работы, хоць стары, але завішны. *Хожава.*

ЗА́ГАВІНЫ адз. няма. Рэлігійнае свята (апошняя нядзеля перад вялікім пастом). Як прыйдуць загавіны, дык ніяк не магу іх пераджыць, дакучаюць мне яны. *Волма.*

ЗАГАДЗІ́ЦЬ зак. Задобрыць, падкупіць каго-небудзь падарункамі, паслугамі і г. д. Ён доктара загадзіў, каб сказаў, што пералому німа, каб у бальніцу не ехала. *Хожава.*

ЗАДАЎЖЫЦЦА зак. Стаць даўжніком. Магазіншчык ужо яму больш не дае нічога, так ён сільна задаўжыўся ў яго. *Рудня.*

ЗАДЗЁРА агульн. Задзірака, задзірысты чалавек. Я ж у падчыненні: задзёра такая кажын дзень. *Хожава.*

ЗАДЗОГАЦЬ зак. Пачаць дзогаць — моцна тупаць і грукаць. *Мурожніца.*

ЗАДНО прысл. Часта, толькі. Ятроўка мая, Кастуся, вот ухвалёна была ў мужыка. Задно ён усё казоў: «Так мала кароўка малачка дае ў маей Кастусі, а яна масла кожны тыдзень зробя. І нам яго ўдоваль». *Краснае.*

ЗАЕ́СЦІСЯ зак. Пасварыцца з кім-небудзь. Як заесца старая з нявесткай — нядзелямі не гавораць. *Волма.*

ЗА́ЖЫВА прысл. Пры жыцці. Зажыва гнію, а не жыву. І раніцой твар абмываю слязьмі, і вечарам. *Волма.*

ЗАЖЫЦЬ зак. Пеażыць. Ой, колькі я гора зажыла, колькі бяды! *Хожава.*

ЗАКА́ЛІЦА ж. Закалец. Як я спяку хлеб, бувала, дык закаліца з нізу да верху. *Мурожніца.*

ЗАКАЛО́ЦЦА зак. Прастудзіцца. У сенях, у міску мыйцеся, нашто на двор. Вот як заколішся, дык будзеш тады хварэць. *Хожава.*

ЗАКАНАПА́ЦІЦЬ зак., перан. Знарок прыпыніць якую-небудзь справу. Поп, як знае, што ёсць з цябе пацягнуць, заканапаця і не вянчае. *Хожава.*

ЗАКОТ м. Скляпенне ў печы. На чардаку робяць ляжак і стаяк. Стаяк выходзіць на двор. У печы самой робяць закот, збоку робяць дзве пячуркі.

ЗАКРЭЙЗАЦЬ незак. Запэцкаць, замазаць. Што гэто ты сцены ўсе закрэйзаў? *Навагрудскі р-н.*

ЗАЛАЖЫЦЬ зак. Прыстаць, прыкінуцца. Залажыла нейкая ангіна. *Хожава.*

ЗАЛАТВІЦЬ зак. Уладзіць, вырашыць, зняць канфлікт. Бацька паехаў сам і ўсё залатвіў — сына пакінулі на вучобе. *Слабада.*

ЗАЛОЖНІК м., уст. Невялікая насценная шафка для пасуды і прадуктаў. Над дзвярмі прыбівалі

заложнік, куды клалі лыжкі, хлеб, прадукты, якія не накрываліся. *Рудня.*

ЗАЛУВІЦА ж. Залвіца, залоўка. Аднаго разу маёй залувіцы швагар ехаў на матацыклеце. *Хожава.*

ЗА́МКА ж. Стрэмка. Замку загнаў, баліць. *Бірулі.*

ЗАМОЎШЧЫК м. Знахар. Тут у нас недалёка быў чалавек, які ўмеў замаўляць. Вырашылі з'ездзіць да яго: замоўшчык, кажуць, усё ведае. Пайшла сястра да замоўшчыка, расказала пра сваю хваробу. *Застадолле.*

ЗАМЯР м. Прыкмета. Як былі ішчэ дзяўчаткамі, хадзілі да аднэй цёткі. Яна ўсё нас заклікала: «Хадзеце, дзяўчашачкі, пагаворым пра сёе-тое, можа я кагосьці пасватаю вам, маю тут на замяры». *Краснае.*

ЗАНЯДОЛІЎШЫСЯ дзеепрыс. Зажурыўшыся, засмуціўшыся, замаркоціўшыся. Парыцца гэты гарох, а я адышлася далей, занядоліўшыся, і сяджу: што ж, мне і гароху не дадуць. *Ляшчынск.*

ЗАНЯДО́ЛІЦЦА зак. Занудзіцца, зажурыцца, замаркоціцца. Хлопец мой занядоліўся нешта, у Брэст не паступіў, механікам не ўзялі, будзе цілівізары папраўляць па хатах. *Ляшчынск.*

ЗА́ПЕК м. Месца за печчу. Маладога сястра стала месьці хату, посьля выцягнула кашулю з запека, сабрала смяццё. А я ў слёзы, думаю, куды ж яна замуж зашла. *Краснае.*

ЗАПЛЮНДРАНЫ прым. Забруджаны, заквэцаны. Уся спадніца заплюндраная. *Слабада.*

ЗАПОВІНЫ мн. Заручыны, запоіны. Прышоў кавалер у сваты. Спадабаліся адзін аднаму. Папілі заповіны, дагаварыліся, калі вяселле. *Рудня.*

ЗАПО́Р м. Загарадка. Кабана кармілі і баяліся, каб не адабралі немцы, дык у запоры дзяржалі. *Рудня.*

ЗАПУНДЗІЦЬ зак. Купіць, прыдбаць. Я кажу: «Хоць бы ты мне сукенку запундзіў». А ён лепей прап'е пойдзе. *Хожава.*

ЗАРА́ННЯ прысл. Загадзя. Сядзелі ў лесе доўга, жылі на вадзе ды на сухарах. А сухары бабы гатавалі зарання. *Рудня.*

ЗАРЗАЦЬ зак. Заржаць. Вырвалі ў дзядзькі каня, конь пабег, толькі зарзаў. *Коцькі.*

ЗАРО́БІЦЬ зак. Зарабіць. Тры гады прабыў у горадзе, заробіў многа грошай. *Пераброддзе.*

ЗАРУЧНІЧАК м. Форма ацэнкі. Ад заручнік (удзельнік заручын з боку маладога). Прыехалі заручнікі ды па белы рушнічкі. *Трэці Гарадзец.*

ЗАСЛЕПНУЦЬ зак. Заплюшчыць вочы перад сном. Вечарам, бывала, я толькі заслепну, а яго ўсё няма, усё ў канторы. І заслепнеш на мінутачку і зноў ускочаш. *Рудня.*

ЗАСМЭРКА м і ж. Смаркатае дзіця, смаркаты. Чаму засмэрка? Бо заўсёды засмэрканы, смаркаты. *Слабада.*

ЗАСТАРО́НАК[1] м. Агароджаная частка гумна, дзе складаецца збожжа ў снапах. Застаронкі ў таку ўжо разваліліся. Трэба новыя рабіць, бо жыта будзе ў патруху сыпацца, а як у застаронкі снапы будуць складзены, дык, нябось, на такавішча пасыпіцца. *Краснае.*

ЗАСТАРОНАК[2] м. Манеж — месца ў гумне, куды складваюць сена або салому. Я раней яшчэ папраўіла прыстарнак у застаронку. *Навагрудскі р-н.*

ЗАСТУПІЦЬ зак. Пачацца. А пасьля, як вайна заступіла, дык пан уцёк. *Хожава.*

ЗА́ТАЎКА ж. Тлушч (масла, сала, алей) для кашы. Каша без затаўкі — гэта ўжо не каша. *Слабада.*

ЗА́ТКАЛА н., уст. Скрутакануч для закрывання коміна. Ставіліся юшкі, а ў каго не было юшкі, заткалам закрывалі, таму часта пажары бывалі. *Рудня.*

ЗАТЫЧКА ж., перан., груб. Чалавек, які недарэчна ўмешваецца ва ўсякую справу. Ага, а як ты пабрэшашся, дак і ён тады пасунецца за табой, як затычка. *Хожава.*

ЗАЎЧАРЫ прысл. Заўчора. Прыехаў заўчары, будзе на вяселлі, дык вось мы і знаёмыя. *Хожава.*

ЗАЎЧЭСНЕ прысл. Заўчасна. Свіню заўчэсне закалолі, гэтак раптам есьці не ўзяла. А сланіна добрая была, цэлы кубел налажылі. *Краснае.*

ЗАФЭНДАЦЬ зак. Запэцкаць. Падлогу так зафэндала, што страх глянуць, і гэта мыцьцё называецца, паненка мыла. *Волма.*

ЗАХАЛАДЗІ́ЦЬ зак. Прастудзіць. Прастудзіў пляўрыт, захаладзіў горла, не прагавора нічога. *Хожава.*

ЗАХВІЦЭННЕ н. Нервовая узбуджанасць, шок. Свякруха і сёстры ляглі ў захвіцэнні і заснулі, праўда сухарыкаў і ўсяго такога напяклі. Прывезлі маладую, а свякруха брык і абамлела. *Рудня.*

ЗАЦАГЛІ́ЦЬ зак. Стаць як цэгла. Пасля дажджу была спёка, сонца, дык зямлю і зацагліла. *Слабада.*

ЗАЧАЎРЫЦЬ зак. Захварэць, занядужаць.

ЗАШАНАВА́ЦЬ зак. Берагчыся, асцерагацца, шанавацца, папярэджваць. 1) А пляўрыт гэты трэба зашанаваць, не прастудзіць. 2) А ў аднаго чалавека гнаявы пляўрыт быў. Зашанаваў яго, вылечыўшы, добра еў, добра адзяваўся. *Хожава.*

ЗАШЧЫРАЦЬ зак. Засохнуць (пра расліну). З Волькі Гярдуцянскай гаспадыня, як ад пустой печы засланка. Летась як пасадзіла грады, так і застала. Зашчырала ўся расьліна, ні капусткі, ні агурочка — нічога не мела. Дзе ж, не палівала ніколі. *Краснае.*

ЗАШЭЎКА ж. Вытачка. Бяры ў зашэўку, каб фігура была. *Хожава.*

ЗБАЧЫЦЬ зак. Убачыць, згледзець. Божа, божа, збач жа, звідзь жа ўсё гэта. *Налібокі.*

ЗБЛАЖЭЦЬ зак. Стаць благім у характары. Але і добры муж, бывае, зблажэе, адурачыцца. *Хожава.*

ЗБЛЫТЭЖЫЦЬ зак. Збіць. Узяў пастронак і так ужо яго зблытэжыў. *Хожава.*

ЗБОЦЬКАЦЬ зак. Абы-як зрабіць. Сяк-так збоцькаў — абы трымалася. *Мурожніца.*

ЗБЫТКАВА́ЦЦА зак. Смяяцца з каго-небудзь празмерна, незаслужана крыўдзячы. *Хожава.*

ЗБЭСЦІЦЬ зак., груб. Абняславіць, абгаварыць. Ганніну дачку сусём збэсьцілі, дык на сабаку не варта. А ўсё праз маці, кажуць, у маладосьці гэткая была. Проўду кажуць, што якая калодка, такая і дошка, якая матка, такая і дочка. *Краснае.*

ЗБЯЁДКАЦЬ зак. Згубіць, страціць што-небудзь. А бо-о, на якіх вы казлох дровы рэжаце, такія крывыя. Я б іх даўно зьбяёдкала. Добрая ў вас натура, што вы іх не зьбяёдкаеце. У мяне б цярпення не хваціла мудыкацца. *Краснае.*

ЗВЯРНУЦЦА зак. Выйсці з цяжкага (фінансавага) становішча. Каб не прадаў парсюка — дык бы і не звярнуўся. *Слабада.*

ЗВЯСНЕ́ЦЬ зак. Схуднець. (Параўн. выпетрыць.) Курачку была суседцы дала на яечкі пасадзіць. Дык яна мусіць сусём яе не карміла. Такая таўстая

была, а то зьвясьнела сусём. Ноч пераначавала ў мяне і здохла. *Краснае.*

ЗГАЙДАЧЫЦЬ зак. Страціць, згубіць, збяёдаваць.

ЗГАНАШЫЦЬ зак. Сабраць на стол, у дарогу. Сёе-тое зганашыла, не надта, на жаль, але перакусіць можна. *Мурожніца.*

ЗГАРУСЦІЦЬ зак. З цяжкасцю пабудаваць або зрабіць што-небудзь. Была хацена нейкая, дый тая згарэла. Гэта ж такая бяда, трэба было жыць недзе. Па бярвенцу пакуль другую згарусьцілі, паставілі маленькую. Пераржылі неяк, дзякуй богу. *Краснае.*

ЗГРЫБЕЦЬ зак. Моцна састарэць. Сцяпан ужо зусім згрыбеў, аж глядзець шкода. *Слабада.*

ЗГУЛЯЦЬ зак. Станцаваць. Згуляеш пару танцаў, і пыл вочы выядае. *Хожава.*

ЗГЭМТАЦЬ зак. Сапсаваць, страціць, згубіць. *Слабада.*

ЗГЭНТАЦЬ зак. Скамячыць. Непрасаванае, дык гадкае. Згэнтаюць, згэнтаюць усё, паскладаюць як папала, а тады вазьмі. *Кукалеўка.*

ЗДЗЕЦЦА зак. Распрануцца. Ён ужо да таго шчыруе, выслугоўвае. Як што зрабіць, дак здзенецца, усё памагае, ну, бытта як свой ужо. *Рудня.*

ЗДОХЛЯ ж. Пра слабога, худога чалавека (жывёлу). Не кот, а здохля. Як Аксана, нічога не есць. *Рудня.*

ЗДЫМКА ж. Здымак. Ніколі мярцьвяка не бачыла сярод поля лежачы. А ён (немец) здымку ішчэ ў руках трымае, сям'я мусіць. *Краснае.*

ЗДЫРДЗІЦЦА зак. Стаць дырдай, схуднець (і — таксама памерці). *Слабада.*

ЗДЫХЛЯ агульн. Вельмі худы і нездаравячы чалавек. *Слабада.*

ЗЛАЖЫЦЦА зак. Сабрацца. Прыйшла на астаноўку, аўтобус, каб яго халера, не астанавіўся, паехаў. Я злажылася і пайшла далей. *Хожава.*

ЗІМНА прысл. Холадна. Аднаго дня было надта зімна. *Рудня.*

ЗЛА́ЗІЦЬ незак., перан. Аблазіць, ліняць. Хустка то так з віду, харошая, але будзе, мусі, злазіць. *Хожава.*

ЗМАНУЦЬ зак. Падмануць ашукаць, салгаць. Каб толькі не зрануць вас. Нават ня помню, ці вясной гэта было, ці летам. *Хожава.*

ЗМОВІНЫ мн. Заручыны. Спачатку прыходзіць сват. Ён прыносіць хлеб і кладзе яго на стол. Калі дзеўка згодна, гэты хлеб забіраюць сабе, а на гэта месца кладуць свой. Калі хлеб памяняюць, то значыць будуць скора змовіны. *Рудня.*

ЗМЫЛІ́ЦЦА зак. Памыліцца. А як змылюся, дык ні тое, ні другое не робіцца. *Хожава.*

ЗМЯРНЕЦЬ зак. Стаміцца, змарнець. Змярнелі ў вочарадзі за етай рыбай. *Мурожніца.*

ЗНЕХТАВАЦЬ зак. Згвалтаваць. Чула? Ганніну дзяўчыну знехтавалі. *Слабада.*

ЗНІЦЕЦЬ зак. Стаць тоненькім як нітка. Расада нешта зніцела, мусіць, не выдужае. *Слабада.*

ЗРАХАВАЦЦА зак. Дамовіцца. Слаўныя хлопцы сабіраліся, сабраўшыся, зрахаваліся. *Оршаль.*

ЗРЭПІЦЦА зак. Схапіцца загрудкі. Вы на смех людзям зрэпіліся загрудкі, каторы дужэйшы. *Волма.*

ЗУБРЫЦЬ незак. Вастрыць, тачыць. Камень не ідзе тапор зубрыць, тапор не ідзе дуб ламіць. *Пераброддзе.*

ЗЫГАВАЦЬ зак. Гізаваць ад аваднёў. Карова зыгуе. Каровы пазыгавалі. *Слабада.*

ЗЫКАВА́ЦЬ зак. Гізаваць, ратавацца ад гізоў. Во зыкуюць каровы, гэта уборацкія і нашы. *Рудня.*

ЗЭДЛЯ ж. Зэдаль. Палажылі яго на зэдлю і пачалі па голым целе біць. *Ляшчынск.*

ЗЭМСЦІЦЬ незак. Помсціць. Гады са два зэмсціла мне па злосці, што я ў яе кавалера адбіла. *Волма.*

ЗЮКАЦЬ незак. Гаварыць. Як сонца прігрэіць, стырікі сыбяруцца, пысядуць на заваліну і зюкаюць. *Мурожніца.*

ЗЯКРАТЫ прым., груб. Чалавек з вялікімі вачыма. Гл. Бяльматы. Такі зяць зякраты ў Крыстыны, як вылупя вочы, дык як у жабы на вярху сядзяць. *Краснае.*

ЗЯЛЁНКА ж. Зялёная маса з кармавых культур. На пашу кароў ні ганяем, днём падкармліваем зялёнкай. *Кукалеўка.*

## І

ІДБАБНЫ прым., уст. Шаўковы, ядвабны. Ніколі не буду купляць ідбабнай хусткі, на галаве не дзяржыцца. Рукі толькі не гуляюць, задно падвязвай, плыве з галавы. *Краснае.*

ІЛЬНУЦЦА незак. Гарнуцца, хіліцца. Усе людзі нашы ільнуліся к партызанам, камандзірам у нас быў старшыня сельсавета. *Рудня.*

ІМША́ ж. Памінкі. Тут у нас заўтра імша будзе. Сыны помнік па матцы ставілі. *Хожава.*

ІРХА́ ж. Ачышчаная ад воўны вузкая палоска з аўчыны, якая служыць пракладкай пры сшыванні аўчын. Натта гладка ўшыў ірху ў кажух. *Ляшчынск.*

ІСТОПКА ж. Памяшканне для захавання гароднiны зiмою. У вялiкiя маразы носiм у iстопку вядро з гарачым вуголлем, каб абагрэць трохi. *Слабада.*

## К

КАВЭНЧЫЦЦА незак. Плакаць, енчыць. *Слабада.*

КАГАЛАМ прысл. Гуртам, разам. Узаўтро Сёмуха, зноў Мiкiтавыя кагалам сабяруцца. *Навагрудскi р-н.*

КА́ДАЎКА ж. Кадушка. У каго кубел, у каго кадзь, у каго якая пасудзiна, кадобчыкi былi, кадаўкi. *Кукалеўка.*

КАДОБЧЫК м. Выдзеўбленая з дрэва бочачка. Агуркi салю кожны год: бяру кадобчык, лажу агуркi, соль, залiваю вадой i ўся прамудрасць. *Кукалеўка.*

КАДРЫЛЬ м. Кадрыля. I кадрылi былi, адзiн вялiкi кадрыль, у восем пар, другi малы — толькi чатыры пары. *Волма.*

КАЕ́Т м., уст. Сшытак. Лепш схадзiця пад кантору, вазьмiця каеты пад руку i стойця. *Хожава.*

КАЖАРКА ж. Кароткi жакет на ваце. Кажаркi некалi шылi з дрэньненькага матэрыялу, на ваце i з каўнерыкам. Болей корт куплялi. Наш Бладзя надта ж добрыя шыў кажаркi, усiх абшываў. *Краснае.*

КА́ЖДАН займ. Кожны. Жыў пан i любiў казкi слухаць, ды каб каждан дзень новую. *Волма.*

КАЗА́ ж. Невялiкiя кароткiя санi. Мусi у Пiлiпа каза ёсьцiка, трэба пазычыць, муку зезьдзiць забраць у магазiне. *Краснае.*

КАЗКА-МАНЬКА ж. Казка-небыліца. Казкі-манькі расказвалі ўсякія страшныя, цяпер ужо ўсё забылася. *Рудня.*

КАЗЕ́ЛЬКА м. Форма ацэнкі ад казёл. Мікітка абярнуўся казелькам, а Аўдоська села і прадзець. *Мацкі.*

КАЗЛЯК м. Масляк. Будуць расці ўсялякія грыбы: баравікі, бабкі, сураежкі, казлякі. *Рудня.*

КАКЛЕ́ТА ж. Катлета. Панам дык тады пяклі адныя каклеты. Нам кухар не давоў нават пакаштаваць. *Хожава.*

КАЗЫРОК м. Той, хто казырыцца, выстаўляецца, фанабэрыцца. *Слабада.*

КАКАЛУХА ж. Чаромуха. Няможна цыбулі садзіць ні сягоня, ні зоўтра, бо какалуха расцьвіла. Хай пацьвіце дні два, тады можна будзе. *Краснае.*

КАЛАПНІ мн. Каноплі. Трэба ўцякаць, бо пан заб'ець або ў салдаты здасць. Пасядзеў у калапнях, прыходзіць дамоў і кажыць: «Тата, пляці лапці, толькі ліповыя, яны мацнейшыя...» *Ляшчынск.*

КАЛЕЙКА ж. Чарга. Была ў мяне бабуня, не родная, але маей мамы мачыха. Яна часта ганяла ў поле калейку пасьвіць. Злосная была, што да трэцяга не гавары. Краснае.

КАЛЁСКІ мн. Цялежка. Ураджай на калёсках возім. *Рудня.*

КАЛЮГАВІНА ж. Каляіна. Паехаў неяк Бладзя па сена, ды так доўга не было, шчакалася я яго. А ў яго кола як завалілася ў калюгавіну, воз перавярнуўся і вось паляцела. З паўдня ён там прамудыкаўся. *Краснае.*

КАЛЯДА ж.., толькі ў адз., уст. Кабан, якога калолі перад калядамі. Як я быў малы, дык вот мы зь

дзедам гаспадарылі. Заколім каляду, у лапці смаліць цягнем і баімся, каб варона не панесла. Такая каляда вялікая была. *Краснае.*

КАЛЯДКІ мн. Форма ацэнкі, ад каляды. На калядкі хадзілі па вёсцы з торбай, песні спявалі пад вокнамі, пакуль не дадуць кусок сала ці калбасы. *Рудня.*

КАМЛЁТ м. Спадніца. А мы ж яе па русай касе пазнаем, па зялёненькіх уплётах, беленькіх камлётах. *Вязынка.*

КАМЯГА ж. Выдзеўблены з камля вузкі човен. *Волма.*

КАНАВАЛ м., уст. Чалавек, які кастрыраваў коней. Як даўней хадзілі гэтыя канавалы, дык ім палатно давалі на даўжыню каня за тое, што скастрыравае. А хто дык усяго тры локці палатна. Цяпераka на ферму ганяюць кныроў, а коняў ніхто сваіх не мае. *Краснае.*

КАНАПЛЯНІК м. Малако з канаплянага семя. Мама звара бульбы з грыбамі, канаплянікам забеля. *Хожава.*

КАНЦОМ прысл. Абавязкова трэба. *Слабада.*

КАПЕЙКА ж., толькі ў адз. Грошы. Палучу нейкую капейку і зараз жа яе няма; то ў магазіне нешта купіш, то дзяўчыне трэба падкінуць. *Волма.*

КАПЁШКА ж. Капа. Складайце скарей сена ў капешкі — капаць пачало. *Мурожніца.*

КАРАМЖА[1] ж. Нізкарослае, выгнутае ва ўсе бакі дрэва. У лесе кусьцік, бывае, вырасьце такі карамжаваты. Пасьвіла ў Акопчыным лесе, тамака такія хвойкі выносьлівыя стаяць, а поспал такая карамжа. *Краснае.*

КАРАМЖА[2] агульн., перан. Нізкарослы, нязграбны, выродлівы чалавек. У Гярдуцішках мельнік ёсьціка, ішчэ горшы як карамжа. На яго і жаль і страх глядзець, нізкарослы, такі пузаты, крывы. *Краснае.*

КАРАМЖАВА́ТЫ[1] прым.. Гл карамжа. Гэта бярозка, што пасадзілі неяк, сусём карамжаватая вырасла. *Краснае.*

КАРАМЖАВА́ТЫ[2] прым., перан. Гл. карамжа. Проўду кажуць, што не роўныя людзі, не роўны і лес. І людзі такія карамжаватыя ёсьціка. Плакаць хочыцца на іх гледзячы, чаму ж такому не вырасьці, як усе? *Краснае.*

КАРАЎЛО́Т м. Калаўрот. Адной нагой караўлот кручу, а другой дзіця калышу. *Хожава.*

КАРГА́Ч м. Стары няўклюдны мужчына. Дзе ж гэта матка прымуся любіць каргача. *Хожава.*

КАРНІ́СТАР м. Каністра, бітон. Кан, або фляга, або карністар — гэта, калі плоскі кан на дваццаць літраў. *Хожава.*

КАРТОПЛІ толькі ў мн. Бульба. У Германіі ў пляну быў, вісеў на слупе за тое, што пяць картопель украў. *Хожава.*

КАРТО́ФЛЯ ж. Вараная бульба. Сталі ўжываць соль з усім-усім: картофляй, халадніком. *Волма.*

КАРТЫЖНІК м. Карцёжнік. У майго чалавека дык дзьве ганьбы: п'яніца і картыжнік, пастоў на шалі, дык адна адну не перавеся. *Краснае.*

КАРУЗА агульн., абразл. Неадчэпны, задзірысты чалавек. Не чапай ты гэту карузу, а то ад яго не адчэпішся, смалой прысмальваецца. На вясельлі Лукашовым толькі вочы палалі праз гэтага боўдзялу. Наброўся, як сьвіня гразі і давай чапляцца да сватоў. *Краснае.*

КАРЦЕ́ЦЬ незак. Хацецца. Так мне яму карціць сказаць слоўца, каб яму і ў горла не палезла, але паўважаюся людзей. *Волма.*

КАРЧА́К м. Худое, кволае парася. Паехаў Бладзя на торг парасё купляць. Ён жа і купіў такога карчака, ноч пераначавоў і выцягнуўся. Доўгі, як лут, тонкі быў, а есьці ні парашыначкі. *Краснае.*

КАСМІРОВЫ прым. Кашаміравы. Зарабіла, помню, пяць рублёў, набрала на андарак, на хусту касміровую, асталося рубель грошай. *Кукалеўка.*

КАСМІРО́ЎКА ж. Хустка з тонкай шарсцяной тканіны фабрычнага вырабу. Сёньня мне з Вільні прывязьлі касьміроўку за сем піісят. *Хожава.*

КАСТРОВЫ прым. З дрывяногa кастра. Біла мяне маці кастровым паленам, каб я не хадзіла з чужым кавалерам. *Лаздуны.*

КАСТРУБАВАТА прысл. Шурпата, колка. Як прадзеш, мяканька нітку пускаеш, яно вельмі здаравей к целу, лепш за крамнае. А хто ўжо горш, дак будзе каструбавата, колецца. *Рудня.*

КА́ХЛЯ ж. Кафля. Такая кахля харошая была. Можна было б прывезьці, але нельга без дазволу зрабіць гэта. *Хожава.*

КВАСОЛЯ ж. Фасоля. Суседцы дала квасолі, а яна мне калёскі дала вазіць. На сабе цэглу вазіла на печку. *Рудня.*

КВАШАНІНА ж. Сцюдзень. Квашаніну добра з бульбаю есці. *Слабада.*

КВЯЛІ́ЦЬ незак. Крыўдзіць, даводзіць да слёз. Не плач, Колячка! А ты, стары дурань, не квялі яго, а то зараз ад сьлёз не абярэшся. Ён жа майстар плакаць. *Краснае.*

КЕПАЦЬ незак. Мазгаваць, разумець, кеміць. А мой дык нічога не кепае, думае, так абыдзецца. *Навагрудскі р-н.*

КЕЎЛЯЦЬ незак. Ледзь падаваць голас. Рудня.

КЕ́ШКАЦЦА незак. Марудзіць, капацца. Што ты там кешкаешся, Анюта?! *Слабада.*

КІРА́Т м. Прыстасаванне ў коннай малацілцы. У кірат запрагаюць коней, потым паганяюць іх і малоцяць. *Навагрудскі р-н.*

КІРМАШОВІКІ м. Боты або чаравікі для выезду, святочныя. *Навагрудскі р-н.*

КІНДЗЕ́ЛЬ, КІНДЗЁ. Калека, які пры хадзьбе выкідвае ўбок нагу. *Слабада.*

КЛЕЙНЯ ж. Плыт. Сама лава складалася з дзесяці-адзінаццаці клейняў. *Рудня.*

КЛЕТАЧКА ж. Форма ацэнкі. Ад клетка. Від узора, якім ткалі пасцілкі. Якую аснову зробіш, то такі ўзор і вытчаш. Узоры красівыя былі: і ў пасы, і ў клетачку, і ў абгародачку. *Рудня.*

КЛЁЦКІ мн., перан. Смерць, памінкі. Паспрабуй толькі — дык і клёцкі табе будуць. *Мурожніца.*

КЛІНАВА́ТЫ прым. Хворы на грыжу. Антось Таўпекаў сусём клінаваты. Усё жыццё грыжай хварэе і во — не вылячыўся. Цяперака ўжо стары, дык не езьдзя па дактарох. *Краснае.*

КЛУМКА ж. Клунак, торба. Поўную клумку нечага папёр. *Бірулі.*

КЛЮЧКА ж. Крук у вочапе. Калодзесь на дварэ, вядзёрка на ключцы. *Бузуны.*

КЛЯТУШКА ж. Форма ацэнкі. Ад клець. Усё для сям'і працаваў, усё ў сваю клятушку стараўся. *Рудня.*

КОЗАЧКА ж. Гл. каза. Калі тралююць дрэва з лесу, вот добра, каб козачка свая была. Надта ж цяжка канём цягаць без яе, яно ж доўгае. *Краснае.*

КОПКА[1] ж. Пячурка. Копак можна зрабіць некалькі. Туды кладзём сярнічкі, сальнічку ставім. У копцы сушым абутак, рукавіцы, шкарпэткі. *Слабада.*

КОПКА[2] ж. Частка прыпека, куды выграбаюць попел, вуголле. Робяць чалеснікі, прыпечак, пакідаюць месца на надкамінак. Робяць копку. У копку згортваюць попел. *Рудня.*

КОСАР м. Касец. Косары косяць, а вецер павявае... Дай найму ж я косараў чатыры. *Тураў.*

КОТ м. Святочныя забавы ў каляды. У каляды збіраліся ў ката гуляць. Дзеўкі прыносяць закуску, хлопцы водку. Угашчаюцца. Музыку бяруць. Гэта называюць: «Ката дзеўкі спраўляюць». *Рудня.*

КРАПОТНА прысл. Карпатліва. Я больш за ўсё любіла ткаць на берда плаценку. Але сільна марудна і крапотна ткаць кросны. *Рудня.*

КРУКАЦЬ незак. Утвараць гукі, падобныя на «кру-кру» (пра журавоў). А ляцелі журавы, селі ў полі на раллі, сталі яны крукаць. *Ляды.*

КРУПЭРНЯ ж. Крупадзёрка. Была крупадзёрка, яе называлі крупэрня, там рабілі крупы. *Рудня.*

КРУПЭЎНЯ ж. Крупадзёрка. У нашай вёсцы крупэўня была — крупы рабілі. *Рудня.*

КРУТАНІНА ж., толькі ў адз. Завіруха, буран. Аднаго года такая лютая зіма была і крутаніна. Сяджу я на печы, спусьціла ногі на пяколак, а калоця — ня вытрываю, як на дварэ. А страху! Так я баюся, каб бяды якой не было! *Краснае.*

КРЫЖАВАЦЬ незак. Павязваць крыж-накрыж ручнікі сватам перад пачаткам вяселля. Першая

сваццця нявесты крыжуя ручніком сватоў жаніха. *Больнікі.*

КРЫЛО н. Гусінае крыло, якое служыць для падмятання (стала, загнета). Узяў бы крыло і змёў са стала. *Навагрудскі р-н.*

КУДОЮ прысл. Дзе, якою дарогай. А заданне маё заключалася ў тым, каб выведаць, кудою немцы будуць ехаць. *Рудня.*

КУЖАЛЁЦ м. Форма ацэнкі ад кужаль. У вайну, ведаеце як было. Кужалец як пакрашу, штаны, рубашку сыну пашыю сама, рукамі. *Рудня.*

КУКОБІЦЬ незак. Скупіцца, быць скупым. У Івана карова такая пародлівая была й цялётка прывяла. Дачка гэтак хацела, каб ён цялушачку прадоў. Але не прадоў. Ну й скупярэка, дакуль ён будзе сціскаць, кукобіць. *Краснае.*

КУКОБНІЧАК м., скаж. Ад кукольнічак. Валачобнічак. Кукобнічкі, валачобнічкі, валачыліся, памачыліся. *Заполле.*

КУКОЛЛЕ н., зборн. Куколь. Хадзіла маладая Аленка па полі ды віла вяночкі з куколля. *Баўцічы.*

КУКУЛЕЧКА ж. Форма ацэнкі. Ад кукуля (зязюля). Кукуй, кукулечка, не сядзі, нямножачка табе асталося кукаваць. *Трэці Гарадзец.*

КУЛАНІНКА ж. Клунак. Як толькі немцы едуць, мы што звяжам у куланінку, пад паху і ў лес. *Рудня.*

КУЛІДКА ж. Невялікая буханка хлеба. Я ж сягоння амаль нашча: з'еў толькі кулідку хлеба і рэшата дзічак. *Ратамка.*

КУЛІКАВАЦЬ незак. Гуляць у кулікушкі. Хто будзіць кулікаваць? Давайце ў кулікушкі! *Віцебская вобл.*

КУЛЯЖА́НКА ж., скаж. Каляжанка, сяброўка. І так моцна пабіў конь капытамі па галаве і ўсюды памясіў дзе папала, што куляжанка мая памерла, а мяне дык так зьбіў, што жывога месца не было. *Волма.*

КУНА́ТЫ прым. Разгалісты, купчасты. І дрэвы, як людзі,— не кожнае кунатым бывае. *Слабада.*

КУНАЦЕНЬКІ прым. Форма ацэнкі. Ад кунаты. У полі два дубы кунаценькія. *Слабада.*

КУПАЛЬНІЧАК м., ласк. Удзельнік святочных гульняў на купалле. А на вуліцы, на шырокай, а па мураўцы па зялёнай сабіраліся купальнічкі. А нет лепшага купальнічка як маладзенькі Ванечка. *Трэці Гарадзец.*

КУПРА́ ж. Ніз паясніцы.

Казалі падручнік вельмі багат,
Ажне падручнік вельмі купрат,
А на тэй купры вырасла вярба,
А на тэй вярбе сядзела сава. Больнікі.

КУПРАТЫ прым. Таўстазады. Гл. Купра.

КУПЧА́НКА ж. Купчыха. Разбойнік пытаецца ў купчанкі: «Маладая купчаначка, раскажы адкуль родам». *Баўцічы.*

КУРАТ м. Прыстасаванне да коннай малацілкі. У курат запрагаюць коней, патом паганяюць іх і малоцяць. *Навагрудскі р-н.*

КУРДУПЕЛЬ, м. Вельмі малога росту чалавек. Што гэта за мужчына? Курдупель нейкі. *Слабада.*

КУРКА ж. Ядомы грыб. Куркі растуць, беленькія шапачкі, ножка тоненькая. *Рудня.*

КУРМЕЛЬ м. Пячкур. Курмялёў налавілі — во работы далі. *Бірулі.*

КУРЭЛЬ м. Прылада, з дапамогай якой падглядаюць пчол. У нас недзе на гары курэль валяецца. Ён для таго, каб пчол абкураваць, каб не кусаліся, як іх падглядаеш. *Краснае.*

КУСОК[1] м. Невялікі ўчастак. Кажуць, што пан сказаў, каб лесу кусок пад поле высяклі. *Карцэвічы.*

КУСОК[2] прысл. Трохі, нядоўга. Коленька занёс попел скоранька, а большы вуча яго, што ты б пастаёў кусок, дурань, а то прыляцеў скора. *Краснае.*

КУТЭШНІЦА ж. Ад кут, куток. Задніца. Во, разгадавала кутэшніцу! *Слабада.*

КУФАЙКА ж. Ватоўка. Каця першая палезла ды і застрала, бо была ў куфайцы. Мы яе цягнем назад, а яна ўпіраецца. *Рудня.*

КУХАР м. Куфар. Сабраліся везці прыданае, а яго мала. Кухры ж тады вялікія былі. У кухар напхалі кудзелі, зверху палажылі барахла і павезлі. *Рудня.*

## Л

ЛА́ВА ж. Некалькі счэпленых плытоў. Раней лес сплаўлялі па нашай рацэ, называеца: лавы рабілі. А цяпер рака зарастае. Сама лава складалася з дзесяці-адзінаццаці клейняў. *Рудня.*

ЛАДКА ж. Аладка. Бывала, дзеўкі збяруцца і варожаць. Напякуць ладак, пакладуць у рад і сабаку галоднага пусцяць. *Кукалеўка.*

ЛА́ДНЕ прысл. Многа, шмат. Ладне гадоў назад ехалі і ўсе ў стоўп. *Хожава.*

ЛАДНЕЙ прысл. Лепш. Ёсць у мяне і чым кросны перыць, каб яны змякчэлі, каб ладней ткаць было. *Рудня.*

ЛАДЫ мн. Заручыны. Раней сваталіся. Хлопец едзе да дзяўчыны. Бярэ таварышаў, бацьку. Гарэлку бяруць, але многа не бяруць. Праз нядзелю едуць на лады. Водку, закуску, паставяць на стол. Спяваюць песні, якія неабходна на ладах. Дагаварваліся, калі вяселле. *Рудня.*

ЛАЙБА ж. Абразл. Не надта сур'ёзная і разумная жанчына. *Слабада.*

ЛАКІ́РЫ толькі ў мн. Лакіраваныя туфлі. Прыехалі харашо, параздзяваўшы, на нагах лакіры. *Хожава.*

ЛАНЦУГ м. Вязень, закаваны ў ланцугі. Звініць званок нашчот паверкі, ланцуг задумаў уцякаць. *Морач.*

ЛАПА ж. Прылада, якой выцягваюць цвікі з дрэва. Лапу ніяк не знайду. *Бірулі.*

ЛАПАТУН м. Гаварун, бывалец. Дзеўкі так не аддаюць маладую, трэба паставіць барыш. Калі ж сват які-небудзь лапатун, дык і так аддаюць. *Рудня.*

ЛАПАТУХА ж. Шчарбіна на лязе касы. Не ўмее ішчэ касы кляпаць, табе на адны лапатухі. А касіць добра кося. Проўду кажуць, што і я б касэрыў, каб хто касу майстэрыў. *Краснае.*

ЛАПШЫВЫ прым. Прагны. Гэткі лапшывы да яды, лішняе з'есць, а тады качаецца жыватом. *Волма.*

ЛАТВЕЙ прысл. Лепш. Ты латвей красачак нарві. *Рудня.*

ЛА́ТКА ж., перан. Невялік зямельны ўчастак. Прыду з пошты ды ляту на балота буракі палоць, брыгадзір гэны латку даў. *Хожава.*

ЛАШКУЦЦЕ н. 1) Шматкі; 2) Транты, рыззё. Счапіліся так — што адно лашкуцце ляцела, як пер'е з петухоў. *Слабада.*

ЛЕГКАЧЫ толькі ў мн. Лёгкія зарэзанай жывёлы. У кутнім гаршку не чыстая вада, там варыліся легкачы. *Волма.*

ЛЕГЦАВАЯ ж. Легкавая. У фразе: легцавая машына. Ну дык чаго? На легцавой машыне прыехалі. *Хожава.*

ЛЕЖАНЬ м. Гультай. Лежань ляжыць, а на яго доля бяжыць. *Тураў.*

ЛЁТКА ж. Адтуліна ў калодзе пчол. Так дык пчол кучамі на лётку вылазя асьвяжацца посьля захода, поўна, поўна, а як адляціць рой, дык аж жаль глядзець, вылязуць на лётку дзьве-тры. *Краснае.*

ЛІН м. Лінь. Рыба ў нашай рэчцы плодзіцца. Ёсць акунь, плотка, карась, ліны... *Рудня.*

ЛІСАПЕТ м. Веласіпед. Раней не было ні машын, ні прыёмнікаў, толькі адзін лісапет. *Рудня.*

ЛІТРА ж. Літр. Залажыліся, дык гэты мужчына і выйграў літру. *Рудня.*

ЛОЖКА н. Ложак. Зрабіў ён такое ложка, якое магло круціцца. *Даўматаўшчына.*

ЛОЖКО н. Ложак, кравань. Ён сёння не прыдзе, кладзіся на яго ложка. *Навагрудскі р-н.*

ЛОПАЦЕНЬ м. Той, хто шмат гаворыць, лапоча. На гэтым лопатню і шкурка гаворыць. *Навагрудскі р-н.*

ЛУБКА ж. Сявалка, сплеценая з лазы. Возьмем у лубку сала, яек — усяго. *Ляшчынск.*

ЛУБКА ж. Пасудзіна, сплеценая з лыка ці з саломы. Лубка яшчэ новая. *Бірулі.*

ЛУКА ж. Затока (на рацэ, на возеры). У луку паедзем, і быстрэй! *Бірулі.*

ЛУНКА ж. Палонка. Вудачкамі лавілі рыбу летам. А зімой прасякаем такія лункі і таксама ловім. *Рудня.*

ЛУПАТЫ прым. З вялікімі губамі. Да куды ты, маладая дзевачка глядзела, Што за такога нехарошага хацела: Ззаду гарбаты, спераду лупаты. *Рудня.*

ЛУПЕЗА агульн. абразл. Чалавек з вялікімі губамі (часцей — на жанчыну). Лупы раскілбасіць — глядзець брыдка. Нядзіва, што завуць лупеза. *Слабада.*

ЛУПІ́ЦЬ незак., перан. Біць, лупцаваць. Я сваю (дачку) луплю, як Сідараву казу, ні распускаю залішне. *Волма.*

ЛУСТА н. Сняданне, узятае ў поле на пастаў. Лусту ўсю з'елі?

ЛУПЫ толькі мн. Губы. Лупаты — з вялікімі адвіслымі губамі. *Слабада.*

ЛЫГА ж. Зелле, корм для скаціны. Лыга ідзе як сено, як канюшына на корм для скаціны. *Навагрудскі р-н.*

ЛЫДНЯ ж. Гультайка. Каб твая хата зямелькай засыпалася, як ты, лыдня прыроджаная, плёткі разносіш. *Забор'е.*

ЛЫКІ мн. Лыка. Пайсці ў лыкі. *Пераброддзе.*

ЛЫНДАЦЬ незак. Бадзяцца. Лындаў недзе па белым свеце. *Бірулі.*

ЛЫЧКІ мн. Форма ацэнкі. Ад лыкі. Пайшоў казёл у лычкі, а каза ў арэшкі. *Пераброддзе.*

ЛЫШАНКА ж. Лышаная, часткова абабраная бульба,— каб можна было саліць. Сёння на вячэру будзе лышанка да капусты. *Слабада.*

ЛЮФЦІК м. Фортка. Адчыні люфцін, а то духі забіло. *Навагрудскі р-н.*

ЛЯДА ж. Бёрда. У чаўнок закладаецца цэўка, нажымаюць на панажы, закідваюць чаўнок і зноў нажымаюць на панажы, і прыстукваюць лядам. *Навагрудскі р-н.*

ЛЯК м. Перапалох. Ад ляку перастаў спаць. *Старадворцы.*

ЛЯКСЫ толькі ў мн., лаянк. Панос. Дарота, братавая мая. Вот кляла бабу адну, што ў хаце падлогу штодня мыла, а каля хаты чорт нагу зломя. «Мая ты дачушка, на што ты падлогу штодня мыеш, хай цябе ляксы абмыюць, хай бы ты на двор пашла, травіцы нарвала, хай бы граду апалола, хай бы ты скварачку спякла раніцай, а то кішкі закручваюцца!» Кляне доўга і так скоранька, скоранька гавора. *Краснае.*

ЛЯЛЕЯ ж. Лілія. Я лялею ні да носа, надта ж жоўтую, на ваніты цягне ад яе. Белая дык пахучая, такі добры пах. *Краснае.*

ЛЯНІШЧА н. Поле, дзе рос лён. Там, каторыя дзе рукамі жнуць жыта, там ржышча вышэйшае. У нас як лён ірвеш рукамі, дак лянішча потым выкашваецца. *Хожава.*

ЛЯНПА ж. Лямпа. Лянпы не было, палілі лучынку, палілі на комінку, як трэба было, то бралі і ішлі куды. *Рудня.*

ЛЯНУХА ж. Варыва са свежай капусты. Прыбялі трошку лянуху, разумнейшая будзіць. *Бірулі.*

ЛЯСЁНАЧКА ж. Форма ацэнкі ад лясёнка. З атрэп'я мяшкі тчом, лясёначкі, а з зрэб'я штаны мужыкам шыем. *Рудня.*

ЛЯСЁНКА ж. Посцілка, у якой носяць траву. Трэба на гару палезці, захінуць дзірку, бо на гару

нальe. Скокні на гару, захіні дзірку, лясёнка ў сенцах за куфрам. *Рудня.*

ЛЯСКА ж. Штыкеціна, дошчачка. Ехала з Кастусём, а яго драбіны былі з ляскамі, палажыла чаравікі ў воз і згубіла. *Кукалеўка.*

## М

МАГАЗІН м. Шырынка, прарэха ў штанах. *Мінск.*

МАЗЁНКА ж. Пасудзіна для мазі. Праўда, што сучка мазь з'ела і мазёнку на галаву надзела. *Мурожніца.*

МАКАВЕЙ м. Рэлігійнае свята, якое прыходзілася на 14 жніўня. На Макавей у нас кірмаш быў. Тады едуць, ідуць з горада, адусюль. *Рудня.*

МАНДУЙ м. Недарэка, нерастаропны, непаваротлівы чалавек. *Мурожніца.*

МАЛАДЗЕ́НЕЦ м. Малады, жаніх. Маладзенец паехаў дамоў, а на заўтра зноў прыехаў са сватамі.

МАЛАДЗЕНЬ м. Жаніх. Цераз некаторы час прыязджае маладзень сватаць сіротку. *Серкавіца.*

МАЛАДЗЁН прым. Малады, жаніх. Сягоння маладзён шчаслівы, дадому едзіць. *Бірулі.*

МАЛЁГАЦЬ незак. Прасіць, угаворваць. Прышла суседка сьвячы нейкай пазычыць да мацыклета, ён і даваць не хацеў, але баба такая, што каго хочыш умалёгая. *Краснае.*

МА́ЛІЦЦА зак. Паводзіць сябе як малое дзіця, лічыць сябе малым. А бо-о, дакуль ужо твая Ларыска маліцца будзе! Няма чаго маліцца, калі з-за пазухі валіцца. *Краснае.*

МАЛЯВІДЛЫ мн. Фарба для малявання. Пачытоў, пачытоў, не спадабалася яму, тады піша на другім баку проста малявідламі. *Ракаў.*

МАЛЯРАВАЦЬ незак. Хлусіць, выдумляць, казаць няпраўду. *Мінск.*

МА́РАЦ м. Сакавік. Я заўважала ў марцы, якім будзя лета. *Хожава.*

МАРЗЭКАЦЬ незак. Пісаць ці маляваць абы-як і абы-што. Ну што ты тут намарзэкаў? *Слабада.*

МАРКАТАЦЬ незак. Бляяць, мэкаць. Баран-маркач замаркатаў. *Стаўбцоўскі р-н.*

МАРНАЕ ЖЫТА. Неўрадлівае жыта, скошанае на корм жывёле. Тут адразу было жыта, пасьля яго скасілі, марнае было, ды пасеялі кукурузу. *Хожава.*

МА́РНЫ прым. Благі. З Івенца зімой і малы аўтобус не ідзе, бо марная дарога ўсё лета, а ні тое, што ў завіруху і снег. Баяцца яны пускаць гэту калыску, бо горы вялікія і яшчэ дзе перакуліцца. *Волма.*

МАРШАЛАК м. Старшы сват — галоўная асоба ў вясельным абрадзе. Абвязалі маршалкаў палатном. *Хожава.*

МАРЫНАРКА ж. Пінжак. Шаферкі бяруць цвяты і прышпіляюць да марынарак: маладому з правага боку, а ўсім асатнім — з левага. *Рудня.*

МА́СЛЕНКА ж. Маслёнка. Масленкі выпіў ба свежай. *Бірулі.*

МАСЛЯНКА ж. Бойка. Маслянка можа рассохнуцца, тады замачваць нада. *Бірулі.*

МАТАРОЛ м. Мотаролер. Людзі дабротна жывуць: многа гэных, як іх, матаролаў... *Хожава.*

МАТАЦЕ́ЦЬ незак. Біць капытамі (пра каня). А трэба яму (жарабку) сена даць, дык іду па столі, каб

яму скінуць сена, а ён стане на заднія ногі ды пярэднімі нагамі матаціць, зубамі скрыгоча. *Старадворцы.*

МАХРАЧЫ мн. Махры Так у нашай Стэфкі брыдка ў хаце. На стале абрусак з махрачамі — чорны. *Рудня.*

МАЦЁНКА ж. Маці. Аддала мацёнка маладу. *Бузуны.*

МАЦЫКЛЕТ м. Матацыкл. Ці ж на мацыклеце гэтак езьдзяць? Портачкі гэтыя як — верацянцом страсьці і кажарачка гэта. Людзі цёплае купляюць. Краснае. Немец прыехаў на мацыклеце і давай зрываць абрусы са сталоў, я не даваць. *Хожава.*

МАЧА́КА ж., толькі ў адз. Мучная страва, мачанка. Быў у нас сусед некалі. Як прыдзя ў хату, так і пытаецца: «Вы ўжо снедалі? Я дык ужо. Мая Алена такой мачакі наварыла смашной у чарапку, не ад'есьціся». А калі прыдзя і кажа: «Я сягоня канаплянку еў». *Краснае.*

МЕЛІШЧА н. Месца, дзе капалі мел. Раней людзі ўсіх вёсак ехалі сюды капаць мел. І вось гэта месца называецца мелішча. *Коцькі.*

МЕХАВАТЫ прым. Марудлівы, гультаяваты чалавек. Мы раз пер'я скублі, а прышла да старога ў магазін дзяўчына, дык мы хацелі, каб яна памагла. Але дзе тая помач з той мехаватай, як узяла адну пярыну, поўгадзіны, пэўня, дзёрла. Гэткай работай і на ваду не заробіш. *Краснае.*

МІГІ мн. Жэсты і міміка. Я на мігах яму растлумачыла, мо й зразумеў. *Навагрудскі р-н.*

МІКАЛАЕЎСКАЯ ВАЙНА. Першая імперыялістычная вайна. У Мікалаеўскую вайну не было запалак, красілі агонь. *Волма.*

МІ́КАЦЦА незак. Імкнуцца, збірацца што-небудзь рабіць. Міша ўжэ казоў: «Давай паможам гэтай бабе». Але ж другія не мікаюцца. *Навагрудскі р-н.*

МІЛЮСЕНЬКІ прым. Форма ацэнкі ад мілы. «А мой жа ты, мілюсенькі, а чым жа ты сыцюсенькі?» *Прудок.*

МЛЯЧА́РНЯ ж. Малачарня. Яна дзесяць клас не кончыла, пайшла ў вячэрнюю, а ўжо ідзе замуж. У млячарні цяпер работае. Хожава. Згон зімы абакралі млячарню. *Гілікі.*

МОГЛІЦЫ мн. Могілкі, клады. Пад'ехалі пад могліцы, і зноў ён яе пытае, ці страшна ёй. *Даўматаўшчына.*

МОЎНЫ прым. Гаваркі. Як бочка поўна, то і жонка моўна. *Белавуша.*

МУДРЫКІ мн. Хітрыкі. Мне твае мудрыкі не нада. *Бірулі.*

МУДЫКАЦЦА незак. Марудзіць, марудна рабіць. У мяне б цярпення не хваціла мудыкацца гэтак, на такіх казлах спіна калом станя, пакуль дрова парэжыш. *Краснае.*

МУЗЫКА ж. Вечарынка, танцы. А то яшчэ сьню: быццам лячу я з музыкі. *Хожава.*

МУРОЖЫНА ж. Мурожніца, аўсяніца. А калі палатно ткалі, то яго бялілі. На мурожыну, каб выбельвалася, рассцілалі і доўга яго і мачылі, і сушылі. *Рудня.*

МЫГЛА́ ж., толькі ў адз. Імгла. Вялікага дажджу німа, мыгла мыгліць, але так золка на дварэ. Надзявай плашч, гэта ж не праз вуліцу прайсьці! *Краснае.*

МЫЛІЦЦА незак. Злавацца, надзімацца. Мыліцца нечага твая баба на мяне. *Бірулі.*

МЫСЛІНО́ЎКА ж. Батыставая хустка. Хацела мысьліноўку ў Радашковічах купіць на лета, дык не было. У Аньці Лукашовай ёсьціка ішчэ даўнейшая, мысьліновачка, рэдзенькая, далікатная надта ж і дзьве палоскі па ёй. *Краснае.*

МЭДЗІЦЦА незак. Прыбірацца, прыхарошвацца. Мэдзіцца, мэдзіцца каля гэтага люстэрка гадзіну ўжо, аж цярпення лопая яе чакаць і глядзець на яе. *Волма.*

МЭНДАЛЬ м. Мера колькасці. У мэндлі дзесяць снапоў. *Навагрудскі р-н.*

МЯЖДЖУЛІЦЬ незак. Біць, мясіць, таўчы. *Мурожніца.*

МЯЛІННЯ толькі ў адз., зборн. Кастрыца — адходы пры апрацоўцы ільну. Сьвяня топіцца, а падсцілу німа. Доў жа бог зяцька, хай яго немач! Ніколі мяліньня не прывязе, і машына ў руках. Вот каб гарэлку піць, дык ён хоць кажны дзень. Гультай і апівуда, і больш ніхто. *Краснае.*

МЯЛЬНІЦА ж. Церніца, мяліца. Бывала мяльніцай увесь лён перамнеш і рук не чуеш. *Бірулі.*

МЯРЗЛЯК м. Мёрзлая бульбіна. У нас пасля вайны, як есці не было чаго, сабіралі па полю мерзлякі, варылі і елі. *Рудня.*

МЯЦЬВА н. Салат з рознай зеляніны. *Мурожніца.*

МЯЧКА ж. Жанчына, якая мне лён. Братавая мая, Стэфка, вот мячка была добрая, а як трапаць лён пойдзя — дык ніхто за ёй не ўгоніцца. Вот работніца. *Краснае.*

# Н

НА́БРЫЗНЬ ж. Брыдота. *Яна для мяне горш набрызні. Бірулі.*

НАБРЭНКНУЦЬ зак. Набрыняць. *Фасолі зоўтра зварыш на дзень, але спачатку памачы, каб яна набрэнкла, так яна не разварыцца. Краснае.*

НАБЭРСАЦЬ зак. Напісаць неразборліва. *Набэрсаў нешта, не разбярэш, от пісака, чорт голаву зломіць. Навагрудскі р-н.*

НАВАРАЦА́ЦЬ зак. Званітаваць. *Хто гэта наварацаў? Слабада.*

НАВЕ́ЛІЧКІ прысл. Велічынёй. *У мяне дык усе дзеці любілі праснакі есьці з салодкім малаком. Дык я цёмгля пякла. А як увесь хлеб выпяку, тады паскрабу дзяжу і нарэсця ўсаджу перапечачку з яблык навелічкі. Краснае.*

НАВУРЗГАЦЦА зак. Насёрбацца. *Так навурзгаўся зацірκі, што чуць адсопся. Слабада.*

НА́ГІБКАМ прысл. Піць не шклянкай, а нахіліўшы якую-небудзь пасудзіну; нагбом. *Іду з магазіна, а Кастусь віно Лідзе нясе. Астанавіліся зь Лідай, выпілі нагібкам тое віно і разышліся. Краснае.*

НАДО́ВІЧЫ прысл. Не так даўно, надоечы. *Надовічы мы сабраліся на калхознае поле ісьці. Выходзя Юзаф на двор і запрошвае ў хату: «Браточкі, хадзеце ў хату, падзівіцеся». Мы гуртом і ўвайшлі. А ён узёў у аднаго пугаўё, ды давай рызманы з-за куфра выцягваць пугаўём. Краснае.*

НАДЧЭКВАЦЬ незак. Чакаць з хвіліны на хвіліну. *Заслаўе.*

НАДЗЮБАЦЦА зак. Напіцца гарэлкі. *Нехта ж казоў, што твой зайшоў к Апанасу ды надзюбаліся. Хожава.*

НАДЗЮГАЦЦА зак. Нахадзіцца. *Я ў той дзень надзюгалася колькі хочаш, але спаць яшчэ не лягла. Рудня.*

НАДРЫНДАВАЦЦА зак., іран. Патанцаваць. Усе пайшлі танцаваць, а Марцін павесіў на кравацъ новы кажух, пакуль надрындаваўся, дак і кажух паехаў. *Хожава.*

НАКАЛО́ЦЬ зак., груб. Падмануць, абдурыць. Нарэзалі талонаў, напісалі і далі Лене, каб дала па тры порцыі. Хацелі накалоць. *Хожава.*

НАКАЛПА́К прысл. Набок, набакір. Наш Вася шапку накалпак нося. Ніколі начай не надзене. Гэта прывычка, мусіць, ужо такая. Іншыя бабы хусткі гэтак завязаваюць. *Краснае.*

НАКІЛБАСІ́ЦЬ зак., груб. Нагаварыць абы-чаго. Ідзіце да Рамана, ён шмат чаго ведае, ён вам накілбасіць. *Хожава.*

НАМЁК м. Знак. *Як я была малая, вот любіла каля рэчкі гуляць. Зраблю ў пяску намёкі пятой і цэлы дзень гуляю, ад пяты да пяты: і сонца зойдзя. А маці з пугай як прыдзя, як джгне пад лыткі, во ляту дамоў. Краснае.*

НАМЕ́ТКА ж. Метка, знак. У тую вайну служыў у Окскім палку, ранены быў, вось тут наметкі на лбу. *Рудня.*

НАМЁТКА ж., уст. Жаночая павязка на галаву. Збяромся ўсе, парафіяй, і тчом намёткі. *Хожава.*

НАПА́ДАМ прысл. Нечакана, раптоўна. *Як прыехаў нападам у госьці, то не чакай добрай пачастосьці, бо не чакалі ж, не рыхтаваліся. Волма.*

НА́ПУСТА прысл. Без прычыны. І сабака напуста не забрэша. *Крамяніца-Дольная.*

НАРАПАРАВАЦЬ зак. Адрамантаваць. На гары ішчэ такі добры вобуй ляжыць. Нарапараваць яго, дык ішчэ можна на работу насіць. Лепей, як новыя бэсьціць. *Краснае.*

НАПАСЛЕДКІ і НАПО́СЛЕДКІ прысл. Нарэшце. Напаследкі выпілі і маю наліўку, п'яніцы. *Слабада.*

НАПАЎДЗЁН прысл. У сярэдзіне дня. Ужо сонца напаўдзён. *Слабада.*

НАПІЦАВАНА дзеепрысл. Напхана, набіта. Поўная торба напіцавана стручкамі. *Слабада.*

НАРУБАЦЬ зак. Насячы. Нарубаў дроў дзядзько, а потым сам думае: «Нарубаў бы больш, але хамут парвецца або воз паломіцца». *Дзярэчын.*

НАРУГА́ЦЦА незак. Здзекавацца, кпіць з каго-небудзь. Ты яшчэ наругацца будзеш? Я табе наругнуся. *Бірулі.*

НАСАБА́ЧЫЦЦА зак., груб., абразл. Стаць несумленным, стаць на шлях падману. Так ужо насабачыўся, што круціць увачавідкі. *Хожава.*

НАСКАБЛІЦЬ зак. Наабіраць. Наскаблі бульбы, зварым вечарам. *Бірулі.*

НАСЦЁБАЦЬ зак. Набіць, пакараць. Як ня выйдзеш, на работу, дак тады пан, бывала, нагайкай насьцёбае. *Хожава.*

НАСЯКАННЕ н. Страва, прыгатаваная з страўніка жывёлы. Насяканне можна зробіць. *Бірулі.*

НАТРУДЗІЦЦА зак. Напрацавацца, замарыцца. А нам не да спеваў, мы ж натрудзіліся. *Хожава.*

НАЎПОПЕРАК прысл. Супраць, насуперак. Стагналі людцы, але працавалі і баяліся слова наўпоперак сказаць. *Нарэйшы.*

НАЎРЫЦЦА і НАЎРЭЦЦА зак. Натрапіць, нечакана спаткаць. Волька наша ў Радашкавічы ця-

перака на работу езьдзя. Колькі прасіла яе, каб купіла боцікі цёплыя на кажурыне, дык не было ўсё. А ўчора во кажа, наўрылася, але насіць німа калі. На гэну зіму будуць добра. *Краснае.*

НАЧАЙ прысл. Іначай. У нас кажуць «лейцы», а ў Волме начай — «вожкі». *Кукалеўка.*

НАЧНІЦЫ мн., уст. Паводле народнага павер'я — міфічныя істоты, якія не даюць спаць. Зара-зараніца, будзь памачніцай, вазьмі ў майго дзіцяці начніцы: пужлівыя, крыклівыя, несанлівыя. *Загор'е.*

НА́ЧЧЫ займ. Інакшы. Уперад машыны былі наччыя, а цяпер машын многа. Спачатку баяліся, пакуль увазналі іх. *Кукалеўка.*

НАШАРУ́ прысл. Перад тым, як стала цёмна, шарай гадзінай, прыцемкам. Нашару на могілкі прыйшла жанчына з Аханян і пачала галасіць па сваім пахаваным мужыку. А той дзядзька, што ўваліўся ў яму, прачнуўся і стаў гаварыць. *Коцькі.*

НАШЧАДРЫЦЬ зак. Сабраць пачастункі і падношэнні ў час калядавання. Тут яны нам вынеслі мёду, гарэлкі, мяса. Мы яшчэ зайшлі на другі хутар, і там яшчэ нашчадрылі. *Рудня.*

НЕВІНЁНТАЧКА ж. іран. Невінаватая, анёл. Гэта невінёнтачка Гармашова палец аб палец каб калі стукнула, толькі вымалёўваецца. *Волма.*

НЕДАБО́ЕК м. зневаж. Састарэлы ветэран вайны. У нас на хутары адны недабойкі. Прымушаюць хаты пераносіць або пераходзіць у новыя. *Хожава.*

НЕДАЛЁЧАНЬКА прысл. Форма ацэнкі ад недалёка. Не плач, не плач, мая мамачка па мне. Да я ж буду недалёчанька ад цябе. *Рудня.*

НЕДАЛЭНГА агульн. Слабы, недалужны чалавек. А гэты недалэнга ледзьве ідзе, чысто слімак паўзе. *Навагрудскі р-н.*

НЕДАЛЭНЖНЫ прым. Недарэчны, недалужны. Дзед быў нейкі недалэнжны. Паедзе на начлег, ляжа спаць, а з яго шыдэраць колькі хочуць, а тады смяюцца. *Волма.*

НЕДАЧУПА́ЛЫ прым. Недаразвіты. Гэты хлопец быў трохі глухаваты і так недачупалы. Сваталі, сваталі дзеўку і аніяк. Ведама хлопец незавідны быў. *Рудня.*

НЕЗДАЛЯЧАЕ прым. Кволае, слабае, нядужае. *Мурожніца.*

НЕЗДАРОЎЧЫ прым. Хваравіты. *Слабада.*

НЕ́КАЛІСЬ прысл. Некалі, калісьці. Некаліcь мы на торф хадзілі. *Рудня.*

НЕПЕРАЛІЎКІ мн. Цяжкая сітуацыя. Стаялі і жартавалі, а мяне як хваціў жывот. Дык тут не да жартаў, непераліўкі, трэба ратаваць чалавека. *Волма.*

НЕЎТАЛО́ННЫ прым. Неспакойны, задзірысты. Ззаду гарбаты, спераду лупаты, да к таму яшчэ неўталонны п'яніца. *Рудня.*

НЕСЛУШ м. Неслух. Я ўбіла б яго з гэтым хамяком, гэтага неслуша. *Кукалеўка.*

НЕХТАЦЬКА займ. Нехта. Настаўніцу выдаў нехтацька, немцы ўварваліся ў вёску і схапілі, а яна памагала парцізанам. *Рудня.*

НЁЖ прысл. Няўжо ж. А тыя мяшкі ці залапіла? — Нёж. *Кукалеўка.*

НІЖНІЦА ж. Ніз невада. Ніжніцу трымай крапчэй. *Бірулі.*

НІЗНА́КА агульн. Нязнайка. Няможна ёй яшчэ верыць, пасылаць да дзіцяці, яна яшчэ сама нізнака. *Волма.*

НІКАГЕНЬКІ займ. Форма ацэнкі ад нікога. Няма ў лузе нікагенькі, толькі адзін салавейка. *Рудня.*

НІКАЦЬ незак. Шукаць, раз-пораз заглядваючы ўсюды. Чаго яны нікаюць тут? *Бірулі.*

НІМАШАКА безас., вык. Няма. Сын у Барысаве жывець, але дзяцей німашака. *Рудня.*

НІМАШАЦЬКІ безас. вык. Няма. Ногі мае рвуць, месца німашацькі. *Рудня.*

НІМАШЧЫ прым. Той, які нічога не мае. *Рудня.*

НІЯКІ займ. Той, што не мае вартасці, зусім кепскі. У нас, праўда, клуб вялікі, але ніякі. *Хожава.*

НЫРАЧКА ж. Жанчына, якая ўсюды «ныркае», імкнецца дапасці, пабыць, заявіцца. Бяз гэтай нырачкі нідзе не абойдзецца. *Слабада.*

НЫРКАЦЬ незак. Заглядваць, туды-сюды, шукаць. Чаго яна там ныркае? *Слабада.*

НЯБОЖ м. Форма звароту. Голубе, даражэнькі. Но, но, но, казёл, но, но, но, нябож, паварочайся, не забывайся, то на той бачок, то на той бачок. *Заполле.*

НЯБО́СЬ пабочн. слова. Як у застаронкі снапы будуць складзены, дык, нябось, жыта на такавішча пасыпіцца. (...) Нябось, Франя ў калхоз не пашла, а нейкую работу ў Мінску нашла. Лягчэй. *Краснае.*

НЯДБАЙНІК м. Гультай. За ліхім мужам і нядбайнікам мая доля няшчасна. *Вязынка.*

НЯЗМЫСЛЫ прым. Неразумны, неспакойны. У мяне козачка ёсьціка. Аказілася цяперака, прывяла казельчыка аднаго, дык хачу ішчэ козачку, каб не нудзіліся. А старая каза, гэткая нязмыслая, надаядная, аж на сьцены скача. Трэба, мусіць, збыць яе. *Краснае.*

НЯМАШАКА безас. Няма. Нямашака ніводнага дня, каб не ўспомніла я свайго сына і гэтую песню. Нараблюся за дзень, лягу, а ў галаве ўсё гэта песня пра краснага камандзіра. *Рудня.*

НЯНЬКАЦЦА незак. Няньчыцца. Німа ніякай работы, толькі з ім стой і нянькайся, дзядзюкайся, забаўляй. *Волма.*

НЯШЧА́СНІЦА ж. Няшчасная. Была завязана такая хустка, дык што ў ружах ляжала — няшчасніца. *Хожава.*

## П

ПААБА́БІЦЦА зак. Стаць як баба. У горадзе паабабіўся трохі. *Слабада.*

ПААДДУШВАЦЬ зак. Паадціскаць. А кавалеры гэтыя малыя, на ногі лезуць і лезуць, усе пальцы пааддушваюць. *Рудня.*

ПА-АНГЕЛЬСКУ прысл. Па-англійску. У Амерыцы я хадзіла ў школу тры гады. За гэты час навучылася гаварыць па-ангельску. *Рудня.*

ПАБРАХА́ТАЛЬ м., зневаж. Пляткар. У нашага старога была добрая пеньсія, каб не той пабрахаталь, каб яму дабра не было. Мэтрыкоў не было, яго паставілі на наружны від, і як аглянецца — так і запішуць. Дык на тры гады памаладзілі. *Краснае.*

ПАБУНТАВАЦЬ зак. Пераблытаць. О, усё пабунтавалі, зноў пачынай. *Навагрудскі раён.*

ПАБЯГУЧЫ прым. Увішны. Сыны яго пахадучыя, дочкі яго пабягучыя. *Доўгае.*

ПАВЕ́СМА ж. Шэсць жменяў лёну. Мячка, як намне шэсць жмень лёну, вяжа павесму, а як накладзе дзесяць павесмаў, кажуць, што намяла дзесятак.

Добрая мячка дык па два і па тры дзесяткі наміна-ла. *Краснае.*

ПАВЫЙМАЦЬ зак.; перан. Узяць, дастаць. Пай-шла ў лабараторыю, павыймала ўсе спраўкі. *Хожава.*

ПАВЭДЛЕ прыназ. Паводле, у параўнанні, суп-раць. Ён жа павэдля яе — дзяцюк. *Волма.*

ПАВЯДЛІЦА ж., Палянддвіца. Павядліцы ўзяла трохі, туфлі ў руку і павяла карову. *Хожава.*

ПАГАДАНКА ж. Пагалоска. Праўда, я гэта не выдумала, гэта такая пагаданка хадзіла па вёсцы пра Юзафавы рызманы і яго жонку. *Краснае.*

ПАГАРОДНІК м. Хлапчук ці падлетак, які лазіць у чужыя гароды красці. *Слабада.*

ПАГУКАЛЬНІК м. Гаворка, гутарка. З нялю-бым дзедам сядзела, ні з ім пасядзельнік, ні з ім пагукальнік. *Ладасна.*

ПАДАТКНУЦЬ зак. Зрабіць данос, тайна паве-даміць. Немцы прыязджалі ў вёску часта. Нехта падаткнуў, што ў вёсцы партызаны, дык яны і прыехалі. *Рудня.*

ПАДВЫПІТЫ дзеепрым. У лёгкім ап'яненні, на падпітку. Быў не п'яны, але трохі падвыпіты. *Сла-бада.*

ПАДДЗЕЎКА ж. 1) Дзяўчына-падлетак. 2) Тое, што адзяюць пад верхнюю вопратку, каб цяплей было. Скінула і плашч і паддзеўку цёплую. *Слабада.*

ПАД'ЁМ м. Ліфт. паеду, у ванне вымыюся ў дачкі. Толькі цяжка на ступеньках падымацца. Але там і пад'ём ё. *Рудня.*

ПАДЖЫВОТНІК м. Пахвіна. Бабанькі, быстрэй ідзіце, машына чакае. Вот, а барты якія высокія! Мужчына — не баба, быстранька ўзлезе, а яны дык жываты паадбіваюць, то паджывотнікі. *Рудня.*

ПАДКАЗЧЫК м. Даносчык. Але сярод нашых сядзелі і падказчыкі, і праз іх білі нашых людзей. *Хожава.*

ПАДКАЛУТКА ж. Забелены малаком суп з бульбы і мукі. Дай хоць паўвядзерца бульбы. Дзеткам хоць падкалоткі якой звару. *Слабада.*

ПАДМЯЛЕННЕ м. Рэшткі, які застаюцца пасля апрацоўкі льну церніцай. Я на льне пасля вайны рабіла. Пайду ў калхоз мяць — дак з падмялення і сабе што зробіш, бо не было з чаго. *Рудня.*

ПА́ДКІ прым. Дападкі, ахвочы. А маладыя цяпер вучыцца не падкія, ня хочуць. *Хожава.*

ПАДКУСІЦЬ зак. перан., асудж. Выдаць каго-небудзь. Падкусіў той пабрахаталь татку з гадамі. Аш тры гады скруцілі яму, падмаладзілі. *Краснае.*

ПАДЛАБУНЬВАЦЦА незак. Падлізвацца да каго-небудзь, быць ліслівым. Панталеева нявестка была аддзялілася, паставіла хату сабе, а посьля паглядзела, што ў сьвякрыві болей багаства, тады давай падлабуньвацца да яе, каб прыгарнуць сабе яе золата. Сьвякроў золата аддала, а дачку згубіла. *Краснае.*

ПАДЛЫЖНІК асудж. Чалавек, які любіць кпіць з другіх. Піліп добры падлыжнік, цёмгля зубы голя над кожным чалавекам. Але Шурка яму ніколі не дасьць выгаварыцца, дасьць яму адпор. *Краснае.*

ПАДОЙМІШЧА У фразе: і на падоймішча. Як падняць, цяжкі. Гарбуз — на падоймішча, ледзь занесла. *Лагойскі р-н.*

ПАДОЛЛЕ м. Прыпол, падол. Здзівіўся стары, бо як гэта ў падолле сыпаць вугалле. *Пераброддзе.*

ПАДПА́СЦІ зак. Звычайна аб хваробе. Нечакана, раптоўна ўзнікнуць, з'явіцца. А ў гэту здаровую ногу рожа падпала. *Хожава.*

ПАДПО́ЛЬКА спагадл. Падпольная барацьба супраць фашысцкай дыктатуры і буржуазна-памешчыцкага ладу ў Польшчы. У нас самая падполька была пры Польшчы. *Хожава.*

ПАДПАСВАЦЬ незак. Пасвіць жывёлу дадаткова, пасля таго, як прыгоняць з поля. Бацька кожны дзень яе патпасваў пасля пашы, дык прывучыў. *Хожава.*

ПАДПА́СЦІЦЬ зак. Пасвіць жывёлу дадаткова, пасля таго, як прыгоняць з поля. Стасік, ідзі па авечкі. Яны толькі мокнуць, а пасля павядзеш у сад падпасеш.

ПАДРУЧНІК м. Шафер, удзельнік вясельнага рытуалу з боку жаніха. Калі ж падручнік доўга таргуецца, нікога не дае, дзяўчаты спяваюць: «Казалі падручнік вельмі харош, ажне падручнік крывасос». *Больнікі.*

ПАДРЫГАЦЬ зак.; асудж. Патанцаваць. А зара падрыгаюць, падрыгаюць гэныя танцы і разыйдуцца па хатах. *Хожава.*

ПАДХВАТНІЧАК м. Форма ацэнкі ад падхватнік. Адзін з калядоўшчыкаў або валачобнікаў, які звычайна падхопліваў пачатую запявалам песню. Пачынальнічку сорак яечак, а падхватнічкам хопіць па дзесятачак. *Ладасна.*

ПАДЦЯЛЕЖЫЦЬ зак. Паваротам каня ў аглоблях прыпадняць перадок калёс. Падцялежыўшы, лягчэй перакуліць воз. *Слабада.*

ПАДШЫЦЬ зак. Падбіць. Падшылі столь фанерай і ў хаце цяплей. *Бірулі.*

ПАЖЫВІЦЦА зак. Перакусіць чаго-небудзь з яды. Чаго гэта табе даць смашнога пажывіцца, голад прагнаць. *Волма.*

ПАЗАДДЗЕ н. Адыходы пры веянні намалочанага збожжа. Мех пазаддзя прынёс, курам будзе. *Слабада.*

ПАЗЫЛЛЕ н. Рэшткі памыяў, недаедкі, астаткі свінні сабрала пазней. *Слабада.*

ПАКАЛІСЬ прысл. Пакуль. Андрэйка ішчэ цяжка гаворыць. Людзі і кажуць: пакаліcь камень не скажа, дзіця ня будзя гаварыць чыста. *Краснае.*

ПАКАРЧАВАЦЦА зак. Разрасціся (карчом — пра агародніну, жыта). Як жыта пасеюць, гавораць жыта абышло, а як пакарчуецца, называюць руняй. Зразу вылазіць па аднаму каліўцу, а посьля яно выпусця колькі каліўцоў. Во, кажуць, жыта пакарчавалася, дае падсадку. *Краснае.*

ПАКІДЗІШЧА н., зневаж. Непаважаны чалавек, якога ўсе старанящца. Каб мне яго і сілай аддавалі, дык я б у хату не ўзяла Стасіка, гэта ж пакідзішча, а не мужчына, толькі бяду сабе на галаву возьмеш. *Волма.*

ПАЛ м., толькі ў адз. Гарачка, высокая тэмпература. Нявестка ўжо каторы дзень ляжыць. Пал надта ж вялікі, дакторка была, кажа, што грыпа. Першы дзень аж за сорак падскочыла. *Краснае.*

ПАЛАВЕНЬКІ прым. Форма ацэнкі ад палавы. Ён на коніку, на вараненькім, яго мілая на палавенькім. *Трэці Гарадзец.*

ПАЛАНАЧКІ толькі мн. Маленькія начовачкі (карытца) для «палання» круп, збожжа. «Вазьмі паланачкі і прапалай абтоўчаны авёс. *Лагойскі р-н.*

ПАЛЁГЛІЦА ж. Палеглыя збожжа і травы. Учора ледзь ногі прыцягнуў дамоў, касіў палегліцу. Па палёгшай трэба пацягнуць касой. *Хожава.*

ПАЛЕЦ м. Ручка, якая прымацавана да касся (касідла). Палец вышэй паднімі! *Бірулі.*

ПАЛІ́ВА ж. Збанок. Паліва ў пашаноце, дык доўга будзя. Паліўнікі некалі вот харошыя палівы рабілі. У Казаковай Ніны бачыла гэткую, кажа, што цяперака купіла на віно. *Краснае.*

ПАЛІ́ЎНІК м. Ганчар. Паліўнікі некалі рабілі палівы як спарышы, альбо іх дваякі называлі. Мы цёмгля на ток бралі яду ў іх, як малацілі. *Краснае.*

ПАЛО́ЙНІК м. Апалонік. З'ем усё, а ён у плач. Маці з палойнікам да нас ляціць. *Хожава.*

ПАЛЫКА́ЦЬ незак. Палыкаю, палыкаю — ніяк не палыкну. *Навагрудскі р-н.*

ПАЛЫКНУЦЬ зак. Праглынуць. Не магу палыкнуць, у горле дзярэ, хоць плач. *Навагрудскі р-н.*

ПАЛЮДЗКАВА́ЦЦА зак. Часова красавацца. Доўга я плакала па гэтай сукенца. Так і не палюдзкавалася ў ёй. *Волма.*

ПАМАЗЛЫК м. Кавалак сала, якім мажуць патэльню, падмазка. Во, а цяпер з'ем памазлык. Бачыш, які ўкусны, а ты баяўсё. *Навагрудскі р-н.*

ПАМАЎЗНІ́ЦА ж. Ласуха. Вот памаўзніца! Усю смятану зверху з'ела, ах, каб табе даў бог здароўя. *Волма.*

ПА́МЯТНЫ прым. Памятлівы. А божа мой! Ён памятны, хай ён раскажа, а што я, нічога не помню. *Хожава.*

ПАНАЎМІ́ЦЬ зак. Здагадацца. Баба Колява цёмгля кажа: «Вот я скора панаўміла, што ты задумала.

Прыдзеш да яе, яна сядзіць на печы і ружаньчык перабірае, пэўня, пацяры гавора. *Краснае.*

ПАНОША ж. Цяжарнасць. У яе было восем паношаў, а дзевяць дзяцей, бо адзін раз блізняты нарадзіліся. *Слабада.*

ПАНУРЫЦЦА незак. Свавольнічаць, неслухацца. А калі хто панурыцца, дык поп ставіў на калені на жарству. Во як было. Стаіць каторы, аж слёзы цякуць. *Рудня.*

ПАПРАДУХА ж., уст. Жанчына, якая прадзе. Дзеўкай як я была, папрадухі зьбіраліся, ткалі кросны. Адбельвалі палатно. *Хожава.*

ПАПРА́ДУХА ж. уст. Жанчына, якая прадзе. Во мая сваці добрая папрадуха была! Шпульку за шпулькай прадзе, а ніткі, як талькі, тоненькія. *Краснае.*

ПАПРА́ДУХІ толькі ў мн., уст. Зборышча вясковых жанчын і дзяўчат з прадзівам у зімнія і асеннія вечары. Я дзяўчынкай хадзіла ўжо ў папрадухі. Возьмем караўлоты, зьбяромся ў адну хату і вучымся прасьці. Якія мы йшчэ папрадухі. *Краснае.*

ПАРАСПАРЦЫЛЁЎВАЦЬ зак. Папарадкаваць (жывёлу). Пайду параспарцылёўваю скаціну і мігам туды. *Волма.*

ПАРЛО́ВЫ прым. Ячны. Парловыя крупы добра на куццю. *Кукалеўка.*

ПАРУБЕ́НЬ м. Жэрдка, якою ўціскаюць вазы. Саўхоз у Красным стоў у 1960 годзе. Прынёў усіх нас. Мы здалі пры калхозе — сямяны, коней, упраж, калёсы, парубень, плуг, барану. Але нам затым залічылі калхоз у стаж з 1949 года, як на пеньсію адпраўлялі. *Краснае.*

ПАРУШЭНЕЦ м., бат. Астрачал, куравай. Забаліць яму жывот, нарве парушэнца, напара і паправіцца. *Хожава.*

ПАРЦІЗА́НКА ж. Спагадл. Партызанская барацьба, партызанскі рух. Пытаецца: «Можна парцізанку арганізаваць?» *Хожава.*

ПАРЦІЛЯВА́ЦЬ незак. Размяркоўваць. Ішчэ як калхоз тутака быў, прышлі мы на работу, нарэсьця брыгадзір прышоў і папарціляваў нас на работы. Мяне дык з аднэй бабай каноплі рваць паслаў. *Краснае.*

ПАРЦЯНКОВЫ прым. Парцяны. Надзяеш, бывала, чысцейшую нажутку, спадніцу простую парцянковую, лапці лепшыя абуваеш і сустракаеш сватоў. *Ляшчынск.*

ПА́СА ж. Вялікая бочка для збожжа. У пасу некалі ссыпалі зярно. *Навагрудскі р-н.*

ПАСЕІ мн. Абдзіркі — пры ачышчэнні збожжа на крупадзёрцы. Крупы можна рабіць і дробныя, і буйныя. А пасеі, іначай — абдзіркі, ідуць асобна. *Рудня.*

ПАСЁЛАЧАК м. Невялікі ўчастак пад хату і агарод. Мы разам жылі на той бок ракі да вайны. А ўжо потым узялі тут пасёлачак. *Рудня.*

ПАСІ́ЛАК прысл. Пад сілу. Сама пасілак мне есці яйка — і тое ня ем, няможна. *Волма.*

ПАСКІПА́ЦЬ зак. Пашчапаць. Толькі выйшлі, а тут як бухнула — і ёй у вісок, і ручку паскіпала. *Ліпна.*

ПАСКУРА́ЦЦА незак. Хваліцца. Якуціха паскураіцца сваім здароўем, многа мае яго залішне. *Волма.*

ПАСО́ВІШЧА агульн. абразл. Непаважаны чалавек. Стасік з Курачак — пасовішча, а не мужчына, страх на яго глянуць, а не толькі жыць з ім. *Волма.*

ПАСО́ЛЬ ж. Фасоля. У гэтым годзе мароз быў, пасоль некалькі раз садзілі ды і агуркі, муся, таксама. *Хожава.*

ПА́СТАР м. Пастух. Поп паглядзеў на торбачку і кажа: «Я — не пастар, не буду хрысціць, бо мала прынеслі». Кінуў і пайшоў у другі пакой. А дзіця плача, маткі ж німа *Рудня.*

ПА́СЦІ зак. Прапасці. Ездзілі ў Ліду, ездзілі ў Вільню, а з Вільні пяшком каровы вялі, акурат перад гэтым у мяне карова пала. *Рудня.*

ПАСЫ мн. Від узора, якім ткалі пасцілкі. Якую аснову зробіш, то такі ўзор і вытчаш. Узоры красівыя былі: і ў пасы, і ў клетачку, і ў абгародачку. *Рудня.*

ПАСЯДЗЕЛЬНІК м. Сядзенне. З нялюбым дзедам сядзела, ні з ім пасядзельнік, ні з ім пагукальнік. *Ладасна.*

ПАТАЛА́Х м., абразл. Несумленны, нячэсны чалавек. У Лазучончыхі, яе суседкі, мужык — вот паталах! Яна да дачкі ў госьці ездзіла, а ён узёў хазяйства ўсё яе рашыў, каб яна не ведала. Прыехала — анёж вуглы пустыя і мужыка німа. *Краснае.*

ПАТОМЫКА прысл. Потым, пасля. Патомыка падрасла, прала кудзельку, кросна. *Хожава.*

ПАТРА́ФІЦЬ зак. Дайсці куды трэба. Баба адна тут у прочкі хадзіла, узяла й заблудзілася і дамоў ніяк не патрафіць. Ходзя і шукая: «Здэцца ж, ад Дароты — першыя вароты, ад Ігната — другая хата. Кузёмка, а Кузёмка, адчыні! я твая жонка.» — «Ідзі,

ідзі, мая жонка даўно сьпіць»,— і не пусьціў яе ў хату. *Краснае.*

ПАТРЭБА ж. Госці, бяседа. Калі ў патрэбе, дык і гаворыць: на таго паглядзеў, не з тым пасядзеў... На патрэбу купляў хлеб, гарэлку. Прыду, крычу, што брыдка гэтак во піць, дзе ўжо патрэба, дык там ужо можна. Як ён кажа, пела ў патрэбе. Ці п'ю, ці ня п'ю — пяю. *Хожава.*

ПАТУЛЯКА агульн. Той, хто туляецца, хаваючыся ходзіць. Так і туляецца па-за вуголлю, патуляка гэты. *Слабада.*

ПАЎБАСТКА ж. Доўбня.

ПАЎДЗЁН м. Поўдзень. Недзе толькі пад паўдзён прышоў бацька будзіць сына. *Серкавіца.*

ПАХАДУЧЫ прым. Спрытны. Сыны яго пахадучыя, Дочкі яго пабягучыя. *Доўгае.*

ПАХЛЯПЕНЬ м. Стары, згнілы грыб; стары, зусім нямоглы чалавек. *Слабада.*

ПАХЛЯПНІ — зношаны ўшчэнт абутак.

ПАХНЮЧЫ прым. Пахучы, духмяны. Ой, гэты язмін такі пахнючы, на ўвесь двор. *Слабада.*

ПАЦЕПКІ мн. Дробныя рэшткі яды ў місе ці на скаўрадзе. Адны пацепкі засталіся. *Слабада.*

ПАЦМУЛІЦЬ зак. Есці без апетыту. I не есць нічога, варэння пацмуліць, во і наедак. *Рудня.*

ПАЦУРБА́ЛАК м. перан. жартаўл. Тоўстае дзіця. Генін пацурбалак малы так бегае, аж радасьць глядзець. *Волма.*

ПАЧА́ПАЦЬ зак. Пайсці памалу, не спяшаючыся. Ну, што, пачапаем поціху? *Слабада.*

ПАЧЫНАЛЬНІК м. Запявала у гурце калядоўшчыкаў або валачобнікаў. Пачынальніку бывала надаюць больш чым каму яец, каўбас. *Ладасна.*

ПАШАВЭЛАК м. Невыраслы хлопец, падлетак. На вечарынцы добрых кавалераў няма, адны пашавэлкі. *Слабада.*

ПАШТАРКА ж. Паштальён. Паштаркай яна цяпер робіць. *Бірулі.*

ПАШЧЭМКІ мн. Скіўіца. Учора зуб зламала, а сёння пашчэмкі баляць. *Навагрудскі р-н.*

ПА́ЧА ж. Бяда, гора, ліха. 1) Калі чалавеку трудна, то ён усё перажыве, а як добра жыць, то ўсё нейкую пачу выдумае; 2) Німа на яго пачы ніякай. *Волма.*

ПАЯРЧЫЦЬ зак. Зрабіць мацней. Паярчы пайдзі радзіва, а то ні чуваць, што ў ім гавораць. *Волма.*

ПЕЛЕСЦІ мн. Пелюсці, пелюшцы. Выступы па канцах ночваў. Добра зачапі вяроўку за пелесці, каб начоўкі не сарваліся. *Слабада.*

ПЕ́ЛЯСЦЬ ж. Спінка ложка. Нінка, мая хрышчоніца, маленькай вот сьмешная была. Я хворая ляжала, галавы не паднімала ад падушкі, а яна прыдзя да ложка, возьмецца ручкамі за пелясьць і пяе. Бабка яе гэткую сьмешную песьню наўчыла. Я ўжо такая хворая, а ўсё роўна засьмяюся, нявытрываю. *Краснае.*

ПЕРАБУНТАВАЦЬ зак. Пераблытаць, перайначыць. Падагналі нас немцы да вёскі і сталі рыхтаваць весільніцы. Але парцізаны перабунтавалі ім ўсё. *Рудня.*

ПЕРАГАВО́РШЧЫК м. Перакладчык. А ён стаў, у немцаў за перагавошчыка. Ад перагаворшчыка многа завісела. *Хожава.*

ПЕРАЖАРГНУЦЬ зак. Пераступіць. Як я была маладая, дык мы на вяселле хадзілі. Раз такая крутаніна была, буран. Гурбы намяло, што не пера-

жаргнуць, адну нагу. вымеш, а другую стаўляеш у снег. *Краснае.*

ПЕРАКАЛЕ́ЦЬ зак. Моцна змерзнуць. Перакалееш, што сьвет ня міл, а ўсё роўна цягня ісьці, дзе весела. Цяперака дык галавы з-за каміна не высунула б, сядзела б, спусьціўшы ногі на пяколак і грэлася б. *Краснае.*

ПЕ́РАЧЫ прысл. Уперад, даўней, некалі. Перачы ўсё па сватох езьдзілі і выбіралі дзеўку. Узьедуць сваты на двор, дзе ёсьціка дзяўчына, а ў хаце толькі гаршкі лясь-лясь — парадак наводзяць. Усё наравілі ўзяць, каб ад бацькоў багатых. *Краснае.*

ПЕРВАГА РЭЖЫМУ Старамодны. Гэты халацік шчэ первага рэжыму. *Кукалеўка.*

ПЕРАДНЯ ж. Вяроўка, якую чапляюць за канец парубня, уціскаючы воз. Залажыў жэрдку за перадню і стаў уціскаць. *Ракаў.*

ПЕРАК прысл. Упоперак. Раней ставілася хата — чатырохсценка. Балькі клаліся падоўжныя і перак. *Рудня.*

ПЕРАПЯЛЁСТЫ прым. Рабы. Сын у яе ростам малы, перапялёсты, а яна пытае: «Можа нявестку мне прывяла?» А ён вам па пуп. *Рудня.*

ПЕРАПЯЛЁСЫ прым. Тое, што і перапялёсты. *Слабада.*

ПЕРАТА́НЧЫЦЦА зак. Празмерна, шмат танцаваць. Мусіць пертанчылася ўчора, ляжыш. *Хожава.*

ПЕРАТАРЭКВАЦЬ незак. Гаварыць, размаўляць. Хай сабе будзе разумны, я не хачу ператарэкваць з ім. *Волма.*

ПЕРАШО́РСЦІЦЬ зак., перан., груб. Неаднаразова ўступаць у шлюб. Цяпер вот і Ірку кіне. А

Юзік, тэй тожа многа перашорсціў. То сюды прывозіць, то там. *Хожава.*

ПЕСЕЛЬНІК м. Спявак. У партызанах у нас быў гарманіст. А песельнікі якія былі! Цяпер такіх німа. Як гайнем бывала — аж лес калышацца. *Рудня.*

ПЕЧАНЁЎКА ж. Каўбаса з печані. *Мурожніца.*

ПІГУЛКА ж. Таблетка. Цэлы дзень пігулкі глытаю, а не лепшае. *Слабада.*

ПІЛАВІНЫ мн. Пілавінне. Бачу, ляжыць куча пілавін. *Налібокі.*

ПІЛЬНА прысл. Тэрмінова, неадкладна. Яму пільна нада ехаць было ў той лес. *Бірулі.*

ПІЛЬНІЦА ж. Лесапілка, пільня. *Слабада.*

ПІРГНУЦЬ зак. Штурхнуць, піхнуць. «Гэны гэнага піргнуў — гэны паваліўся». *Слабада.*

ПІ́СКАТ м. Піск. На лета да мяне прыязджаюць унукі, піскат у хаце. *Рудня.*

ПІСКЛІНЯТЫ мн. Кураняты, пыляняты. Перан: Дробненькія ранкі на лытках ад сіверу. *Слабада.*

ПІТЛЯВА́ЦЬ незак. Пытляваць. Даўней пшаніцу вазілі пітляваць у млын. Надта ж мука добрая пітляваная, але тады вотруб'ёў многа. Яны праўда, на глум не йдуць, добра карове сечку абмешваць. *Краснае.*

ПІ́ТЭЛЬ м. Млын, у якім пытлявалі. Пшаніцу ж сеялі, а ў нас быў пітэль, крупэўня была. *Рудня.*

ПІЦАВАЦЬ незак. Доўга і цяжка працаваць. Колькі я папіцавала на гэтых сотках! *Слабада.*

ПІЦО́ГА ж. Драпіна, шнар. А бо, Аньця, вот жа ты ў піцогах, як Ігнасёва кабыла! Гэта мусіць дзярбучка ваша твар абадрала. Вот дапускаесься, каб дзіця твар драла. *Краснае.*

ПІШЧО́М прысл. Нахабна, настырна. 1) Пішчом дабіваецца свайго, бяры яе замуж і кончана; 2) Кураняты на галаву лезуць пішчом. *Волма.*

ПЛАКСЛІВЫ прым. Плаксівы. Калі сава крычыць плакслівым голасам — хто-небудзь захварэе. *Крэва.*

ПЛАЦЕ́НКА ж. Тканіна з ільняных або з ільняных і суконных нітак. Я раз ткала плаценку. Ніна ішчэ ў школу хадзіла, у трэці ці чацверты клас. Учыцелька дык не магла схваліць, якая добрая спаднічка вышла. Я нітачак і зялёненькіх, і сіненькіх нафарбавала і ўткала. *Краснае.*

ПЛАЦЯНКО́ВЫ прым. Паркалёвы. Аж па пяты плацянковыя сукенкі насілі. *Хожава.*

ПЛІНДА ж. Неахайная, не паважаная жанчына. *Слабада.*

ПЛІШЧЫЦЦА незак. Сілком лезці, каб убіцца ў цесны натоўп. Такі ўплішчылася, нахабніца. *Слабада.*

ПЛЮНДАР м. ПЛЮНДРА ж. Неахайны брыдкі чалавек. *Слабада.*

ПЛЮШО́ВЫ прым. Пажыткі з плюшу. (Дзе запісана — невядома).

ПЛЯСКА́ЦЬ незак. Гаварыць глупства. Не трэба пісаць, што бабы пачнуць пляскаць глупства. *Волма.*

ПО́ВЯС м. Пояс. Бульба многа сіл вымае. А хочацца, як лепш. Сёлета да повяса дае сэрца, больш ідзе. Я ўжо баюся дзе да ўрача ісці. *Рудня.*

ПОД м. Застаронак. Наш дзядзя стралец, стралец, застрэліў чатыры мышы, а пятая пад под бяжыць. *Заполле.*

ПО́ДРАСТАК м. Падлетак. Сабяруцца подрасткі, пасядуць за лазняй, і цэлы дзень без дзела так і сседзяць. *Рудня.*

ПОКАРМ м. Корм. (Дзе запісана — невядома).

ПОКАЦЬ незак. Лопацца. *Слабада.*

ПО́ЛЫНЯ ж. плошча, якую ў разводдзе затоплівае вада з ракі ці возера. Сёлета полыні не будзіць. *Бірулі.*

ПО́ЛЫНЬ ж. Тое, што і полыня. *Бірулі.*

ПОПРАДКА ж, Папрадуха. Тады назаўтра сабраліся попрадкі прасці. І мой Алёшка прыходзіць ка мне. *Рудня.*

ПО́РАНЫ дзеепрым. Пораты. Ранены ўвесь чыста, асколкамі пораны, без нагі, застаўся ляжаць пры дарозе. *Хожава.*

ПОСНІЦА ж. Посная яда. Што ж, посніца была, сала не было, не то што цяпер.

ПО́ТРАХІ мн. Вантробы, трыбухі. Потрахі ў рэчку кінулі, а мяса забралі. *Налібокі.*

ПОШЫЎКА ж. Навалачка. Ларыска, купі ты мне паркаліку якога, пошыўка сусём во разваліласся. Бладзя будзе час мецць, дык новую пашые. *Краснае.*

ПОЯС КРУЧАНЫ м. Пояс плецены. Пояс тканы. Віды паясоў у залежнасці ад спосабу іх вырабу. «Даўней звычай быў: маладая, бываіць, даіць паясы... Усе яны з нітак суконных, узорамі роблены... Падпіразваюцца». *Ляшчынск.*

ПРАГАПІЦЬ зак. Памыліцца і ўпусціць, правароніць і пралічыцца. *Езярышча.*

ПРАГУЛЯЛАЯ прым. Пра жанчыну лёгкіх паводзін. *Слабада.*

ПРАЗ прыназ. Пра, аб. Калі думаеш праз яду, то яшчэ паправішся і доўга жыць будзеш. *Рудня.*

ПРАПРАСЦІ зак. Навярэдзіць пальцы доўгім прадзеннем. Сама работы больш ля лёну. Бывала і пальцы прапрадзеш, от тады ўжо баляць. *Рудня.*

ПРАЛКА ж. Калаўрот. Кіну-рыну пралку я пад лаўку. *Нарэйшы.*

ПРАМО́ЧКА ж. Прамакатка. Цяпер прамочкі і не нада, шарыкамі пішуць. *Бірулі.*

ПРАМУДЫКАЦЦА зак. Гл. мудыкацца. Прамучыцца. Усю раніцу прамудыкалася, дровы ні гарэлі саўсім, а свіням гэтулькі бульбы наварыць трэба. *Краснае.*

ПРАПАДА́ЦЬ (за кім) незак. Сохнуць, чэзнуць па кім-небудзь. Панская дачка прападала за ім. *Хожава.*

ПРАПЯКАНІК м. Праснак з тоўчанай бульбы. *Застадолле.*

ПРАТРАХАЦЕ́ЦЬ зак. Абстраляць. Парцізаны давай страляць. Як пратрахацелі, дак хоць бы адзін немец жывы, усе мёртвыя ляжаць. *Рудня.*

ПРАХАЛАДА́ЦЦА зак. Прастудзіцца. Там тую нядзелю прахаладаўся недзе, дык як ноч вялікая — кашляю ўсё! Такі кашаль вялікі. *Краснае.*

ПРАЦАЎКІ́ прым. Працавіты. А ён хлопец працаўкі. Многа работае. І маці ў яго добрая. *Рудня.*

ПРАЦЦЁ н. Прадзенне. Перад вялікоднем жанчыны не займаюцца праццём і хаваюць верацёны і калаўроты. *Крэва.*

ПРАШЫБА́ЦЬ зак. пралічыцца, памыліцца. Яна прашыбла, выйшаўшы за багатага. *Хожава.*

ПРО́ДЫХА ж. Месца, якое не замёрзла, на возеры або на рэчцы. А ён як шухніць — і ў продысе. *Бірулі.*

ПРО́ЙМА ж. Выраз для рукава. «Выразала шырокую прытму пад пахай...» *Ляшчынск.*

ПРЫБАННІК м. Прылазнік. Падбяры яблыкі і ссып у прыбанніку. *Бірулі.*

ПРЫВАРКА ж. Прыварак. Увогуле быў хлеб, была прыварка, такая-сякая гаспадарка. *Нарэйшы.*

ПРЫГАНЯТЫ субст. прым. уст. Наглядчык за работай у час прыгону; аканом. Сам памешчык не стаіць, ёсьць прыганяты. Аконам намі распараджаецца і глядзіць, каб ты рабіў. *Хожава.*

ПРЫДАНАЧКА ж. Форма ацэнкі ад прыданка. Ой, чые ж там прыданачкі блудзілі? *Доўгае.*

ПРЫДАНКА ж. Адна з удзельніц вяселля, дапамагала нявесце шыць вясельны ўбор, суправаджала пасаг. Прыданкі па дарозе пяюць песні, іх сустракае маладая і нізка кланяецца. *Доўгае.*

ПРЫДА́НЫЯ толькі ў мн. Госці, якія прыехалі ад нявесты да жаніха. Як аддавала сястру замуж, дык езьдзіла ў прыданыя за ей. Тамака ўсё так не па-людзку было. Хатка маленькая, сьмяцьця шмат, шмат, а на сталох пажывіцца німа чым. Маладога сястра ўстала раніцой хату мясьці, тады выцягнула кашулю з запека і давай сьмяцьцё ў яе зьбіраць. А я ў сьлёзы, думаю: куды мая сястрычка замуж пашла. *Краснае.*

ПРЫ́ДЗЯРАК м. Непрыгодны для ворыва ўчастак. Пакінуў прыдзярак з чортаву бараду, хай ляжыць, німа гэнам чаго араць. Можа, цялё якое прыдзецца пасьля навязаць. Ды й камянёў тутака процьма, дзе ж ты яго ўзарэш. *Краснае.*

ПРЫЖАНІ́ЦЦА зак. Жаніцца [знаходзячыся ў адлучцы]. Інталягенцыя так і застаюцца тут, ды і

салдаты многія нашых дзевак спадабалі ды і прыжаніліся. *Хожава.*

ПРЫЖЫДАЦЬ незак. Чакаць. Цяпер з хазяінам удваіх. Дзеці на змену прыязджаюць. То адпраўляю, то прыжыдаю. *Рудня.*

ПРЫКУСКА ж. Закуска. Хлопцы гарэлку, а дзеўкі прыкуску, дый гуляем, бывала! *Рудня.*

ПРЫЛІЧЫЦЬ зак. Палічыць, падлічыць. Я не прылічу, колькі год яму будзе, але ведаю, што малады, не стары. *Волма.*

ПРЫМІКІЦІЦЦА зак. Прыгледзіцца, прыцэліцца. *Слабада.*

ПРЫМКНУЦЬ зак. Прынесці. Прымкні вядры два вады, многа ні трэба. *Волма.*

ПРЫПА́СВАЦЬ незак. Пасвіць жывёлу дзе-небудзь, пасля таго як прыгоняць з поля. У нас у поле ганяюць. Але прыпасваць трэба. Мая кароўка маладая, баіцца, ходзіць з краю і добра ненапасціцца. Я ў сераду карову прыпасвала. А яны ішлі запісвацца. *Хожава.*

ПРЫПЛЮГА́ЧЫЦЬ зак. Прыпляскаць. Як удаленька падушкі стаўляе. Бач, яна іх спярша прыплюгачыць. *Рудня.*

ПРЫРЫЎКАМІ прысл. Рабіць сяды-тады, у вольную часіну. Зяць мой з раніцы на работу ляціць, а посьля да дванаццаці малатком ішчэ стукае. І падлогу палажыў, і столь падбіў, перабіўкі зрабіў. І ўсё прырыўкамі, як мінутка якая вольная. *Краснае.*

ПРЫСІРАЦІЦЬ зак. Далучыць да жыцця, да людзей, як сірату. Учора з вячора сына радзіла ды к беламу свету прысіраціла. *Вярхуціна.*

ПРЫСКІ мн. Пырскі агню. От прыскі гарачыя з палена вылятаюць, калі яно страляе ў печы. *Навагрудскі р-н.*

ПРЫСЛЕ́ПІЦЦА зак. асудж. Прычапіцца. Ён і пачаў да яе хадзіць... Прыслепіўся да гэнай старой. *Хожава.*

ПРЫСЛЯПІ́ЦЦА зак. асудж. Прычапіцца. Чаго яна прысляпілася да Вінькі? Сталая дзеўка, а ў галаве пуста. *Волма.*

ПРЫСТАРНАК м. Загарадзь, якая аддзяляе ток ад іншых частак гумна. Салома ляжыць за прыстарнакам. *Навагрудскі р-н.*

ПРЫСТРОЕНЫ дзеепрым. Падрыхтаваны. У сяле абычай такі: калі чалавек памрэ, суседзі мыюць яго, адзяюць адзежу раней прыстроеную і кладуць на покуце, родныя плачуць, галосяць. *Рудня.*

ПРЫЧАНДАЛЫ мн. Розныя непатрэбныя рэчы. Начапляе прычандалаў і ходзіць: думае, хараша. *Навагрудскі р-н.*

ПРЫШКЛІЦЦА зак. Далучыцца, прыціснуцца, прысланіцца. І яна тут як тут, прышклілася. *Слабада.*

ПРЭМІРОЎКА ж. Прэмія. Была агародніцай, буракі харошыя вырошчвала, прэміроўку за гэтае палучала, была нават у сценгазеце. *Рудня.*

ПРЭСНАЕ (пра малако) прым. Салодкае малако. Даў ён нам паесьці: скварку нарэзаў, кілбасу палажыў і паставіў міску з тварагом і малаком прэсным. *Хожава.*

ПУКТАЦЬ і ПУКЧЭЦЬ незак. Буркаць, бурчэць. Чаго ён пукчыць, што яго забрала? *Слабада.*

ПУНЦОВЫ прым. Пунсовы. Адзела, як лялячку: кашульку пунцовую і гальштук, а ўзнагароды ніякай не палучыла. *Хожава.*

ПУПЫШЫНА ж. Пупышка. Вясной яблыні прышчэпліваюць: бяруць прышчэпы ад добрых дрэў, адразаюць іх, як паявяцца пупышыны на іх. *Рудня.*

ПУРХАЛА агульн. Той, хто пурхаецца. *Язвіна.*

ПУРХАЦЦА незак. Выказваць незадавальненне, пратэставаць. І не пурхайся, нічога не даб'ешся. *Язвіна.*

ПУСТКА ж. Шкода, псута. Яшчэ і не ходзіць, а ўжо пусткі робіць, а як пойдзя, дык маці ці баба воч з яго не зводзьце... А абеззяны відзелі, як ён кроіў, і яны ўсё парэзалі. Але ж і ўляцела ім ад хазяіна за гэту пустку. *Хожава.*

ПУСТЫНЯ ж., перан. Пустое, недарэчнае. Што расказваць дарэмна пустыню? *Хожава.*

ПУЦІКІ мн. Ручайкі, струменьчыкі. Пуцікі цякуць. (Дзе запісана — непазначана).

ПУЦІНА ж. Прасёлак. Немцы не адступалі па вялікіх дарогах, а па пуцінах, рухаліся малымі дарогамі. *Рудня.*

ПЫЛЯНЯ н. Кураня. Вой-вой, дык не пасядзіш спакойна, бегаеш і бегаеш на вуліцу пылянят сачыць. *Рудня.*

ПЫПЛІЦЦА незак. Марудзіць, доўга збірацца. Што яна там пыпліцца, ісці пара! *Язвіна.*

ПЫТАЛЬ м. Млын, у якім пытлявалі. Раней на Ушы быў млын — пыталь. Там пытлявалі гарох, пшаніцу на добрую муку. *Рудня.*

ПЫТНУЦЬ зак. Ударыць, піхнуць. Як пытну, дык перакоцішся. *Чашніцкі р-н.*

ПЫШКІ мн. Гнілая, перамерзлая за зіму, бульба, шайморы. Немцы пазабіралі ўсё, скаціны няма ніякай, а есці ж трэба нешта. Збіралі гнілую бульбу, пышкамі яе звалі. *Рудня.*

ПЭНКАЦЬ незак. Лопацца. Прышоў гэны жаніх, прынёс гарэлкі, а гаспадыня дайніцу капусты. А падружка мая, каторую сватала гаспадыня, сядзіць і аж пэнкае ад сьмеху. *Краснае.*

ПЭЦКАЛЬ м., перан. Не таленавіты ў мастацтве ці ў літаратуры чалавек. Той, хто не малюе, а толькі пэцкае. *Слабада.*

ПЯНЬКОВАЧКА (памянш. ад пянькоўка) Невялікага памеру хустка з лёну. Напрадуць некалі лёну, нафарбуюць на разныя калёры, аснуюць у палосачку на разныя цьвяты і ткуць пяньковачкі. А калі вытчаш і завяжыш, аж хлапцы заглядаліся, такія яны былі зграбныя, і пільнуесься, каб хаця не збэсьціць, каб надаўга была. *Краснае.*

ПЯРВОСЦІНКА ж. Першацёлка. (Дзе запісана — непазначана).

ПЯРО́Д прысл. Раней, да гэтага, перад гэтым, уперад. Пярод у калхоже капалі, свой торп. Пярод у вёсцы была адна вуліца. *Хожава.*

ПЯРХЕ́КАЦЬ незак. Часта і суха адкашлівацца. Цэлую ноч пярхекаў, заснуць не даў. *Волма.*

ПЯРЭДАЙКА ж. Ялавіца, перадойка. Сёлята наша карова не папалявала, пярэдайка. Малака мала давала, людзі прыносілі. Ні лою, ні ўдою з такой каровы. Толькі харч пераводзя. *Краснае.*

ПЯРЭЗАЎКІ толькі ў мн. Сустрэча бацькоў маладых пасля вяселля. У Лукашовых хацелі быць пярэзаўкі зімой, але ня будуць. Аньця на цяпло адлажыла, а пакуль, кажа, хай сваты выбачаюць. Пацяплея, тады і баль спраўляць будуць і знаком іцца. *Краснае.*

ПЯРЭЧКІ мн. Чырвоныя парэчкі. У садзе расце ягрэст, пярэчкі, садавая смуродзіна, маліны. *Рудня.*

ПЯСКУР м. Пячкур. *Я рыбу лавіў — пяскуры, мянтузы.* *Хожава.*

ПЯТНАСТОЎКА ж. Дзяўчына-падлетак. Колькі ёй гадоў? А, мабыць, пятнаццаць. Як гэта кажуць — пятнастоўка. *Слабада.*

ПЯТРА ж. Памост, на які ставілі лён у восеці. Раней лён у восецях стаўлялі на пятрах. Як шмат лёну стаўлялі, дык пятрын дваццаць наложаць, каб пятра была вялікая. *Краснае.*

ПЯТРЫНА ж. Жэрдка, на якой сушаць лён у восеці. Лён сушаць на пятрах у восеці. Пукі лёну стаўляюць, у парадачак на кожную пятрыну шчыльненька і гэтак сушаць. *Краснае.*

ПЯЧАЙКА ж. Пякотка. Некалі сьвежага хлеба не елі ці гарачых бліноў, бо пячайка тады пячэ. Цяперака мяне што дня пячайка пячэ, як не тое зьем, надта ж ад капусты дрэнна. *Краснае.*

ПЯЧОНКА ж. Частаванне свежыной, калі заколюць кабана. Нявыспалася сусём, учора пячонку ела ў зяця. Такога вялізнага кабана засмаліў, дык поўну хату людзей насклікоў. *Краснае.*

ПЯШКУР м. Пячкур. Рыба ў нашай рэчцы плодзіцца. Ёсць акунь, плотка, карасі, ліны, пяшкуры... *Рудня.*

ПЯШНЯ ж. Пешня, лом, якім прабіваюць лёд. Як умерзне добра, дык і пяшню паламаць можна. *Бірулі.*

## Р

РАБАЛІЦЫ прым.З рабаціннем на твары. Суседка во цераз дарогу. Сын у яе рабаліцы, у арміі быў. *Рудня.*

РАБАЦІННЕ н. Вястушкі. У яго ўвесь твар у рабацінні, відаць, ластавак пароў. *Слабада.*

РАДЗІМЕЦ м. Хвароба эпілепсія. А ці не радзімец табе прываліў, чалавеча? *Застадолле.*

РАДЗІ́НА Радня. Спачатку прыязджае жаніх да нявесты. Тут яго сустрачае ўся радзіна з румкамі на талерцы і ў хату ласкава запрашае. *Хожава.*

РАДЗІ́НКА ж., зборн форма ацэнкі ад радзіна. Кукуіць зязюля ў садочку. Уся мая радзінка ў радочку. *Прудок.*

РАДЗІ́ХА ж. Парадзіха. Верка Халявінскага нарадзіла байстручка, а бабка падсаветавала — і яго задушылі. Але не дагадзілі нешта бабцы, яна й выявіла ўсё! Дык радзіху гэну судзілі ў Радашкавічах. *Краснае.*

РАДОЎКА ж. Чарга. Радоўка нам заўтра за авечак. *Бірулі.*

РАДЗЮГА ж. Дзяруга. Залез на печ, улёгся, пад галаву такіх-сякіх лахманоў наклаў і з галавою радзюгаю накрыўся. *Трэці Гарадзец.*

РАДЗЮШКА ж. Кусок тканіны з грубых нітак. Вазьмі радзюшку і будзе на чым паляжаць, усё ж не на халоднай зямлі. *Наваградскі р-н.*

РАЖА́НЕЦ м. Ружанец. Панадзявалі ражанцы на грудзі, каб ведаць, каторы польскі і не чапаць іх. *Хожава.*

РАЗА́ЛКА ж. Сячкарня, прыстасаванне для драблення корму жывёле. Я раней шаснаццаць короў даіла, ды йшчэ і корму загатовіць трэба было, насячы турнэпсу і ўсё рукамі. Цяпер ё на гэтае рэзалка. *Рудня.*

РА́ЗАМ прысл. Ураз. Разам адабрала нагу. І што зрабілася, сама не ведаю. *Хожава.*

РАЗА́НКА ж. Рэзь. З'ела нясвежага, усю ноч разанка рэзала. *Загор'е Карэліцкага р-на.*

РАЗБЫДРЭЦЬ зак. Раздурэць. Наш Алег саўсім разбыдрэў, як пабыў у бабы. Выпяставалі на сваю галаву. *Краснае.*

РАЗВАЛЬНІЦЕЛЬНЫЯ субст. прым. Панос. Пайшоў Антось у аптэку і сказаў, каб яму далі парашкоў такіх, на развальніцельныя. *Ракаў.*

РАЗЛУЧНІК м. Мужчына, які развёўся з жонкай. Сваталіся да мяне і хлопцы і разлучнікі, ні за аднаго не пайшла. *Рудня.*

РАЗОРА ж. Дзве сумежныя баразны. У разоры выспалася і пайшла. *Бірулі.*

РАЗУНКА ж. Рэзь. Каб цябе разунка выкраіла. *Язавінь.*

РАЗУХА ж. Асака. Разуха добрая вырасла на беразе. *Бірулі.*

РАЗЯВАЦЦА незак. Пачынаць гаварыць. Нават і не разявайся, бо няма чаго слухаць. *Волма.*

РАМАЦІ́ЗМ м. Рэўматызм. Націраюся спіртам ад рамацізма, памагае. *Хожава.*

РАМЕНКА ж. Раменны пасак, якім лапаць прывязваўся да нагі. Раменкі ўцягвалі ў вушкі лапцяў, так яны і закручваліся. *Рудня.*

РАНЕЧКА н. Ранне (у фразе: з самага ранечка) З самага ранечка, як толькі развіднела. Дачакаўся вялікадня, людзі ў цэркву пайшлі, а ён сеў шыць з самага ранечка. *Ракаў.*

РАНЮСЕНЬКА прысл. Форма ацэнкі ад рана. Раднялася ранюсенька, яшчэ чэрці на кулачкі не біліся. *Касцяні.*

РАНЮТКА прысл. Форма ацэнкі ад рана. Яна ў нас ранютка ўставала, яна ў нас тонкія кужалі спраўляла. *Рудня.*

РАПКО́ЎНІК м., толькі ў адз., зборн. Лісце рэпы, рэдзькі. Прыходзіць Стэфка да мяне й кажа: «Марылька, дай ты мне рапкоўніку зварыць». Ці ж я ей буду шкадаваць! Злазіла ішчэ ў яму, бульбы дастала кошычак, аж павесялела баба. *Краснае.*

РАСКАПЭНДА агульн. Нясkладны, нязграбны чалавек. Прывёз нейкую раскапэнду, горшай не знайшоў. *Лагойскі р-н.*

РАСКЛАДА́Ш м. Часовая ўкладка снапоў у полі. Снапы ў раскладашы, у скірды складалі, цапамі абівалі. Тады ўжо ў жорнах малолі. *Рудня.*

РАСПІРЫНДЖВАЦЦА незак. Раскашавацца, распараджацца як хоча. Ты тут не распірынджвайся, начальнік знайшоўся! *Слабада.*

РАСТАРЭКВАЦЬ незак. Шмат гаварыць. Пакуль тая пасялуха растарэквала, свіння адкусіла маломy вуха. *Рудня.*

РАСТРЫМАННЕ н. Панос. Я раз падахвоціўся: выпіў піва, а наверх смятаны — дык такое растрыманне было!.. *Купа.*

РАСХЛЯБІЛА безасаб. Развязло. Доўга адліга стаяла, дык расхлябіла дарогу — не прайсці. *Слабада.*

РАСШЫШЭЦЬ зак. Разбагацець і заганарыцца. Бач, як расшышэла, стаўшы жонкай начальніка. *Слабада.*

РА́ТА ж. Чарга. Сёння мая рата ў поле. Ну што ж, калі і сісціваль; як трэба, дык трэба. *Кукалеўка.*

РАХАВАЦЦА незак. Раіцца. Рахаваліся, як дзіцяці імя даць. *Заполле.*

РАЧАНЕ́Ц[1] м. (звыч. у множн. ліку: рачанцы). Тэрмін. Яшчэ рачанцы не выйшлі. *Мурожніца.*

РАЧАНЕ́Ц[2] н. Тое, што давалі на свята. Зрэдку, з нагоды (пра яду). Кацярына як памерла, дык жа ён

другую прывёў. Тая сваіх дзяцей не мела і яго на дух не любіла. Цёмгля галодныя хадзілі. Яна ж ім толькі рачанца давала. *Краснае.*

РАЧАНО́Е субст. прым. Гл. рачанец. У Кацырыніных дзяцей мачыха была. Цёмгля галодныя хадзілі, я ім хоць калі, што маю дам, як яны да нас прылятуць. Каб жа родная матка, то не цярпелі б рачанога, а пад'елі, калі б захацелі. *Краснае.*

РО́БІЦЬ незак. рабіць. Другі аж не знае, што і робіць, а ўсе рагочуць. З чорных, з чырвоных нітак паясы робілі, і з белых. Я ўсё сама робіла. *Рудня.*

РОВАР м. Веласіпед. Рэдка калі ў каго грамафон быў або ровар. *Рудня.*

РОЗГЛЯДЫ мн. Агледзіны. У розгляды пайшлі, жаніцца збіраецца. *Слабада.*

РО́ЛЯ ж. Аранае толькі адзін раз поле. Узаралі дзірван і бульбу пасадзілі. Выбрала я, а ішоў кум і пытаецца: «Што, не ўрадзіла бульба, мусі ў адну ролю саджаная? Як у адну ролю, такая яе і доля. Вылезла, як нітачкі і дробная, як пацеркі». *Краснае.*

РУБЕЛЬ м. Жэрдка, якой уціскаюцца на возе снапы сена, салома. Рубель — ён доўгі, можа і ў паўтары разы большы за калёсы; а калі няма вяровак — рубель уціскаюць лейцамі. *Навагрудскі р-н.*

РУЗНЫ прым. Розны. Рузныя цуды былі на Кромань-возеры. *Налібокі.*

РУЗНЯ прысл. Усяк, па-рознаму. А Шурка тожа не надта давучала сваіх дзяцей. Пагоня ў поле Мішка зь дзедам, а яна яму, адпраўляючы: «Як дзед што на цябе скажа, дык ты рузьня, рузьня на яго гавары». А той малы прыляціць да нас, хваліцца як яго мамка вучыла. *Краснае.*

РУЗУМУТА ж., іраніч. Разумніца. Ну, ідзе ўжо наша рузумута, ідзе. *Лагойскі р-н.*

РУКАЎЦО н. Рукаўчык. Бела рукаўцо — уціранне мае. *Нарэйшы.*

РУЛЯ ж. Трубка вытканага палатна. Бывала, на качалку накатаюць сільна многа матэрыялу, качалку выцягнуць, а рулю ў куфар пакладуць. І так руль пяць ці шэсць. *Рудня.*

РУМЗАЛА агул. Плакса. Чыё гэта там румзала зарумзала? *Слабада.*

РУПІЦЦА незак. Збірацца, клапаціцца. Трэба дамоў рупіцца. *Хожава.*

РУЦЬМЯНЫ прым. Рутавы, упрыгожаны рутай. Не твая, мамачка, не твая. Я таго пана руцьмяна, з кім на вянцы стаяла, залатыя пярсцёнкі мяняла. *Рудня.*

РУЧЫЦЦА незак. Паручацца, даваць заруку. Не магу ручыцца, але амаль пэвен, што так. *Слабада.*

РУЧЭЙКА ж. Пачынак. На верацяно цяжка прасьці, пакуль напрадзеш ручэйку, дык рука здрантвея, як не жывая зробіцца. *Краснае.*

РЫВЕНЬКА ж. Варывенька (форма ацэнкі ад варыўня). Нежылое памяшканне для захоўвання гародніны. Я замуж пайшла, а ў яго таксама мачыха была. Рывенька стаяла, то мы ў тую рывеньку і адыйшлі. *Рудня.*

РЫХЦІК прысл. Вельмі падобны, якраз, якраз як. У нас у Красным ёсьціка, як Мікалай Карповічаў, от рыхцік, усе кропачкі сабраў. Дык ён цяперака жонку маладую прывёў, яна і целявізар яму прывезла. А вот Шурцы трэба было аднэй пугі пільнавацца, а то во ніхто замуж не бярэ. *Краснае.*

РЫГА-РЫГА гукаперайм. выкл. Завядуць гэту радзяволу і танцуюць усё пад адзін манер: рыга-рыга. *Волма.*

РЫЖЭЦ м. Конь рыжай масці. Быў у нас рэжэц, конік такі; аж зіхацеў увесь. *Рудня.*

РЫЗАЎКА ж. Пасцілка, патканая паскамі з рыззя. Вазьміце рызаўку пакрыцца, бо ноччу халодна будзе. *Слабада.*

РЫЗЗЁЎКА ж. Тое, што і рызаўка. Рыззёўку азяў с сабой. *Бірулі.*

РЫНГЕН Рэнтген. Пагналі яго на рынген у адной сарочцы. *Хожава.*

РЫСА ж. Доўгая града, рад. За праполку мала плоцяць, а норма — чатыры рысы адмераць ці болей нават. *Рудня.*

РЭДЗЬ ж. Столка. У дзве рэдзі — у дзве столкі. *Слабада.*

РЭЗГІНІ мн. Рэзгіны. У рэзгіні няма чаго азяць. *Бірулі.*

РЭЗНУЦЬ зак. Зайграць. Вот у нас гарманіст, як рэзне на гармоніку. Пачынае добрыя, а тады і благія. Але іграе — не ўстаіш на месцы. *Рудня.*

## С

САГА́Н м. Чыгун. Наварыць саган бульбы добрай. *Хожава.*

САЛАПЯКА агульн. Недарэка. А што з яго хацець? Салапяка, ды яшчэ гультай. *Слабада.*

САЛАДЗІНА ж. Рэшткі сусла, салодкага адвару. Я ж мядзведзю саладзіны падкіну, я сваю свякроў у пярыну кіну. *Доўгае.*

САЛЯДЭРА ж. Трава на корм хатняй жывёлы, сеецца па азімых і яравых. Ідзі касіць салядэру, скаціна галодная, чуеш, раве. *Навагрудскі р-н.*

САМАДЗЯЛКО́ВЫ прым. Самаробны, зроблены ўручную. Шэрсць потым — на кудзелю, і на караўлоты пралі. Усё самадзялковае было. Выпрадзе другая такую ж нітачку танюсенькую, што шыць ёю можна. *Рудня.*

САМАПЛАЎ м. Лес, які сплаўляўся без удзелу плытагонаў. Дровы таксама сплаўлялі, але іх сплаўлялі самаплавамі, кідалі ў рэчку сотні кубаметраў дроў. *Рудня.*

САМАПРАДКА ж. Калаўрот. Раней мы і на самапрадках пралі, і на верацяно. *Рудня.*

САМАСЕ́ЙКА агульн., абразл. Дзіця ад грамадзянскага шлюбу. Ганячка гэна вот пародлівая была, аднаго кінула і другога нашла, а сястра яе замуж хоць не вышла, але так найшла самасейкі дзве. Ганячка і выгадавала іх, адна ўжо замужам, другая ішчэ ў дзеўках ходзя. *Краснае.*

САМАХО́ЦЬ прысл. Самохаць. Або Ірца Хадасовай трэба было замуж за яго ісьці? Бацькі колькі прасілі — не паслухала, самахоць пашла. Цяперака, во, высахла, выпятрыла, як пятроў венік. *Краснае.*

САПСЕЛЫ прым. Зусім састарэлы і аслабелы розумам. *Слабада.*

САПСЕЦЬ зак. Састарэць і аслабнуць розумам. *Слабада.*

САЎСЁМ прысл. Зусім. Як была малая, дык саўсём сабак не баялася. *Хожава.*

САХАРО́ЎКА ж. Самаробная гарэлка з цукру. Як тата памёр, дык ён прыехаў, навёз усяго сахароўкі 10 літраў зрабіў. *Хожава.*

САШЛЁГАНЫ дзеепрым. Сасцёбаны. Карова з поля прышла — уся сашлёгана; хоць у поле не гані, як Карповічы пасуць. *Краснае.*

САШЭНЬ м. Праснак з прэснага, толькі што замешанага цеста. *Застадолле.*

СВАЦЦЯ ж. Жанчына, якая ўдзельнічае ў вясельным рытуале. Баб ад дзецюкоў і нявест называлі сваццямі. *Хожава.*

СВЁЖЫ прым. Новы. Усё ж маладзёж жадае, каб што сьвежае адзець ды на людзі паказацца. *Хожава.*

СВЕТЛАСЦЬ ж. Святло. Светласці ж не было. Толькі калі ў суботу, у свята лямпу запаляць. *Рудня.*

СВЕТ прысл. Вялікая колькасць, вельмі шмат. Зімой кудзеляй задаўляліся, на вячоркі хадзілі, работы было свет. [...] На Макавей ў нас кірмаш. Едуць адусюль. Закускі, гарэлкі — свет [...] У той Канаве свет колькі палацён красяць. Рудня. Так што вяселле яшчэ будзем гуляць, бо ўсяго яшчэ свет засталося. *Хожава.*

СВІНАРКА ж. Падгруздак чорны, свінка.Грыбы ў нас усякія растуць. А цяпер толькі свінаркі і лісічкі. Свінаркі спаднізу беленькія, а зверху чорненькія. *Рудня.*

СВІНАРАЧКА ж. Форма ацэнкі ад свінарка. А свінарачкі ў вас бяруць, дзяўчаты? Смашныя грыбы, яны хрумаюць гэтыя свінарачкі. *Рудня.*

СВІРАНЬ м. Свіран. Адзеўся Іван у жаноцкае плацце ды і падаўся пад свірань. *Рудня.*

СВЯТЛІ́ЦА ж. уст. Светлы, чыста прыбраны пакой. А цяпер жа, дзетачкі, пацiснеш на кнопку, і ў хаце, як ў панскай сьвятліцы. *Хожава.*

СЕЛЯДОРШЫ прым. Сярэдні. Селядоршы брацейка стрэлы падае. *Сачыўляны.*

СЕЛАВЫ прым. Сельскі. Бывало часто, што каровы селавых людзей паловяць у шкодзе яго людзі і загоняць у двор. *Малева.*

СЕ́МЕНКА і ЕМЕНКА ж. Бульба на насенне. Тое, што пакідалі на насенне — семенка, а што на яду — еменка. *Язвіна.*

СЕМЯНО н. Насенне. І вясной цяперашняй мала было вадзіцы на семяно. Але дармо, дзякуй богу, усё павылазіла, толькі бульба ў нас плямай адной счэзла. *Рудня.*

СЕНАВАЦЬ незак. Нарыхтоўваць сена. Шосты год жыву адна, памёр дзед. Валерык сенаваць памагае кожнае лета. *Рудня.*

СЕ́РАН м. Шарпак, заледзянелы пласт снегу пасля адлігі. А па серану лёгка ісці. *Бірулі.*

СЕРЯНКА ж. Запалка. Пайшоў прасіць у брата серянак. Прынёс той яму. Але ён шпульнуў іх аб падлогу. *Маляўка.*

СІЛЯЦЬ незак. Чэрпаць. Колячка, можа табе чаю засіляць? Надта добры, толькі-толькі заварыла.(—) Сіляй, сіляй, сынок, усё разам, і гушчачку не пакідай. *Краснае.*

СІМАЦЕЦЬ незак. Мітусіцца. Усім гаварыла, што на мядзведзя вельмі хачу жывога паглядзець. А з мяне смяяліся. Я бяру грыбы і бачу нешта сімаціць у кустах. Як гляну ж я, то гэта ж мядзведзь! *Рудня.*

СІНЯГУБКА ж. Сыраежка з сіняватай шапачкай. Сінягубкі ёсць. Зверху шапачка сіняватая. Ходзяць людзі далёка там можна набраць. *Рудня.*

СІНЯЎКА ж. Быстранка. Рыба ў нашай рэчцы плодзіцца. Ёсць акунь, плотка, карасі, ліны, пяшкуры, сліжыкі, верхаводзь, сіняўкі, ракі таксама ёсць. *Рудня.*

СІПЕ́ЦЬ незак., перан., асудж. Злавацца, сварыцца на каго-небудзь. Сястру сваю пасадзя на гэну тачку і павёз. А я следам бягу ды плачу, а ён сіпіць на мяне: не плач, а то ў лесе кіну. *Хожава.*

СІСЦІВАЛЬ м. Фестываль. Трэба было ехаць на сісціваль, там бы ўсё напісалі, хто пяець, хто плачыць. *Кукалеўка.*

СКАБЛЁНКА ж. Абіраная бульба. Вару скаблёнку, хочацца заваложыць. *Мурожніца.*

СКАБЛІЦЬ[1] незак. Абіраць бульбу. Бульбы нада будзіць наскабліць назаўтра. *Бірулі.*

СКАБЛІ́ЦЬ[2] незак. Чухаць. Не скаблі, а то ўсё цела болькамі пойдзіць. *Мурожніца.*

СКАМБІНАВАЦЬ зак. Выгадна спланаваць, разлічыць найлепшым чынам. Бачыш, як я добра скамбінаваў: і табе будзе і мне, чаго ж лезці на ражон і крычаць, крыкам справе не паможаш. *Навагрудскі р-н.*

СКАНАПІЦЬ незак. Збіраць патроху, па крупіцы, ашчаджаць, эканоміць. А я ж яго сканаплю!.. А ці ж яно ў мяне лішняе. *Мурожніца.*

СКАНТУЗІЦЬ безас. Кантузіць. Адну тут нават і скантузіла — села каля самай рызеткі. *Хожава.*

СКАРА́Ч м. Маленькі абрусік. Некалі мы наварым бульбы гаршчок, пасыплем на скарач, малака ішчэ кіслага, і гэтак вячэраем. Бульба добрая была, дык да аднэй зьядзім. *Краснае.*

СКАРО́ЖЫЦЬ незак. Скрывіць. Біліся пасля баньдзюгі і морды адзін аднаму скарожылі, пазабіваліся да смерці. *Волма.*

СКІМЛІЦЬ незак. Скуголіць, ціха вішчэць. Перан: ціха, жаласна плакаць. *Лагойскі р-н.*

СКЛАДКА ж. Складчына. А складку зробіш, бывала, дык хлопцы гарэлку, а дзеўкі ўжо прыкуску, дый гуляем, весела було. *Хожава.*

СКОМКАЦЬ зак Скласці, злажыць. Я скомкаю гэту капежку, а ты вунь тую. *Бірулі.*

СКОСАК м. Каса з вузкім палатном. Скоскам гэтым ты накосіш. *Бірулі.*

СКРЫНЯ ж. Мера вагі (Збітая з дошак скрыня для перавозкі бульбы на калёсах). Скрыні бываюць усялякія, часам і трыццаць пудоў улезе, а то і больш. *Навагрудскі р-н.*

СКУПЭНДЗЯ агульн., асудж. Скупы чалавек; скупеча, скнара, жмінда. Скупэндзя яна гэтакая, што ў свеце не знойдзеш. Кажу: «Дай хоць паўвядзерца бульбы.» І не дала. *Хожава.*

СКУПЯРЭКА агульн. Скупы чалавек. Была я ішчэ малая і пасьвіла ў полі. Былі з другіх хат пастушкі. Адна дык усё хлеб насіла ў кішані, а ён так пахнуў. Адна пастушка і кажа: «Паўлінка, як у цябе хлеб пахня!» Але тая ніколі не дасьць, такая скупярэка. Адвернецца і зьесьць сама. *Краснае.*

СЛАНІНА ж. Пасоленае свіное сала. У мяне леташняй сланіны паўкубла асталося, але з’ялчэла ўжо, нікуды не гадзіцца. Усё роўна не выкідаць жа, неяк расходаваецца. *Краснае.*

СЛІЖЫК м. Галец. Рыба ў нашай рэчцы плодзіцца. Ёсць акунь, плотка, карасі, ліны, пяшкуры, сліжыкі... *Рудня.*

СЛІЧНЫ прым. Прыгожы. На той кладцы слічна паненка рукі мыла. *Удзела.*

СЛО́НЦА н. Сонца. На слонцы павесілі і высахла [коўдра]. *Хожава.*

СЛЮНЯВІК м. абразл. Нікчэмы чалавек. Каб ён ужо там які вучаны быў, а то нейкі слюнявік і то, відзелі вы, як круціцца. *Волма.*

СЛЯДНО́ прысл. Калі лёгка праяўляецца след. Быў пацярушка-сняжок, слядно было, і вот аслядзілі іх і злавілі так, нават, на возе злавілі, не паспелі крадзенага прыняць. *Волма.*

СКРУТКА ж. Скрутак. Скруці ў скрутку і пакладзі. *Налібокі.*

СМАЛЯНКА ж. Жанчына са Смаленшчыны. Гэтым словам абзывалі ў нас некаторых жанчын і дзяўчат. *Язвіна.*

СМАЛЁЎСКІ прым. Смалявіцкі. Смалёўскі афтобус пайшоў. *Рудня.*

СМАЛЯНЫЯ КОНІ мн. Незвычайныя коні. Прыйшлі дамоў — стаяць коні смаляныя пад акном. *Мацкі.*

СМАРКАЧЫК м. Лямпа без шкла, капцілка. Лямпы толькі ў суботу і нядзелю запальвалі, а так газоўку, альбо смаркачык. *Рудня.*

СМОЛЬ ж. Смаляк. Рускую печ кожны дзень палілі. Смолі насячом, каб сохла. Цяпер ужо керагазы, а газавых плітаў колькі [...]. Асвятленне ў хаце было смоллю, палілі на комінку. *Рудня.*

СМУГАЛЬ м. Мужчына са смуглявым тварам. А яго бацька чорны, чорны, як смугаль. *Хожава.*

СМУРОДЗІНА ж. Парэчкі. Варэння не варым з смуродзіны, так тром. *Оршаль.*

СМУРОДЗІНКА ж. Форма ацэнкі ад смуродзіна. Горка ета смуродзінка, зялёна, паломлена. *Оршаль.*

СМЫЧЫЦЦА зак. Скубецца, адрываецца. *Слабада.*

СМЭНДЗІЦЬ зак. 1) паліць, дыміць; 2) курыць. Як прывык яшчэ з малых гадоў — так і смэндзіць, цярпець няможна. *Слабада.*

СМЭРГІ мн. Соплі. Ты вусы збрый, а то як смэргі над носам. *Навагрудскі р-н.*

СМЯХО́ЦЦЕ н. Смех. Смяхоцьце было на іх глядзець, як бацька з сынам дужаліся. *Волма.*

СНО́ЎНІЦА ж. Прыстасаване, на якім снуюць аснову. Шпулі разматвалі на сноўніцу. *Навагрудскі р-н.*

СНЯКАЦЬ зак. Чыхаць. Гэты Саўко вечно засякаецца, і ў гасцях нават, што за чалавек? *Навагрудскі р-н.*

СПАВЯДА́НКА ж., іран. Доўгае дакучлівае павучанне. Яшчэ твая спавяданка не кончана. Я табе не ўсё адчытала, толькі што Віцік цяпер у хаце, дык німа як гаварыць, хай ён толькі пойдзе. *Волма.*

СПАДУЎКА ж. Ніжняя спадніца. Даўней прадавалі такія фацкія спадуўкі, усе на гафце, выгафтаваны хораша-хораша, беленькія-беленькія, з бацiста. Цяперака прадаюць, але не гэткія. *Краснае.*

СПАНАТРЫЦЬ зак. Прывыкнуць, узяць за звычку. Як спанатрыў Тодар хадзіць да Саніхі па агуркі, дык прама бяда! Прыдзя ды: «Дай, Надзячка, агурочак».— «А грошы прынёс?» Вот і адваражыла, а то спанатрыш яму даваць агуркі — дык ён кажды дзень будзя хадзіць. А так ня бойся, не пойдзя болей. *Краснае.*

СПАРЫЖАВА́ЦЬ зак. Спаралізаваць. Вот і вайна. Цяжэй за ўсіх прышлося. Во, бачыця, твар спарыжавала. *Хожава.*

СПА́СЛІВЫ прым. Добры, непераборлівы ў ядзе. Харчу сёлета, мусіць, мала будзе. Карова наша спасьлівая, есьць добра і малака дае цэлую дайніцу; праўда, цяперака паменьшала, рана сьцялілася, дык здаілася ўжо. *Краснае.*

СПАТАКА́ЦЬ зак. Агараць. Суседцы дала квасолі, а яна мне калёскі дала вазіць. На сабе цэглу вазіла на печку. Нек ужо спатакалі печ. *Рудня.*

СПЛО́ШЫЦЬ зак. Сапсавацца. Пагода сплошыла. *Хожава.*

СПЛЕСАНУЦЦА зак. Акунуцца. Тая парабіла сабе гімнастыкі, тое-сёе, ускочыла ў ваду, сплесанулася, адзелася і пайшла. *Ракаў.*

СПОДКІ мн. Споднія штаны, падштанікі. *Слабада.*

СПЯЖА́РНЯ ж. невялікая кладоўка для прадуктаў, варыўня. Служыла ў Рабушчыхі некалі, дык я ў яе добрага ніколі не ела, але што выдзяля. Прышлі неяк госці да яе, яна якраз скваркі пякла, а мне трэба было ў спяжарню па бульбу ісці. Я схваціла скварачку, думаю падзялюся тамака с Крыстынай. Толькі кошыкі паставіла, а Рабушчыха туды: Ну, што, нінажыры, думалі я не абгледжу!» — і вырвала з рук. *Краснае.*

ССЫПКА ж. Сшыты для падушкі мяшок, які набіваюць пер'ем ці пухам. *Крупіцы.*

СТАЁНКА ж. Стаяк. Дзіця ў стаёнцы. *Слабада.*

СТАЛЕ́ТНІК м. Кактус. А гэты цвет называецца ў нас сталетнік, ад усіх хвароб дапамагае. *Рудня.*

СТАЛЯНІ́ЦА ж. Верхняя плоская частка стала, стальніца. Дзеці мае зьнялі дзьверы і прыставілі да аднаго акна, а сталяніцу — да другога акна. *Волма.*

СТАРЭЦКІ прым. Старадаўні, стары, царкоўны. Былі ў нас свае старэцкія святы: каляды, дзяды, вялікадне. *Рудня.*

СТРАЧОНКА ж. Ватоўка, куртка, пастрочаная радамі або накрыж. *Слабада.*

СТРАШНЮШЧЫ прым. Форма ацэнкі ад страшны. А на гэтай гары было так многа павукоў і такія яны страшнюшчыя былі. Вось таму назвалі гэту гору Паўчовай. *Коцькі.*

СТРОІЦЬ[1] незак. Рыхтаваць. Трэба вячэру строіць, з поля ўжо гоняць. *Рудня.*

СТРОІЦЬ[2] незак. Наладжваць, рамантаваць. Вот вы ваду лепш стройце, а то цячэ. *Кукалеўка.*

СТРОЙНА прысл. Добра. Даўней я гуляла і пела стройна, у нас музыкант харошы быў. Кукалеўка. Так дровы былі стройна разгарэліся. навошта ты іх разбурыла і раскідала? *Рудня.*

СТРОЙНЫ[1] прым. Добры. Няма дажджу. Цыбуля спачатку ішла стройная, а цяпер пачала сохнуць. *Кукалеўка.*

СТРОЙНЫ[2] прым. Прыгожа прыбраны. А дзіцятка такое стройненькае, адзета як цацачка, ва ўсё новенькае, чысценькае. *Хожава.*

СТРУЖЫЦЬ незак. Стругаць. А ў яго каморы стружуць, рубаюць. *Вярхуціна.*

СТРУМЕНЦА форма ацэнкі ад стрэмя.

Спраў сукенку да долу,
А да сукенкі коніка,
А да коніка сядзелца,
А да сядзелца струменца. *Вязынка.*

СТРЭЛКА ж., гл. цыбук. Цыбуля соўсім не ўрадзіла, паплялася і ў стрэлкі пашла. Нават на насеня не будзе. *Краснае.*

СТУГУР м. Стог, стажок, горка. Такі стугур бліноў на стале — што сабака не пераскочыць. *Лагойскі р-н.*

СТУЛАК м. Табурэтка. Табе стулак пастаўлены, кубачак наліты віном, мёдам і напіткамі. *Лактышы.*

СТУЛЬЦЫ мн. Стоўчаная ў ступе халодная з бульбы каша. (Дзе запісана — не пазначана).

СУБОЖЫЦЦА зак. Злітавацца, пашкадаваць, пабаяўшыся Бога. *Слабада.*

СУБЫЧЫЦЦА зак. Насупіцца, нахмурыцца як бык. (Дзе запісана — не пазначана).

СУВА́ЛКА ж. Рэшткі ільну, якія застаюцца пасля апрацоўкі яго ў церніцы. Сувалкі прывезці можна і ацяпліць. *Бірулі.*

СУВІРАЦЦА незак. Сварыцца, лаяць. Што ты на яго сувіраешся? *Слабада.*

СУВІ́СЦЯЛЬ м. Падарунак ці гасцінец, які бяруць, калі ідуць у госці. Люба Адолікава хадзіла на хрэсьбіны. Карзіну з сувісьцялем абрусом пакрыла, а абрус азялі ўкралі. Дык яна ўжо зараклася пакрываць карзіну абрусом. *Краснае.*

СУКНАВЫ прым. Шарсцяны, суконны. А хто багаты быў, дак сукнавую спадніцу шыў. *Хожава.*

СУМЛЯВА́ЦЦА незак. Сумнявацца. Я сумлявалася, ці возьмуць мяне: у мяне пасагу не было. *Хожава.*

СУПРАДКІ мн. Сходні, зборышчы жанчын для прадзення. І я любіла хадзіць у супрадкі. *Застадолле.*

СУРВЭТА і СУРВЭТКА ж. Цырата, кляёнка. Засцялі сурвэту, а то стол гніе. *Навагрудскі р-н.*

СУПРАЦІВІЦЦА незак. Пярэчыць. А я і супраціўіцца не буду, калі не хоча нявестка жыць у вёсцы, хай у горад едзе. *Рудня.*

СУРВАТОЎКА ж. Фабрычнага вырабу хустка з узорамі. Былі такія спрэс белыя альбо крэмовыя ў яблычкі сурватоўкі. Вот усім да твару прыставалі, прама аж мяняліся на галаве. Я дык усім напазычалася іх. *Краснае.*

СУСЁМ прысл. Зусім. Карова сёлята сусём мала малака дае, пярэдайка. Да бычкоў колькі разоў вадзілі, а не папалявала. *Краснае.*

СУСТРЭЦІЦЦА зак. Сустрэцца. Хадзіла на танцы, сустрэцілася са сваім, пажаніліся. *Хожава.*

СУСТРЭЦІЦЬ зак. Сустрэць. Нас сустрэцілі санітары. *Хожава.*

СУШЧА́К Худая жывёла. У антосіхі цялё вэдлуг нашага сушчак, аж ногі ў кучу састаўляе. Недагледжана, сухое, як пятроў венік. *Краснае.*

СФІГЛЯВА́ЦЬ зак. Прамантачыць, змарнаваць. Узяла Стэфка дольніка, а ён і сфігляваў усё яе багаства. Рышла вясна, а ў яе ні цыбулькі ні ўкрышыць ні ў што. *Краснае.*

СХАЎРУСЦІЦЬ зак. Наладзіць, арганізаваць сваімі сіламі. Захочацца пагуляць — ігрышча схаўрусцім. *Хожава.*

СХОДАЦЬ зак. Уходаць. Пайшлі да пана і кажуць: «Пан, Пракоп жывець і мядзведзь не сходаў». *Ляшчынск.*

СЦЕРХНУЦЬ зак. Амярцвець. Насядзелася ў дачкі, аж ногі сьцерхлі, як калы сталі, не ўкіраваць. *Краснае.*

СЦЯБАЦЬ незак. Мянташыць. Ты ж касу сцябаць ня ўмееш. *Бірулі.*

СЦЯБАЧКА ж. Мянташка. Сцябачку ў ваду памачы. *Бірулі.*

СЦЯГВАЦЦА незак. Крычаць ці плакаць моцна, аж заходзіцца. *Слабада.*

СЦЯЛЕЖЫЦЦА зак. Сарваць перадок калёс са творана. *Слабада.*

СЦЯЛІЦЦА зак. Ацяліцца. Карова не сцялілася, а віцінара не было. Стаража за гэту бяду прагналі з работы. *Кукалеўка.*

СШАРЭЦЬ безас. Пашарэць. Як такая пара ў майго таты, што крыху сшарэла, дак і нікуды не пойдзеш, бо баяўся за нас. *Хожава.*

СЫГНЭТ м. Залаты пярсцёнак. Жаніх гэткі добры Галіне папаўся. Красівы, казалі, і сыгнэты к вясельлю купіў дарагія, сабе і ёй. А посьля на вянок і часы ішчэ палажыў. *Краснае.*

СЫРАВАТКА ж. Сыроватка. Піце сыраватку, хто любіць. *Бірулі.*

СЫРАЦ м. Форма ацэнкі ад сыр. Спячы ім піражок дарогу, сырац зрабі. *Ладасна.*

СЫЦЮСЕНЬКІ прым. Форма ацэнкі ад сыты. А мой жа ты, мілюсенькі, а чым жа ты сыцюсенькі? *Прудок.*

СЮДЭЮ прысл. Тут, у гэтым кірунку. Я з бані сюдэю ішла, Валя сказала, што цялё сарвалася. *Кукалеўка.*

СЯГАНЯ прысл. Сёння. Міленькія мае, сяганя дзьве нядзелі пройдзя і палуча, дзьве нядзелі пройдзя і зноў палуча. Дык чаму ж не піць? *Краснае.*

СЯРТОЛІЦЦА незак. Быць у неспакоі, неспкойна пачувацца, сядзець. Што ты сяртолішся, не можаш пасядзець спакойна? *Слабада.*

Т

ТАНЧЫЦЬ незак. Танцаваць. Даўней кадрыль усё танчылі, а цяпер нейкую геньку, а як пойдуць шэйку, то страх глядзець. *Рудня.*

ТАПЛЁНКА ж. Топленае малако. Устаў у печ малака на таплёнку. *Мурожніца.*

ТАРОЙКАЦЦА незак. Гутарыць, спрачацца. Колькі можна таройкацца? Яшчэ не надаела? *Слабада.*

ТАРПАТЫНА ж. Шкіпінар. Як на тое павядзецца, дык і дохтур не паможа. Разбалелася неяк пад нядзелю мне паясніца. І тарпатынай мяне цёрлі, і лякарствы нейкія давалі. Але ж дзе там пройдзе. *Рудня.*

ТАРЭНЧЫЦЬ незак. Несці штось аб'ёмнае і цяжкое перад сабой. *Слабада.*

ТАЎКАЧ м., пераи. Целяпень, нязграбны чалавек. Таўчэцца як таўкач на адным месцы, хоць бы выйшаў куды. *Навагрудскі р-н.*

ТАЎКАЧЫНА м. Тое, што і таўкач. *Навагрудскі р-н.*

ТАЎКЕШКА ж. Нязграбная, нерухавая жанчына. (Дзе запісана — не пазначана).

ТАЎКАЧАВАТЫ прым. Нязграбны. І бабу выбраў такую ж як сам — таўкачаватую. *Навагрудскі р-н.*

ТАЎПЕХАЦЦА незак. Блытацца пад нагамі. Не таўпехайся пад нагамі, сыйдзі з дарогі, бачыш, рукі занятыя. *Волма.*

ТОК м. Сярэдзіна печы, месца пасля прыпека. Саганы з прыпека перасоўваюцца на ток, тутака і вараць. *Навагрудскі р-н.*

ТОЛЕЧКА злучн. Толькі. Толечка хочаш адпачыць, а маці гаворыць: «Няможна, а то не паспеем да вечара». *Рудня.*

ТОРБА ж. Чарговы дзённы харч, які належыць пастуху за кожную карову. Пастуха мы наймаем, плоцім яму з хаты на пяцёрцы ў месяц і торбу даём. Але ж вот паскуда, ніколі не гукне. Ціхенька прагоніць і ўсё. *Рудня.*

ТРАПА́ЧКА ж. Прылада, якой вострацъ касу, мянташка. Трапачка — гэта як і брусок. Даўней дык самі рабілі трапачкі. Аднаго бруска мала, як косіш. Мяккоцінай не наточыш касу, трэба каб трапачка жвірлівая была. *Краснае.*

ТРАСКА ж. Дробныя частачкі, якія застаюцца ад валакон лёну. Трэба траскі з восені прынесці ў хлеў. *Слабада.*

ТРАЦІНЫ мн. Памінкі праз тры дні пасля пахавання нябожчыка. На трэці дзень робяць траціны, збіраюць тых людзей, хто дапамагаў на памінках. *Рудня.*

ТРАЯЧКА ж. Тры рублі. «Дай,— кажа,— траячку, хлеба няма за што купіць». Баба мая і дала, а яна пайшла ды прапіла. *Рудня.*

ТРОСЦЬ ж. Чарот. У тросць заехаў, ніяк не выедзіць. *Бірулі.*

ТРУБЛО агульн. Чалавек, які надта шмат есць, трыбухаты. *Слабада.*

ТРУПНУЦЬ зак. Стукнуць. Ну ж і трупнула нечым, аж пырскі пайшлі з воч. *Навагрудскі р-н.*

ТРЫВАЛКАЯ (яда) прым. Без хлеба яда не трывалкая. *З ваколіц Заслаўя.*

ТУЗАЦЬ незак. Рваць, ванітаваць. Яго пачало тузаць. Што ні з'ем — пачынае тузаць. *Слабада.*

ТУКАЦЬ незак. У выразе: тукаць-люкаць. *Слабада.*

ТУ́МАРНІК м. Нявeтлівы, негаваркі чалавек. А бо, мне дык гэна баба казала, што яны можа ўсе гэдакія тумарнікі. Была зайшла я да іх у хату, дык ён сморг і пашоў у другі пакой і нават слова ні сказаў. *Краснае.*

ТУНЬКАЦЦА незак. Туляцца, швэндацца без справы. Так і тунькаецца цэлы дзень, а работы ніякай. *Слабада.*

ТУТАКА прысл. Тут. Мяхі павыкідала з запеку. Тутака, мусіць, Ніністых з шэсьць і Казаковай Ніны — васемнаццаць. Скажуць: пазычыла, дык аддай. *Краснае.*

ТУТАЦЬКА прысл. Тут. Кажуць, даўней наша вёска не тутацька была, а на вельмі харошым месцы. *Рудня.*

ТУХАЦЕЦЬ незак. Неспакойна біцца (пра сэрца). Усіх я шкадую. За ўсіх сэрца ў мяне тухаціць. *Рудня.*

ТЫШЧЫЦЦА незак. Ціснуцца, праціскацца ў шчыльным натоўпе. І ён тышчыцца сюды! Тут дыхаць няма чым, а ён — лезе. *Слабада.*

## У

УБОІНА агульн. Непаслухмяны, лянівы чалавек. Гэту ўбоіну і палкай не паднімеш. *Ляшчынск.*

УБРЫДАЦЬ зак. Абрыдаць. Да таго ўбрыдла ляжаць хворай, здэцца, няведама куды ішла б і што рабіла б. *Волма.*

УБУРЭЦЬ зак. Выспець, стаць сталай. Сядзі, дзеўка, пакуль добра не ўбурэеш. Яшчэ нажывешся і замужам. *Слабада.*

УБУХАЦЬ зак. Дарэмна патраціць што-небудзь. Дарма грошы толькі ўбухаў. *Бірулі.*

УВАЛІЦЬ зак. Даць, заплаціць, падараваць шчодра (і іранічна — зусім скупа). *Мурожніца.*

УВЭДЗГАЦЬ зак. Упэцкаць, забрудзіць. У што гэта ты спадніцу ўвэдзгала? Слабада.

УВЯРОДЗІЦЦА зак. Натрудзіцца, стаміцца. Казала багародзіца, што і сам не увяродзішся. *Старадворцы.*

УГАЛОЎНЫ прым. Абавязковы, галоўны. Не спяшайся работу ўсю перарабіць. Альбо ўгалоўнае? Што, другога дня не будзе? *Краснае.*

УГРУД прысл. У кучу, абы-як. Усе свае апранахі скінулі ўгруд. *Мурожніца.*

УДÁЛІЦА агул. Лоўкі, здатны да работы. Удаліца была мая жонка. Людзі мне яе пасваталі. *Хожава.*

У ДВАРЭ Дома. Немцы маму пераняли на дарозе, пасадзілі ў турму, а тату забілі ў дварэ. *Пасарава.*

У ДВОР Дадому.

А сватачкі мае,
галубочкі мае,
Ці не чэрці вас
Прывязалі ў нас,
Едзьце ў двор. *Застадолле.*

УДУКРЫЦЬ зак. Надумаць, убіць сабе ў галаву. Што ты сабе ўдукрыла дурное? *Слабада.*

УЗБÍЦЦА зак. Здабыць, набыць. Цяшка некалі было, пакуль на якую гаспадарку ўзаб'ecся. Ні

адсюль, ні адтуль і кароўку здабылі, нейкую каняку, памаленьку жыцце ўстроілі. *Краснае.*

УЗРЭХ м. Агрэх. Як ты ароў? Адны ўзрэхі! Дзе хапіў, дзе не хапіў плугом. Такія аратаі некалі толькі ў пана былі. *Краснае.*

УЗЮМ м. Разынкі. А трэцяя дачка вышла замуж і цяпер работае ў Ленінградзе кладаўшчыком у пякарні. Выдае ўзюм, масла, муку. *Хожава.*

УКАЗЧЫК м., неадабр. Шпік. Агент, які сачыў за людзьмі і выдаваў іх мясцовым уладам. Як прыйшлі немцы, чатыры чалавекі забілі. Быў такі ўказчык, указваў. хто быў у парціі. *Хожава.*

УКА́ЛВАЦЬ незак., груб. Працаваць. Ні хацеў вучыцца, дык хай ідзе ды ўкалвае. *Волма.*

УКАМАНДАВАЦЬ зак. Укіраваць. Мне не ўкамандаваць доччынымі дзецьмі, з выгады параздурвала іх. *Рудня.*

УКВЯЛІЦЬ зак. Пакрыўдзіць. Колячка не прыходзя нешта, мусіць ты яго ўквяліў учора. Накрычоў на яго, што не добра бабку абманіваць, бабка табе другі раз ні павера. *Краснае.*

УКВЭЦАЦЬ зак. Упэцкаць, забрудзіць. Толькі рукі ўквэцаў у гліну. *Слабада.* Скінь порткі, кажу табе, скінь! Што за дзеці пайшлі, адно б толькі уквэцаць. *Навагрудскі р-н.*

УКІНУЦЬ зак., перан.-асудж. Насварыцца на каго-небудзь; набіць каго-небудзь. Ідзі дамоў, я табе сказала! Ну, ідзі, зара бацька табе ўкіне добрага. *Хожава.*

УКРУЦІЦЬ зак. Зажыліць. Бывала панясеш што якое — жыта ці пшаніцы укруціш, каб яна не відзела. *Хожава.*

УКУВАЦЬ зак. Падкаваць. Кузнец укуваў кабылу на чатыры нагі, я сеў і паехаў. Прыязджаю дамоў, а бацька толькі стаў вароты зачыняць. *Ігрушка.*

УЛЯЛЁШЧЫЦЬ зак. Шмат дарэмна аддаць, страціць. Колькі грошай улялёшчыла занішто! *Слабада.*

УЛЯЦЕЦЬ безасаб., перан., асудж. Папасці. Але ж і ўляцела ім ад хазяіна за гэту пустку. *Хожава.*

УМАЛЁГАЦЬ зак. Упрасіць. Як памёрла Манячка, то школа зрабіла ёй аграду, бо пры жыцці яшчэ яна дзірэктара ўмалёгала. *Волма.*

УМІТУСЬ прысл. Валетам. Леглі спаць умітусь. *Слабада.*

УМІТУСЬКІ прысл. Зігзагам, улукаткі. Муку нейк прадавалі, дык ён умітуські хадзіў — гэткі п'ны быў. *Рудня.*

УПАГО́Н прысл. Услед. Хавала я гусі. Не было неяк дома мяне, хадзіла авечкі стрыгчы да Ганчарыка. Прышла дамоў, пашчытала гусі, німа дзьвюх. Пашла ўпагон шукаць іх. Усе куточкі вылазіла. А посьля палез сусед у яму — чысьціць пад бульбу і прынося мне гусі. Во, кажа, дзе твае гусі былі. *Краснае.*

УПАКУТВАЦЬ зак. Папакутаваць. Вот упакутвала я на гэтым свеце, ніхто столькі не выцерпеў. *Волма.*

УПЕРАД прысл. Раней. Уперад у нас як вяселле, дык усё сяло там. Народу-народу насабіраецца. *Рудня.*

УПЛА́КАЦЬ зак. Паплакаць, шмат плакаць. Што я ўплакала, дзетачкі вы мае, то ў слязах выкупалася б. *Хожава.*

УПЛЁТ м. Каснік. А мы ж яе па русай касе пазнаем, па зялёненькіх уплётах. *Вязынка.*

УПОЛ м. Тэмпература. Пастоў мне градуснік, ці вялікі ўпол, нешта мяне жарыць цэлы дзень, сёмы пот сходзіць. *Волма.*

УРАДЗІМЫ прым. Прыроджаны. Ён не ўрадзімы нямы. Было шэсць гадоў, спужаўся і адразу анямеў. *Рудня.*

УРЭЗАЦЦА зак., перан. Закахацца. Я каб быў малады, то ўрэзаўся б у катору. *Хожава.*

УСЛУЖНІЦА ж. Услужлівая жанчына. Такая работніца, такая ўслужніца была. *Рудня.*

УСМЯГНУЦЬ зак. Ссохнуць, усохнуць. Каб ты ўсмяг, каб ты! *Заслаўе.*

УСПАМІНКІ толькі мн. Памінкі. Заўтра праз вуліцу, ўспамінкі па жане. *Хожава.*

УСЦЯГ прысл. Цугам, следам. Пан ездзіў пяццю коньмі, дзве паркі і адзін усцяг пускаўся. *Рудня.*

УСЫПІШЧА зак., н. Бочка для збожжа. Застацца на ўсыпішча. (Не пазначана — дзе запісана).

УТРАНЦА́ЦЦА незак. Умешвацца. Я дык да іх не ўтранцаюся, як хочуць, хай так і жывуць. Мне, як кажуць, ні па кані, ні па аглоблях. *Краснае.*

УТРУПЕ́ЦЬ зак., перан. Моцна спалохацца, да страты прытомнасці. Я на сабе даканалася, што ад страху можна ўтрупець. Каля магілак ніколі вечарам ні пайду. *Волма.*

УТУСОЎ прысл. Марна, у адкіды. Перабрала грыбы, надта шмат утусоў пайшло. *Застадолле.*

УХАЖОР м. Кавалер, залётнік. Ухажораў у мяне было чорт ведае колькі, а папала я нехарошага. *Хожава.*

УХОДЗІНЫ мн. Уваходзіны, пераезд у новую хату. «Чаму гэто на ўходзіны не пазвала? Прышоў бы! Няго ж!» *Навагрудскі р-н.*

УХО́ДАЦЬ зак. Замучыць, загубіць. Дачка як пачула, што я доўг спаганяць сабралася, кажа: «Уходаюць яны цябе з-за гэтых капеек». *Волма.*

УЦІХАЧА прысл. Непрыкметна, без дазволу. Тады яна ўціхача неяк выцягнула тыя ніткі, ідаць жа, калі возьмеш. *Хожава.*

## Ф

ФА́НДЫ мн. Упрыгожванні на жаночым адзенні, часта непатрэбныя. Ты фанды абрэш, а то сабакі палохаюцца. *Навагрудскі р-н.*

ФЕСЦІВАЛЬ ж. Фестываль. У нас як фесціваль была, усяго можна было купіць. *Кукалеўка.*

ФРЭНЗЕЛЬ м. Кутас. Напішаш, хай купя харошую хустку, беражок у кветкі, з фрэнзьлямі. Прынесла з сабою шэсць красівых вышываных, з фрэнзьлямі, ручнікоў. *Хожава.*

ФРЭНЗЛІ толькі ў мн. Махры. Касьміроўкі былі спрэс чорныя, найболш с фрэнзьлямі. Прыбіраліся ўсё на кірмаш альбо на баль, але найбольш старыя надзявалі. *Краснае.*

ФУРА ж. Калёсы з высокімі драбінамі. Шэсць часоў бой пад Рудняй ішоў. Немцы фурамі везлі сваіх забітых. Ганна казала, што коптарам ляжалі ў возе. *Рудня.*

ФУРК аддзеясл. выкл. Як падрасьце дзіця, дык ён за яго і фурк — у Амерыку выправіць, каб у салда-

тах не служыць. Прыпільнавалі яго за гэта стражнікі. *Волма.*

ФЫР-ФЫР выкл. у ролі вык. Паляцець. Вой-вой, што гэта будзе, хто робіць у вёсцы будзе, каму гэта ўсё застанецца? Дзеці толькі падрастуць — і фыр-фыр. Паляцелі і няма. *Рудня.*

ФЭРДАЛА н., абраз. Конь, кабыла. Ад нямецкага пфэрд (конь). *Ракаў.*

## Х

ХАВА́ЦЬ незак. Трымаць, мець [свойскую жывёлу, птушку]. Пэнсію палучаю дый карову мне хочацца хаваць... Сёлета ўкасіў сена. *Хожава.*

ХАДАК м. Бот. Хадак са скуры толькі ў касцёл і на танцы схадзіць. Пярод у цэркву гэнак не ўбіраліся, як цяпер у клуб: дзіва, хадакі знімаюць, а чаравікі абуваюць. *Хожава.*

ХАДЗІЦЬ незак. Быць цяжарнай, хадзіць дзіцём. Я тады Святланкай хадзіла. *Слабада.*

ХАЛАДЗІНКА ж. Эмац. форма ад халадзіна.

ХАЛЕПА ж. Мокры снег, снег з дажджом. *Застадолле.*

ХАЛЕРАВАЦЬ незак. Нервавацца, псіхаваць, злавацца. Чаго ён халяруе? *Касцяні.*

ХАЛЮКІ мн. Памінкі. На халюках Міхал добра падпіў, узяў лапату і пайшоў на могілкі. *Касцяні.*

ХАРАШО́ прысл. Прыгожа. Апраналіся, вядома, харашо, сёстры мае шыць самі ўмелі. *Хожава.*

ХАРАШЭЦЬ незак. Прыгажэць. За добрым таварышам жана харашэе (з песні). *Слабада.*

ХАРОШЫ прым. Прыгожы. Алеся вылюднела, зрабілася харошай. *Слабада.* А я, як маладая была, дык харошая была,не брыдкая, як цяпер. *Хожава.* Колькі жанчын да гэтага дзіцяці ні падыйдзя, сваё правя: «Гэта не мая мама, мая мама харошая». Волма. Харошая, хоць малюй. *Навагрудскі р-н.*

ХАТНІЦА ж. Гаспадыня. А хто ж цябе на дварочку пераняў, а хто ж цябе за хатніцу пашчытаў? *Прудок.*

ХАТОМКА ж. Сумка або мяшок, якія насілі цераз плячо. Хатомку пачапіла на шыю. *Бірулі.*

ХАЎКАЦЬ незак. Пазяхаць уздыхаючы. Мужык кажа ёй, што трэба лён палоць. А яна ляніцца. Спіць увесь час або ляжыць і хаўкае. *Рудня.*

ХАЦЁНКА ж. Форма ацэнкі ад хата. Хацёнак у сяле было мала. Немец спаліў вёску. *Рудня.*

ХВАРСАВА́ЦЬ незак. Задавацца, фарсіць. Туфлі з брызэнту пабелім і хварсуем. *Хожава.*

ХЛЁП выкл. у ролі вык. Рэзка зачыніць. А ў гэты час бура фортачку — хлёп! *Рудня.*

ХЛІХАТАЦЬ незак. Клекатаць. Бусел на гняздзе хліхоча. (Дзе запісана — непазначана).

ХМУРА ж. Хмара. Як астануся адна ў хаце і віджу, што хмура находзя, навальніца будзя, то так баюся. *Краснае.*

ХМУРКА ж. Хмарка. Пайшлі мы з Юзюняй жаць. Найшла хмурка, я й кажу на яе, каб яна ішла дамоў. *Волма.*

ХРЫШЧОНІЦА ж., уст. Хрэсніца. Хрышчоніца мая такая гарутніца, яна ўсё жыцце ў горы. А якая прыхільная, спагадлівая! *Краснае.*

ХУДЫ прым. Ліхі. За худым мужам, за няўдаліцай мая горкая доля. *Бортнікі.*

ХЭЎРА ж., уст., груб. Кампанія. *Я з імі ў хэўру не заходжу. Хожава.*

## Ц

ЦАЛЫ прым. Цэлы, увесь. *Вот якая памяць дурная робіцца. Гэта чаго я не знала, цалы свет у галаве быў. Лаздуны. Аднаго разу дык цалую ноч лямянтавалі, я аж спаць не мог зусім. Рудня.*

ЦАМЯНТО́ВЫ прым. Цэментны. *Косіць касілка, укладваюць сянаж, зводзяць яго ў цамянтовыя ямы. Усю зіму ляжыць, а тады адкапваюць і кормяць кароў. Кукалеўка.*

ЦАПКІ мн. Паліцы ў лазні. *Лезь на цапкі, там гарачэй. Слабада.*

ЦАТАВАЦЬ незак. Вызначаць цотны лік. *Калышэце яго высоко, каб ён бачыў далёко, дзе яго міла гуляе, адно яблычко качае, на гарэшку цатуе, яму залаты персцень гатуе. Коцькі.*

ЦВІЧЫЦЬ незак. Ушчуваць, папракаць. *А сусед наш Нічыпар у паліцыю падаўся, у сабачую скуру адзеўся. І нас сяльчан сваіх узяўся цвічыць. Рудня.*

ЦВЯК м. Цвік. *Хуценька закрылі дамавіну крышкай, забілі цвякамі і апусцілі ў дол. Рудня.*

ЦЕ́ЛЬНЫ прым. Сподні. *Астаўся толькі ў цельным бяллі. У нас жа гарэла ўся Рудня. Рудня.*

ЦЕ́НЬКІ прым. Тонкі. *У аднаго голас такі ценькі быў. Хожава.*

ЦЕПЯРСЯ прысл. Даўно. *Хай яго пача выкацяя, як ён мне надаеў, гэты брыда. Цепярся ўжо, як*

пашоў да Івана, думаеш цьвярозы прыдзя? Німа ж таго дзянёчка, каб я не launched пэратрэслася, не перахварэла. *Краснае.*

ЦЁМГЛЯ прысл. Заўсёды. Пра майго кума людзі і пагаворку зладжылі — не хватае, як у Камара,— калі ў каго чаго німа. Цёмгля яго жонка гаварыла: «Чаму гэта людзі ўсё маюць, а ў мяне німа». Кум будзя казаць: «Ты не завідавай чужому багатству, бо яму канца німа». *Краснае.*

ЦЁНГ м. Цяга. Закрывай, Мішачка, цяпліцу, а то цёнг халодны цягня з двара. *Краснае.*

ЦЁНГЛЕЧЫ прысл. Цяпер. Вось як цёнглечы кепска нявучанаму (...) Ваўкі гэдак надаядалі, што жыцця ад іх нямашака. Цёнглечы што-небудзь учыняць. *Баўцічы.*

ЦЁНГЛЕ прысл. Заўсёды. А Манькін цёнгле што-небудзь ўтворыць, учора чуць хаты не спаліў, паскуднік. *Навагрудскі р-н.*

ЦЁНГЛЯ прысл. Заўсёды, увесь час. Цёнгля ўтраіх спалі. *Хожава.*

ЦІ ЦЕПЕРСЯ прысл. Даўно ўжо, даўнавата. Ці цеперся пайшоў і няма. *Слабада.*

ЦІНЯНЁХАЦЬ зак. Песціць, далікаціць, лашчыць. *Мурожніца.*

ЦІПКА ж. Курыца. Ціпку нада зарэзаць будзіць. *Бірулі.*

ЦІКА́ВЫ прым. Цікаўны. Доўга нехта ля студні стаёў. Каб я цікавая была, дык падглядзела б. *Хожава.*

ЦУП-ЛУП выкл. у знач. вык. Тое, што і цап-лап.

ЦУРУБАНІЦЬ незак. Цурчаць, барабаніць. Мо дождж скора пойдзе. У Барсуках, кажуць, ноччу такі дождж цурубаніў. *Рудня.*

ЦЫБУК м. Пук, стрэлка. Сёлетнім годам у мяне цыбулі саўсім німашака. Уся ў цыбукі пайшла. Трэба будзя да Веркі схадзіць, каб пазычыла пасадзіць. *Краснае.*

ЦЫБУЛЬНІК м. Шалупінне цыбулі. На вялікдзень яйкі красілі ў цыбульніку, як не было цыбульніку, то краску красную куплялі. *Рудня.*

ЦЫНБАЛ м. Вельмі высокі чалавек. Што гэта за хлапец быў у Хадасіхі? Я ў Красным гэткіх не відзела. Такі цынбал, пэўня да столі дастаня. *Краснае.*

ЦЫРУ́БАЛКА ж. Лядзяк. На лета ячмень трэба будзя сеіць. Добры ячмень будзя, такія цырубалкі каля страхі вісяць таўстыя. *Краснае.*

ЦЬМА прысл. Вельмі многа. Раніцой пачаўся бой у Рудні. Немцаў было цьма. *Рудня.*

ЦЭЛЬНЫ прым. Цэлы. Я сядзела каля яго ног цэльную ноч. *Хожава.*

ЦЮНІ толькі ў мн. Склееныя з гумовай камеры галёшы, бахілы. Мой дык ня ўмеў цюні клеіць, але ад суседа наўчыўся і сам клеіў ужо. Азяў калясо ад машыны і гэткія добрыя склеіў, надта ж доўга не цяклі. *Краснае.*

ЦЮПА абразл. Няспрытная ў рабоце жанчына. Цюпа гэна, што са мной была, толькі каноплі драць ей. Дужая была і не гультайка, але ў хаце, што ні зробя, дык чорт ногі паломя. Да хатняй работы, як да пня. *Краснае.*

ЦЮПАЦЬ незак. Крышыць не нажом. *Слабада.*

ЦЮПКІ мн. Крышаны ў малако хлеб. Цюпкі скарэй старыкам даём і дзецям. *Мурожніца.*

ЦЮХАЦЦА незак. Варушыцца. Памаленьку жыву. Дзеці прыедуць у водпуск, бабка цюхайся. *Рудня.*

ЦЮШКА Ж. Невялікая палонка, якую прабіваюць для лоўлі рыбы. Цюшкі пяшнёй прабіваюць. *Бірулі.*

ЦЯЛУХА ж. Цялушка. Цялуху няма дзе ставіць, адгарадзі ля каровы. *Бірулі.*

ЦЯЛУХА ж. Карова. З поля гонюць, перайшлі цялуху. *Бірулі.*

ЦЯМСЯ зак. А няхай ты цямся з дзеўкай! Няхай ты цямся! Кажа ў хаце холадна. *Волма.*

ЦЯПЕРАЦЬКА прысл. Цяпер. Ды хоць бы танцы былі людскія, а то ўсё на адным месцы стаяць і нагамі перабіраюць. Мы, бывала, разоў трыццаць хату абыдзем за танец. А цяперацька на саміх танцах выспацца можна. *Рудня.*

ЦЯПЕРАЧА прысл. Цяпер. А цяперача ў нас школа да васьмі класаў толькі. Цяперача не столькі рыбы, як раней. *Рудня.*

ЦЯПЕРАЧЫ прысл. Цяпер. А маладым цяперачы і жытуха, самі не знаюць, што і купляць. *Рудня.*

ЦЯПЕРАКА прысл. Цяпер, зараз. Хай іх з некалішнімі прыладамі. Зробя гаспадар вочап цяшкі, што, як нацягаесся вады за дзень, дык чуць ногі прывалачэш у хату. Цяперака ні ў аднаго чалаавека німа вочапа, а студні на калаўротах. *Краснае.*

ЦЯПЕРЫКА прысл. Цяпер. У нас, праўда, клуб, вялікі, але ніякі. Намецілі цяперыка новы строіць. *Хожава.*

ЦЯРЭШКІ мн. Гулянне, забава ў час каляд. Мы даўней цярэшкі гулялі. *Бірулі.*

ЦЯСТОТКА м. Цесць. Дзе запісана — не пазначана.

ЧАБАБУ́Х выкл. у знач. дзеяслова. Грузна, з шумам упасці. Як мы пад'едзем блізко, дык гэтыя бабры з дрэва чабабух у ваду, у возеро. Як яны там вылазяць — не ведаю, не відзела. *Лаздуны.*

ЧАЛАВЕК м. Муж. Я ж замуж ішла і свайго чалавека ў вочы не бачыла. *Кукалеўка.*

ЧАЛАВЕ́К м. Суджаны, жаніх. Гэнак як мы шчэ маладыя былі, дык ўсё любілі на свята пагадаць, узнаць чалавека, калі пойдзеш замуж. *Хожава.*

ЧАЛЯДНІК м., уст. Вучань у майстра. Тры гады, мусіць, чаляднікам у краўца работаў. *Хожава.*

ЧАПЛЯЯ[1] ж. Чапяла. На шчодры вечар, калі хлопец і дзяўчына сябруюць, то ў хлопца крадуць чапляю і нясуць да дзяўчыны, а ў дзяўчыны — падушку і нясуць да хлопца. *Жабчава.*

ЧАПЛЯЯ[2] ж., перан. Нязграбны чалавек, які замінае другім. Чапляя гэта, дзе павернецца, там і зачэпіцца. *Навагрудскі р-н.*

ЧАПЯРЫДЛА ж., зневаж. Няўклюдная бесталковая жанчына. Ён пакінуў жонку першую з дзецьмі, харошую, а знайшоў нейкую чапярыдлу малую. *Волма.*

ЧАРНАМАЗЫ прым. Чарнявы. А быў ён сам гэдакі чарнамазы: і бровы чорныя, і вочы, і валасэ. *Карцэвічы.*

ЧАРОВЫ мн. Вантробы. Зарэзалі цялушку. Мачыха кажыць дзедавай дачцэ: «Ідзі, дурнішча, перабіраць чаровы». *Мацкі.*

ЧАРО́ЎЦЫ мн. Форма ацэнкі ад чаровы. Цялушка адказвае: «Хай рэжуць, толькі каб чароўцы

ты перабірала. Калі будзем перабіраць іх, то знойдзеш бабовае зерняйка і гарохавае». *Мацкі.*

ЧВАРАНІТНЫ прым. Тканы ў чатыры ніты. Некалі палятно ткалі чваранітнае, дык яго добра было на мяхі браць. Як памочыш, дык яно мякенькае, а як двухнітовае, дык як брызент. *Краснае.*

ЧУБІ́ЦЬ зак. Убіраць насенную канюшыну — ставіць «у кучкі». Дваццаць першага, я ведаю, Волька чубіла канюшыну. *Хожава.*

ЧУПЛЮВА́ЦЬ незак. Перыць. Ну, ужо як натчом палатна, нясом на раку. Праннікам чуплюеш, тады выпалашчаш і зноў на камяні мнеш. *Рудня.*

ЧЫЛЬЧЫБА ж. Ліха, трасца, хвароба. Якая ёй чыльчыба прываліла? *Мурожніца.*

ЧЫСЦІЦЬ безас. Нудзіць. Божа, як стала яе чысціць, такая жуда ахапіла. *Хожава.*

ЧЭРВЕНЬСКАЯ ПАЛІ́ВА — вырабы чэрвеньскіх ганчароў. Міскі і іншая пасуда былі гліняныя, яны, канешне, закаліваліся ў агні і называліся «чэрвеньскай палівы». *Рудня.*

ЧЭСЛА н. Цясла. У баброў зубы, як чэслы, яны скрабуць дрэва зубамі і так сякуць. І такое дрэва зробяць, як жэрдку. *Лаздуны.*

ЧЭСЦЬ ж. Застолле, пачастунак. Госці і маладыя садзяцца за стол, частуюцца, а тады, пасля чэсці, музыка іграе, танцуюць. *Рудня.*

ЧЭШЧА ж. Цешча. Заехаў Ясю к чэшчы начаваць ды забыўся Ясю добры вечар даць. *Вярхуціна.*

ШАЛІНОЎКА ж. Хустка, шалік. Гэна ж Ніна мне купіла шаліноўку чырвоненькую ў палякоў, як яны да іх прыяжджалі. Колява дык аж дзьве купіла, па дзесяць рублей прадавалі. *Краснае.*

ШАЛУПАІ толькі ў мн. Адходы ад грэчкі. А як пітлююць грэчку, дык перш адлучаць ад шалупай, а тады пітлююць на муку. Шалупаі ўсе вон выкідаюць, яны нікуды не варты. *Краснае.*

ШАРАЯ ГАДЗІНА. Час на мяжы дня і вечара, перад прыцемкамі. Ён прыйшоў ужо а шарай гадзіне. *Слабада.*

ШАРА́К м. Грубае даматканае паўсукно. Шарак ткалі. Нітка суконная і парцяная — гэта называўся шарак. *Рудня.*

ШАРГУНЫ толькі ў мн. Бразготкі, шамкі, бомы. У вазкох шаргуны зьвіняць, во маладыя едуць. На конях ехалі, шаргунамі бразгочуць. Коней у ленты ўбіраюць, штук дваццаць, шаргуноў на шыю вешаюць. *Хожава.*

ШАРХУНЫ толькі мн. Тое, што і шаргуны; шамкі. Коні паўбіраюць у шархуны. *Хожава.*

ШАРЭЦЦА незак. Ратавацца, рыхтавацца да пакарання. Пойдзеш без спросу — тады ўжо шарэйся. *Застадолле.*

ШАСНУЦЬ зак. груб. Паехаць. Каранцін, наклалі, нікуды не шаснеш, маеш, што прадаваць — вязі ў Пятрова, здавай скаціну. *Волма.*

ШАСТАЦЬ незак. Шукаць, шнырыць. Сустракаю свайго знаёмага партнога, а ён і кажа, што немцы шастаюць усюды. *Рудня.*

ШАТЫНА ж. Сацін. Шатынкі чырвоненькай купіла на аблямоўку. Хораша будзя, калі пашыю халат. *Краснае.*

ШАФЯРЫЦА ж. Шаферка. Потым заходзяць шафярыцы, прыносяць цвяточкі і прыколваюць шафярам. *Хожава.*

ШВЫРГА́ЦЬ незак. Моцна кідаць, адкідваць. *Слабада.*

ШВЭНДАЦЦА незак. Хадзіць туды-сюды, без справы. А гэты Мішка то ў магазін, то з магазіна, усё швэндаецца. *Слабада.*

ШВЭРКАЦЬ незак. Непрыстойна гаварыць, зневажаць каго-небудзь. Што ты швэркаеш абы-што, не падумаўшы? *Ганаратаў.*

ШКАРА́ДА агул. Неакуратны, неахайны чалавек. Вот шкарада! На каго ты падобна стала, глянь у люстэрка. *Волма.*

ШКОЛІЦЬ незак. Павучаць каго-небудзь, выгаворваць каму-небудзь, дрэсіраваць. Што ты яго дзень пры дні школіш, прычапіўся да малога? *Ляшчынск.*

ШКЫРА выкл., якім паганяюць авечак. Тое, што ашкыр. Шкыра куды! *Мурожніца.*

ШЛЁГАЦЬ незак. Сцёбаць дубцом, матузом, пужкай,— паганяць каня, карову. *Слабада.*

ШЛЁПІХА ж. Неахайная жанчына. За гэта яе і шлёпіхай завуць. *Слабада.*

ШЛЭБ м., мн. ШЛЭБЫ. Драўляны абутак, клюмбы. У вайну рабілі на драўлянай падэшве або проста выдзеўбленыя шлэбы. (Дзе запісана — не пазначана).

ШЛЯГА ж. Калода. Во бачыў раз дзіка, ну, не менш, а грубошчы больш, чым шляга, на якой ты сядзіш. *Налібокі.*

ШЛЯК м. Сантыметр. Дзе гэта шляк наш падзеўся? Дзяўчыне трэба мерку зьняць. Сукенку к сьвяту прося пашыць. *Краснае.*

ШМОЦЦЕ н., груб. Адзежа. Я буду ваша шмоцце несці, а вы паедзеце? І не думайце, кіну на полі і хай ляжыць. *Рудня.*

ШПАЛЕР м. Шпалера. Адна маладзіца пыл у хаце выцерла, сцены шпалерам абклеела. *Каліта.*

ШПІК м., толькі ў адз. Здароўе, жыццёвыя сілы. Каб табе наскрозь не прайшло, як ты мне жыццё скруціў. Увесь шпік выцяг зь мяне, высушыў у шчэпку. Проўду людзі кажуць, як німа долі, дык ні дома, ні ў полі нідзе ня нойдзіш. *Краснае.*

ШПІЛЬ м. Металічны стрыжань, на які пасаджаны верхні камень у жорнах. Верхні камень знаходзіцца на шпілі. *Рудня.*

ШТАБНАВАЦЬ незак. Страчыць. Машын рэдка было. Рукамі шылі, штабнавалі ўручную. *Рудня.*

ШТОНЯДЗЕЛЕЧКІ прысл. Кожную нядзелю.

Ой, дабранач, новы столічак, дабранач!
А хто ж цябе памые без мяне?
А я ж цябе штосуботачкі ўмывала,
А я ж цябе штонядзелечкі засцілала. *Рудня.*

ШТОСУБОТАЧКІ прысл. Кожную суботу. *Рудня.*

ШТРАПНЫЯ толькі ў мн., субст. прым. Штраф. Калека-калека, а жонцы руку прастрэліў, дак яна падала на суд. Але яму толькі штрапныя далі. *Хожава.*

ШТЫХ м. Шво, строчка. Дачушка, завяжы ты мне вузельчык, бо незавязаўшы ніці, першы штых прападзе. *Краснае.*

ШУМА ж. Смецце. Адкуль столькі шумы ўзялося, толькі што падмялі. *Мурожніца.*

ШУМАЛКА ж. Яма, лужына з вадой і розным брудам. Няўклюда, гэткую талерку раскрышыла, нясі ў шумалку выкінь, каб ніхто не парэзаўся. *Краснае.*

ШУТАЧКІ мн. Авечкі. Дзе запісана — не пазначана.

ШУТКАВАЦЬ незак. Жартаваць. Ганна смяялася, шуткавала, а Раману было не па сабе. *Нарэйшы.*

ШУХНУЦЬ зак. Праваліцца, пасыпацца. Ну мы й шухнулі пад лёд. *Бірулі.*

ШЧАВУЛЬНІК м. Трава. Пасля вайны пяклі хлеб са шчавульнкіку. *Слабада.*

ШЧАДРЫХА ж. Святочная вячэра перад Новым годам. А на шчадрыху пякуць ладкі і кладуць на парозе. Чыю ладку скарэй сабака схваціць, тая дзеўка скарэй замуж пойдзе. *Рудня.*

ШЧАКЕЦІНА ж. Штыкеціна. Іду ўчора ад Ніны, дык суседка плот мыла, усе, усе па аднэй шчакеціне вымывала, кажа, можа ж маляваць трэба будзя к маю. *Краснае.*

ШЧЫГУЛЬНЕНЬКА прысл. Шчыльненька, падагнана па росту. *Слабада.*

ШЧЫЛЕЧКА ж. Шчылінка. У мяне быў жарабец, што звер, слухаўся аднаго дзеда. Бывала як сарвецца, дык ні плашоў, нічога не было на яго дарозе: і коні, і пастухі ў шчылечкі хаваюцца. *Стадарворцы.*

ШЧЫРЫ прым. Чысты. Ты ж будзеш у шчырым бары ягадкі браці, а я буду ў чыстым полі жыта жаці. Пагнала валы ў шчырыя бары. *Рудня.*

ШЧЫРЫ прым. Сапраўдны, непрытворны. У пятніцу заўсёды нічога не елі. Шчырым постам пасцілі. *Рудня.*

ШЧЭЛЯПЫ толькі ў мн. Сківіцы. Зьеў бы што, дык не праглынеш, шчэляпы баляць кругом. Адкуль той боль узёўся, пэўня прахаладоўся недзе. А можа, як на мацыклеце ехаў? *Краснае.*

ШЫБЕНІЦА ж. перан. Вышыня. Аднаго года такая зіма лютая была і крутаніна надта. Панёс Бладзя вярбу сьвянцонуую падтыкаць пад стразу, каб бяды якой не было. Пакуль ён вярбу данёс, віджу я — заматлялася нешта ў ваччу. Анёж страху з паветкі разьнесла на дзьве палавіны, ішчэ шчасьце, што яго не забіла. Там жа шыбеніца гэткая, яго б на блін распляскала гэнай страхой. *Краснае.*

ШЫДЭРЫЦЬ незак. Кпіць, здзекавацца. Пойдзе з мужчынамі касіць, а з яго тыя шыдэраць колькі хочуць. *Волма.*

ШЫКАВА́ЦЦА незак. Прыбірацца. Люба ўжо шыкуецца на вясельле. *Хожава.*

ШЭНДЗЯ ж. Малярыя. Шчоб цебе шэндзя трасла, дай не атпускала. *Белавуша.*

ШЭРСНЫ прым. Шарсцяны. Шэрсны сарафан надзела на мое свята, прыбралася. *Чашніцкі р-н.*

## Э

ЭЛЕКТРЫКА ж. Рэнтген (апарат). Зара ён за мяне і на электрыку. *Хожава.*

## Я

ЯВОР м. Явар. Адчыні, матулька, новы двор вязём нявесту, як явор. *Вераб'і.*

ЯГОР м. Явар. З гэтай костачкі вырас ягор з залатымі яблыкамі, сярэбранымі лісточкамі. *Серкавіца.*

ЯДРАНЫ прым. Халодны. Як мы коней у начлег ганялі. Ночы ядраныя стаяць, а спаць хочацца, паляжам у ключ крыгом вогнішча, хто корч які пад галаву падсуне. *Рудня.*

ЯЗМЕ́НЬ м. Язмін. Старыя людзі кажуць, што раней на гэтым месцы былі вялікія зараснікі язменю. *Язавінь.*

ЯКАТАЦЬ незак. Стагнаць ад болю. У маей сваці вот хата гультаёў была. Бацька хворы быў, ляжыць, якоча, якоча, ніхто яго не ўстане не паратуе. Я чужая, паднімуся, падам яму лусту хлеба. «Мая ты дачушка, кажа, каб я такі хлеб еў, каб жыў з гэткімі людзьмі, як ты, век здаровы быў бы!» *Краснае.*

ЯЛАЎКА ж. перан. Так гавораць пра бяздзетную жанчыну. Некалі ў мяне не было дзевяць год дзяцей. Сустрэнемся мы з аднэй бабай, а яна й кажа: «Вот мы, Марылька, с табой ялаўкі, але што ж зробіш.» Пагаруем гэтак ды й разыдзімся. Яна так і асталася без дзяцей. *Краснае.*

ЯМКА ж. Выемка ў печы, куды выграбаюць жар, прысак. А жар выграбаюць у ямку. *Навагрудскі р-н.*

ЯМЧЭЙ прысл. Зручней. Цяпер ямчэй «Чэрвень» сказаць, чым «Ігумен». *Кукалеўка.*

ЯРМАРАК м. Кірмаш. Маці пайшла на ярмарак, а дзяцей замкнула ў хаце адных. *Рудня.*

ЯСЁНКА ж. Асенняе пальто. Не холадна табе ў ясёнцы, зіма ж? *Навагрудскі р-н.*

## ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ

**Абагрэць пяты.** Яшчэ і пят не абагрэў у калхозя, а распараджацца пачоў, як дома. *Волма.*

**Ачысціць да ніткі.** Абчысьцілі ўсё да ніткі, нічога не пакінулі. *Волма.*

**Ад веку вечнага.** Ад веку вечнага гэта крынічка б'е і людзі ваду бяруць. *Хожава.*

**Адбіцца ад рук.** Адбіўся ад рук, нікога ні слухая, вот дзіцятка цяперашняе. *Волма.*

**Адбіць памяць.** Адбіла памяць, нічога не помню, скора, мусіць, не буду помніць, што ўчора рабіла. *Волма.*

**Аддзячыць у дзве столкі.** Я ўжо, калі чалавек зрабіў мне ласку, дык у дзве столкі аддзячу. *Волма.*

**Ад'есці вантробы.** *Крупскі р-н.*

**Ад'есці нутро.** Малая такая благая. Бабе ад'ела ўсё нутро. *Хожава.*

**Адзецца ў сабачую скуру.** Немцы па вёсцы лятаюць. А сусед наш, Нічыпар, у паліцыю падаўся, у сабачую скуру адзеўся. *Рудня.*

**Адзін аб адным.** Таўкуцца адзін аб адным, гэдакія танцы. *Хожава.*

**Адзін адным.** А так усё раблю сама, адна адным. *Рудня.*

**Адным дзелам.** У мяне пляменьнік — адным дзелам. Тут, дзеўкі, нічога дрэннага не скажу. *Хожава.*

**Аж за вушамі хрумсьціць.** Нальлём капусты поснай — ядуць дзеці аж за вушамі хрумсьціць. *Хожава.*

**Аж зямлю дралі.** Так плакалі, што аж зямлю дралі яго бабкі і бацька, каб не хрысьціўся. *Волма.*

**Аж нос у прысядкі ідзе.** Сёньня ясі з апяцітам, аж нос у прысядкі ідзе. *Волма.*

**Адрэзана(я) луста.** Аткінены ўжэ чалавек, твая луста ўжэ атрэзана. *Хожава.*

**Бель беллю.** Сёння вой што робіцца, людзёў на сене — бель беллю, адны хусткі мітусяцца. *Рудня.*

**Брацца ў ружжо.** Не будзеш жа парабкі трымаць: сам бярыся ў ружжо. *Хожава.*

**Буйда на рэсорах.** Гэта ўсё буйда на рэсорах, што пра знахара гаворыць, так пра кожнага кажуць, і гэты анікдот я даўно чула. *Волма.*

**Быць на кані і быць пад канём.** Відзеў усяго: быў на кані, быў і пад канём. *Хожава.*

**Бяз шчоту хітры.** Галя — хітрая, бяз шчоту хітрая, каля людзей і гэнак і гэтак, і гэтак і гэнак. *Волма.*

**Валасы дыбам.** Колькі раз яго да сьценкі ставілі пры мне і пры дзецях, аж жуда бярэ, так на галаве валасы дыбам уставалі. *Хожава.*

**Вераб'і ў галаве нясуцца.**

**Вісець на вяроўцы.** Зламоўн. Каб ты на вяроўцы вісеў, як я прыдумліваю. *Хожава.*

**Вокам не самкнуць.** Ты мяне хоць на каменьні палажы, дык буду спаць: дзьве ночы вокам не самкнула. *Волма.*

**Вочы прасвяжыць.** Пабыць на дварэ, на паветры. *Мурожніца.*

**Выдаць добры баль.** Тады я была ўцякла ад яго [пана], а мама ляжала хворая і выдала мне добры баль і зноў адправіла дабываць. *Хожава.*

**Выдраць вочы.** Яна мне тады за гэта як вочы не выдрала. *Крупскі р-н.*

**Выкідваць штучкі.** Я вам, дзеткі, раскажу, якія я штучкі са сваім братам старэйшым выкідваў. *Хожава.*

**Выматаць душу.** Вот подлае насеньне, усю душу выматала цялушка. *Волма.*

**Выскачыць куверам.** От ні хацелася сёньня ўставаць. Але як сказалі трыццаць пяць восьмага — куверам выскачыла. *Волма.*

**Выхадзіць туркі-баркі.** Ун туркі-баркі выхадзілі — і нічога не знайшлі.

**Выцягнуцца ў нітку.** Тут ужо так: выцягнуцца ў нітку, а свадзьбу здзелыць.

**Давесці да розуму.** Ты яе ад сьмерці схаваў, а яна цябе да розуму давядзе. *Хожава.*

**Даў бог (чорта).** Можа, вам, цётухна, ні даў бог такога чорта, як мне нявестку. *Хожава.*

**Даўней было дурней.** *Кукалеўка.*

**Дастаць з агню.** *Крупскі р-н.*

**Дацца ў страхі.** Яны мне ў страхі даліся гэтыя немцы. *Хожава.*

**Даць (даваць) ганьбу.** Ганьбы мне не давалі, але не было багацця ў мяне. *Хожава.*

**Даць гамон.** Зрабіць шкоду. Такі гамон далі нам дзве каровы зімой: есьці з'елі, а малака — ні грама. Каб знали, дык усе б на базу здалі б. *Волма.*

**Даць пытлю.** *Крупскі р-н.*

**Даць драла.** Даў драла, а яго шукалі, паролі. *Хожава.*

**Даць рады.** Дай ты рады, Стэня, я ж таксама не веру, што ён кроў. *Волма.*

**Даць у косці.** Жонцы можна і ў косьці даць. Трудна знайсьці, каб жонкай была добрая. *Хожава.*

**Даць фінгераў.** А каб адразу ні папусьцілася ды дала фінгераў, дык другое было б. *Хожава.*

**Дзівам дзівавацца.** Бачылі мы ў Івенцы чучалу, а ні дзяўчыну, і ўсе дзівам дзіваваліся, гледзячы на яе. *Волма.*

**Дрататуй рабіць.** Як будзе вясельле і папросіш і будзем дрататуй рабіць. *Хожава.*

**Духі [з цябе] вон.** Калі ўзяла ў людзей грошы, дык духі з цябе вон, а аддай, што трэба. *Хожава.*

**Дыхавіцу нагнаць.** *Слабада.*

**Есці не ў сваю моц.** А еў — дык не ў свою моц, яго звалі коньскай кішкой. *Волма.*

**З агню ў прысак.** *Крэва.*

**Закапыліць нос.** Ну, чаго нос закапыліла, раптам не ў гуморы стала? Вот ня ўгодзіш. *Волма.*

**Запрэгчы ў аглоблі.** Як выйшла замуж, як запраглі ў аглоблі, дак дзесяць год мучылі, ганялі, але выжыла, не памерла. *Хожава.*

**З'есці чорта з лапцямі.** З'ядуць усё: і чорта з лапцямі з'ядуць, як добра падап'юць, усё што папала пойдзя. *Волма.*

**Злупіць скуру.** Пан з цябе злупіць скуру. *Волма.*

**І валё набок.** *Слабада.*

**І канцоў ніякіх няма.** Каб гэта даць чалавеку чаго, дык ніколі ні дасьць. Ні баба, а чорт, і ні памрэ, і сьмерці на яе няма, і канцоў ніякіх німа. *Хожава.*

**І Мінкам звалі.** (Знік, уцёк). *Мурожніца.*

**І на лета год.** (Прападзе назаўсёды). *Мурожніца.*

**І ніхто не лысы.** (Ніхто не вінаваты). *Мурожніца.*

**І скокам, і бокам.** Усяк жыла і скокам, і бокам. *Кукалеўка.*

**Ісці на казалы.** (Ісці на зборышча, на пасядзелкі). Ні йду я, ні лайдачу нідзе, нават на казалы ня йду. *Волма.*

**Ісці ў блуд.** Каб гэта ў блуд ішоў, а то жывеш сабе ціха, а ён рэўнуе без дай прычыны. *Хожава.*

**І хамута не нясі.** (І не пачынай нейкую справу). *Мурожніца.*

**Казалы вадзіць.** (Разводзіць плёткі). Ото б, здэцца, узяла б палку і адгасьціла б так яе, каб век помніла, каб ні лезла ў чужыя справы, казалаў не вадзіла. *Волма.*

**Капыты атрэсьці.** (Памерці). Гэта ж трэба! Так вучоба высушвае. У нас вунь адзін у медыцынскім шэсьць год вучыўся. А тады адзін год паработаў і капыты атрос. *Хожава.*

**Карманная чахотка.** Глаўны урач пераправерыў і кажа: «Можаш адзявацца, у цябе карманная чахотка».

**Кароткі завароткі.** (Рашучыя меры).

**Кілу нарваць.** Іран. «Перастарацца» ў працы, у якой-небудзь справе. *Слабада.*

**Круціцца на ўме.** Марцінавы, ведаеш, і яшчэ тут адны, круціцца на ўме, а ні магу сказаць, коні ў іх былі натта харошыя, ды й самі дападныя. *Волма.*

**Круціць носам.** І што ён ёй выбыджгая? Яшчэ, можа, і такой ні знойдзя, а ўсё носам круціць. *Волма.*

**Легчы крыжам.** Хоць крыжам хай лягуць тут, а ні паверу, што ён кроў муку. *Волма.*

**Лёстачкамі душу дастае.** *Відэйкаўшчына.*

**Лішні рот.** Я тады малы быў яшчэ, а ў парцізанах сіла трэба была, а ня лішні рот. *Рудня.*

**Мокнуць у гарэлцы.** Бацька на сына ўсё крычыць, што п'яны ходзя, а ня прыпомня, што калісь сам такім быў — у гарэлцы мок. *Хожава.*

**Месца не знаходзіць.** А як біў мяне, што ўжо месца сабе не знаходзіла. *Хожава.*

**Набрацца розуму.** Пакуль розуму набралася — служыла служанкай. *Хожава.*

**На грыб неварты.** Як малады, то добра, а потым зробішся стары, што на грыб нікому ня варты. *Хожава.*

**Нарабіць дзялоў.** Вот ім дзялоў гэты хлопчык нарабіў: і езьдзіць трэба, і госьці рабіць, і людзей прасіць, але ж на гэтым сьвет стаіць, абычай такі. *Волма.*

**На свой хвост набрахаць.** Нагаварыць лішняга сабе на шкоду.

**На слязу бабову.** Калі было зямлі ў каго, дык на сьлязу бабову. *Хожава.*

**Насіць на руках.** Песціць, далікаціць каго-небудзь. Усе яны такія! Так і гавораць: на руках буду насіць, а сам сабе думая: і начамі падкідваць. *Хожава.*

**На тое ліха.** А на тоя ліха і сястра ў другую зьмену робя. *Хожава.*

**Не бог ведай [каго].** Стала прасіцца перанача-ваць, але ж хто пусьціць не бог ведай каго. *Хожава.*

**Не знайсці тропу.** *Навагрудскі р-н.*

**Не калёсы закідаць.** (Нешта лёгкае зрабіць). *Слабада.*

**Не лапці сплесці.** *Вавукі.*

**Не сходзіць з дум.** Пахаджу з кута ў кут у хаце, а ён з дум не сходзіць. *Рудня.*

**Не чуць рук.** Хоць з яго [кабана] і жывеш, але пакуль яго дагледзіш, дык і рук не чуеш. *Хожава.*

**Нізкі на вочы.** Усіх пабралі ў армію, а яго не ўзялі, бо ён нізкі на вочы быў. *Хожава.*

**Ні кала, ні двара.** Потым прышлі дадому. Дома — ні кала, ні двара. *Рудня.*

**Ні стыда, ні сораму.** Ні стыда, ні сораму яму, дзіва што жонка пайшла ад яго. *Хожава.*

**Паваро́чаць чудака́.** (Пажартаваць, пасмяшыць, павесяліць). Я, каб у бяседзя, паварочаў бы чудака. *Хожава.*

**Пад носам мокра.** На другіх усё відзіць, а што ў самой пад носам мокра, ета не відзя. *Рудня.*

**Падсунуў свінню.** (Тое, што і падклаў свінню). *Васілеўшчына.*

**Пайшла сучка баразной.** (Пайшло на лад). *Мурожніца.*

**Папасці па карку.** Калі выпіш, яна не скажа, што п'яны, бо пападзе па карку. *Хожава.*

**Па пелькі ўскочыў.** (Трапіў у вялікую бяду, у цяжкую сітуацыю).

**Папрасіць піць.** (Быць у перадсмяротным стане). На трэці дзень тая жонка і піць папрасіла. *Рудня.*

**Папрашчацца з гэтым светам.** А я ўжо з гэтым сьветам і папрашчалася. Ляжу я на зямлі і не ведаю, што рабіць. *Хожава.*

**Пачухаць патыліцу.** Пазлаваў дзед, пачухаў патыліцу, ды не біцца ж яму зара з намі. *Хожава.*

**Пляскаць пугай па вадзе.** (Рабіць нешта пустое, марнае). *Крупскі р-н.*

**Пусціць пузыры.** (Памерці).

**Пыльным мяшком удараны.** Ён і робя ўсё, і ня п'е ніколі, толькі што троху пыльным мяшком удараны. *Хожава.*

**Пярун іх ведае.** Кленіч. Пярун іх ведае, дзе іх ліхая носіць. *Хожава.*

**Пята праз дзісята.** Хоць пята праз дзісята можна запісаць, а ўжо дома тут перапраўілі б. *Хожава.*

**Рабіць пўсткі.** (Рабіць што-небудзь благое, займацца марнатраўствам, чыніць шкоду). Яшчэ і ня ходзіць, а ўжо пусткі робіць. *Хожава.*

**Рад радзюсенькі.** *Вязынка.*

**Развадзіць бацвінне.** *Мурожніца.*

**Рўкі прыкла́сці.** Хто хоча, няхай той і робіць гэтую работу, а мне няма тут да чаго рукі прыкласьці. *Хожава.*

**Рылам на патыліцу.** *Мікалаеўшчына.*

**Сапель кароткі.** (Іран. насмешліва пра таго, у каго мала сілы, хто не можа нешта здзейсніць). *Мурожніца.*

**Свет скалаціць.** Учора шукала, у руках ніткі трымала, знайшла, думаю, трыбушок зшыю, а сёньня сьвет скалаціла, аж вантробы ўсе згарэлі, і німа. *Волма.*

**Скінуць вокам.** Лёг, толькі вокам ськінуў. *Хожава.*

**Скрыпець усю дарогу.** Так і пракацілася жыццё — скрыпела ўсю дарогу. *Слабада.*

**Справіць гвалт.** Справіць сама гвалт, шум у хаця, звадку паднімя, а тады сама ні рада. *Волма.*

**Станавіцца на дыбы.** Сын узёў бы, але бацька на дыбы становіцца. *Хожава.*

**Стаць дыбарам.** Вечарам аднаго разу ішла я каля магілак і здань мне здалася. Дык да таго ўпалохалася, што валасы аж сталі дыбарам. *Волма.*

**Сядзець склаўшы рукі.** Жыву я, дзеткі, адна. Было ў мяне троя дзяцей. Двоя на вайне пагібла. Я тожа не сядзела склаўшы рукі, была сувязной. *Рудня.*

**Танцаваць да ўпаду.** Танцаваць буду да ўпаду, калі ў бяседзе бываю. *Хожава.*

**Толькі б той бяды.** Толькі б той бяды, што чарніц ня будзя. *Хожава.*

**Тропу не найду.** (Не разбяруся). У цябе столькі рубашак, ніяк тропу не найду. *Навагрудскі р-н.*

**У галаве не капуе.** (Не кеміць, не разумее). *Ратамка.*

**Узяла інцілігенцыя.** Ён з маленства чарнарабочы. Гэта яго перад дзеўкамі ўзяла інцілігенцыя. *Хожава.*

**Узяць у галаву.** Але сын мой як узёў у галаву і памёр. *Хожава.*

**Ужо гузікі прышывае.** Заканчвае нейкую работу (дысертацыю, кнігу і г. д.). *Мінск.*

**Укінуць (папасьці) добрага.** Ну, ідзі, зара бацька табе ўкіне добрага... А мне яшчэ папала ад маці добрага, каб не хадзіла з дурным. *Хожава.*

**У свіньля галасы.** (Позна, запознена). *Слабада.*

**Ухапіць шчасце.** Іран. Вышла замуж, ухапіла шчасьце, пасьпяшыла. *Хожава.*

**Ухваціць гора (горачка).** І касіла сама, і баранавала сама. Вот ужо горачка ўхваціла. *Хожава.*

**У чортавы зубы.** (Далёка). На каляды варажылі. Бывала ці дровы раскінуць, ці вароты падапруць, ці зусім занясуць недзе ў чортавы зубы. *Рудня.*

**Хадзіць па міласці.** І па міласці хадзіла троха. А потым патрошку-патрошку і выпрасталася. *Рудня.*

**Хадуном хадзіць.** Ну, як вяселле ў вёсцы пачынаецца, дык усё хадуном ходзіць. *Рудня.*

**Хай бог крые.** Хай бог крые, колькі мы гора перажылі.

**Хай бог ратуе.** Гэта ж хай бог ратуя, ужо сто год з лішнім мае. *Волма.*

**Хай бог сцеражэ.** А ў яе сьвякроў, хай бог сьцеражэ, такая благая. *Хожава.*

**Хвастом накрыцца.** У другіх вёсках ідзеш, дык яны [дзеці] табе здароваюцца, а нашы хвастом накрыюцца і ўсё. *Хожава.*

**Хоць вушы затыкай.** Ужо як скажа, дык і слухаць німа чаго, хоць ты вушы затыкай, ці ў лес каці далей ад яе. *Волма.*

**Хоць лапці падшывай.** У цябе кепскі характар, Мар'ян. Як цьвярозы, дык хоць лапці табой падшывай. *Волма.*

**Хоць пальцы ламі.** А грошай не было. Дзе ж іх, брацць, хоць ты пальцы ламі. *Хожава.*

**Хоць ты ў свет ідзі.** Учора дождж быў, дык атлуміў дзень, хоць ты ў свет ідзі. *Кукалеўка.*

**Хоць у капусце звары.** Няма дзе дзець, хоць у капусце звары. *Рудня.*

**Хоць храпы зачыняй.** Вот як прыдзеш з вуліцы, дык такое паветра цяжкое, хоць храпы зачыняй. *Хожава.*

**Чортам падплецены.** (Той, хто вечна паднімае шум, лаянку, сварку). *Слабада.*

**Чортам падшыты.** Зяць харошы, але як вып'е, то як чортам падшыты. *Хожава.*

**Чорт не схваціць.** Цяперака даяркі палучаюць многа. Чысціня такая на ферме, што чорт не схваціць. *Рудня.*

**Чорт ведае колькі.** Ухажораў у мяне было чорт ведае колькі. *Хожава.*

**Чорт ведае куды.** Я пайду, а ён вылязя праз вакно... хоць бы каля хаты гулёў, дык не, а ідзе чорт ведае куды. *Хожава.*

**Шкляны бог.** Я шклянога бога бачыў, кажа. А я яму: «Можа і драўлянага і жалезнага». *Хожава.*

**Штаны насіў на адной шлейцы.** (Быў малы). Ён тады яшчэ штаны на адной шлейцы насіў, што ён можа помніць. *Слабада.*

**Штó ёсць дýху.** А я са страху што ёсць духу ўцякаць. *Хожава.*

## ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ПРЫГАВОРКІ

Абы зубы, хлеб будзе.

Абяцаў бог даць — ды казаў пачакаць. *Нарэйшы.*

Ад пустой хаты клямка. *Слабада.*

Ад сабакі, апрача блох, нічога не набярэшся. *Ялова.*

Адным арэхам падзеляцца. *Оцкавічы.*

Адзін і ў кашы прапаў. *Малая Валкалаша.*

Ажаніцца — не ўтапіцца. *Антонаўка.*

Атаўка — сену прыбаўка, ды не ўмеў скасіць Саўка. *Ялова.*

Бабы каяцца, а дзеўкі сабіраюцца.

Багацце, як вясло, упусціш — паплыло. *Каліта.*

Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей. *Восава.*

Балота без чорта не будзе. *Мілявічы.*

Баязліваму і корч — мядзведзь.

Без каманды войска гіне. *Чухны.*

Без навукі як бязрукі. *Пруднікі.*

Без прычыны галава не баліць. *Мялешкі.*

Белыя рукі чужую працу любяць. *Слабада.*

Біся, сварыся, але свайго дзяржыся. *Цішкаўцы.*

Была дзеўкай на ўсю вуліцу, а цяпер на ўсю печ. *Чырвоны лес.*

Была ў мяне сіла, як мяне маці насіла. *Бортнікі.*
Былі б людзі, а стараста будзе. *Баярская.*
Бяда за бядой, як рыба за вадой. *Касса.*
Бяло не бяло, абы ў вадзе пабыло. *Арэшніца.*

Вайна кроў людскую п'е. *Антонаўка.*
Во косіць: трава стаіць, зямля ляціць. *Навагрудскі р-н.*
Вот вам і спіткі і з'едкі, і ўсё, мае дзеткі. *Слабада.*
Воўк і лічанае бярэ. *Крэва.*
Выпіць квасу не дабярэ часу. *Ворсаўшчына.*

Гаворыць ціхенька, ды думаець ліхенька. *Ворсаўшчына.*
Гадаваў мядзведзь дзеці, ды няма за кім пасядзеці. *Чырвоны лес.*
Галава адна, языкоў дзесяць. *Восава.*
Гаршкі б'юцца, а дзеткі вядуцца. *Пятровічы.*
Гібкага дрэва вецер не зломіць. *Антонаўка.*
Гіц выйграў, гіц прайграў. Гіц выйграў, гіц прайграў, мяняемся на коней. *Волма.*
Гора, як няма Рыгора. *Рудня.*
Гутар за гутар, а валы ў жыта. *Саска-Ліпка.*
Гукні на лес, то і лес адзавецца. *Мялешкі.*
Гулі ў лапці абулі. *Крэва.*
Гультай ды злодзей — два родныя браты. *Угрынь.*
Гуляючы розуму не прыдбаеш. *Восава.*

Дагнаў — не ўгадаў, аперадзіў — не ўгадзіў. *Восава.*
Да Дзьмітры дзеўкі хітры, а з Дзьмітры — хоць сьпіну вытры. *Гарадоцкі р-н.*

Дарма і каза не скача. *Крэва.*

Дарэмна і бог скулы не дасць. *Слабада.*

Даў рукамі — хадзі нагамі. *Слабада.*

Два каты ў адным мяшку не ўжывуцца. У зяця матка жыве, думаю, паеду я — дык два каты ў адным мяшку не ўжывуцца. *Хожава.*

Дзе гной, там і лой. *Маскалі.*

Дзе гультай ходзіць, там проса не родзіць. *Крэва.*

Дзе ідзе, там і пакоціцца. *Рудня.*

Дзе сарока сядзіць, там сакрэты не вадзіць. *Ракаў.*

Дзяры лыка, пакуль дзярэцца. *Арэшніца.*

Дзяцей — як бобу, а хлеба ні дробу. *Антонаўка.*

Для дурной авечкі і крапіва — лес. *Малая Валкалаша.*

Добрая слава людзей сабірае, а дрэнная разганяе. *Антонаўка.*

Добры певень заўсёды худы. *Слабада.*

Дочкі звядуць з сарочкі. *Саска-Ліпка.*

Дроў у лес не возяць. *Крэва.*

Дурны той конь, што двара свайго не ведае. *Мялешнік.*

Дурня не навучыш, а намучыш. *Нежын.*

Еш сала, каб душа плясала. *Ворсаўшчына.*

Жаб за вушы не ловяць. *Ракаў.*

Жонка памірае, а мужык на другую паглядае. *Слабада.*

Жонку язык б’е. *Залацеева.*

Жыву сяк-так: дзень без хлеба, а два так. *Восава.*

Жывуць, як золата важаць. *Восава.*

Жыла нявеста сем год і не ведала, што сучка без хваста. *Селязні.*

Зваліліся ленькі ў каленькі. *Заборцы.*

З ветру вяроўку саўе. *Слабада.*

Згубі толькі стыд, дык будзеш п'ян і сыт. *Ракаў.*

Здароўе валовае, а храбрасць казловая. *Ракаў.*

З малой хмуры заўсёды вялікі дождж. *Волма.*

З печанага яйца жывое куранё высядзіць. *Коўчыцы.*

З хлебам і бяз хлеба. Цяжка было жыць: калі з хлебам, калі бяз хлеба. *Хожава.*

І верабей злосць мае. *Валожынскі р-н.*

І добрыя плыўцы тонуць. *Пятровічы.*

І камень не вечны. *Слабада.*

І мядзведзя танцаваць вучаць. *Крэва.*

І на халодную ваду не заробіш. *Мялешкі.*

І рыбкі не хачу, і хвосціка не мачу. *Восава.*

І сабака добры дух чуе. *Крамяніца-Дольная.*

І сабака напуста не забрэша. *Крамяніца-Дольная.*

І сосны вушы маюць. *Крэва.*

І чорт літасць мае. *Мялешкі.*

І я піў бы, каб хто купіў бы. *Слабада.*

Калі ўлез у дугу, не кажы: не магу. *Антонаўка.*

Каму што, а свінні цеста. *Слабада.*

Каму век няшчасны, таму і доўгі. *Каліта.*

Каб ведаў, што ўпаду, дык сеў бы. *Котчына.*

Каб цябе Бог любіў! *Слабада.*

Каб яе скулы апілі (Кленіч). Каб яе скулы апілі — нічога не хоча піць цялушка. *Волма.*

Каб ты пятамі назад хадзіў! (Кленіч). *Валожынскі р-н.*

Каб ты ў вадзе стаяла і піць прасіла (Кленіч) *Кімія.*

Каб не схлусіў, дык бы і не жыў.

Каб ты здароў знасіў і на другое зарабіў! *Слабада.*

Каб цябе дзеўкі любілі. *Слабада.*

Калі маеш пабразгачы, дык будуць і паслугачы. (Пабразгачы — манеты). *Волма.*

Калі сам не зробіш, дык і зязюлька не накукуе. *Пятровічы.*

Калі толькі з-за спадніцы, тады лепей не жаніцца. *Пятровічы.*

Камар носу не падсуне. *Лучнікі.*

Каму ў вока зайдзе, той і на печы найдзе. *Морач.*

Каму ў галаву зойдзе, той і ў запечку знойдзе. *Целяшэвічы.*

Карміў да вусоў — кармі і да барады. *Руда Літчанска.*

Каса — дзявочая краса. *Крамяніна-Дольная.*

Кій на кій шкодзіць, а кусок на кусок ніколі. *Волма.*

Кладучыся спаць, падумай, як устаць. *Антонаўка.*

Кожны праўду знае, ды не кожны яе любіць. *Крамяніца-Дольная.*

Конь дарогі не пытае. *Мялешкі.*

Кошцы жартачкі, а мышцы слёзкі. *Восава.*

Крывая дарожка з простай смяецца. *Восава.*

Кулачок пад бачок, каменьчык пад галоўку. *Восава.*

Купіў бы сяло, ды грошай гало. *Восава.*

Ласы кусочак знойдзе куточак. *Ворсаўшчына.*

Лепей скупа прадаць, чым з вярхом украсці. *Ракаў.*

Лепш трохі, але толкам. *Ракаў.*

Лепш трох лячыць, чым дурня вучыць. *Нежсын.*

Лес і то не роўны расьце. Лес і то не роўны расьце, а людзі? Дзе ты бачыла, каб роўныя былі. *Хожава.*

Лета прыпасіха, зіма прыбярыха. *Ляды.*

Летам ножкай коп, зімой ручкай хоп. *Уліна.*

Лёгкі здабытак — лёгкі пражытак. *Антонаўка.*

Ліхое ніколі не ўтоіцца. *Антонаўка.*

Люба сабаку на неба брахаць. *Коўчыцы.*

Маеш дачку трымай гарэлку ў глячку. *Пера-цяткі.*

Маім салам і мне па губах мажа. *Залессе.*

Матка дачку хваліць, пакуль з рук зваліць. *Крамяніца-Дольная.*

Менш гавары, то больш пачуеш. *Мялешкі.*

Мужык хоць з лапаць, абы за ім не плакаць. *Волма.*

На адну асіну абодвух павесіць. *Крамяніца-Дольная.*

На пекнату ёсць старасць. *Пятровічы.*

На п'янага і сабака не брэша. *Валожынскі р-н.*

Нараблю крыві, што і сабака не пап'е. *Нава-грудскі р-н.*

На сваім сметніку і верабей спраўны. *Котчына.*

На сваім сметніку і певень смелы. *Нава-грудскі р-н.*

На свеце, як на смецці, што хочаш, тое і знойдзеш. *Пятровічы.*

На той свет багацця не пацягнеш. *Морач.*

Начаваў ды рана вышаў. *Мурожніца.*

На чужую с... штаны лёгка адзяваць. *Пятровічы.*

Нашто ж кароўка, калі сам вандроўка. *Ворсаўшчына.*

Не выбірай жонку на ігрышчы, а выбірай на ржышчы. *Восава.*

Не даў бог свінні рог, а то і неба ўспарола б. *Ракаў.*

Не лезь, жаба, дзе коні куюць,— растопчуць. *Дубровінскі р-н.*

Не маеш шчасця — не йдзі ў грыбы. *Хойна.*

Не наш воз, не нам везці. *Высокі Бор.*

Не паможа ні мыла, ні вода, калі чорная ўрода. *Восава.*

Не паможа лек, як кароткі век. *Восава.*

Не плаціць багаты, а плаціць вінаваты. *Восава.*

Не радуйся знайшоўшы, не плач згубіўшы. *Слабада.*

Не радуйся чужой бядзе, бо свая на барадзе. *Мацевічы.*

Не скачучы, не плачучы. *Мялешкі.*

Не словы, а час жальбу разганяе. *Ракаў.*

Не мылься, голены не будзеш. А ваенком сказаў, што, калі паступя, то добра, а не, дык і не мыльцеся, голеныя не будзіця. *Хожава.*

Не сунь носа, куды ні просяць. *Волма.*

Не твой бацька ўказнік. *Слабада.*

Не той багаты, хто брухаты, а той, хто разумны. *Ратамка.*

Не ўкусіўшы горкага, не паспытаеш салодкага. *Восава.*

Не ўсякая знаходка клад. *Восава.*

Не ўсякая ліпа мёдам пахне. *Сілязні.*

Не ўхваціўшы гора і дабра не ўбачыш. *Кімія.*

Не шукаючы не знойдзеш. *Крамяніца-Дольная.*

Не штука даць, калі ёсць адкуль узяць. *Відэйкаўшчына.*

Нідзе так, як дома. *Крамяніца-Дольная.*

Нікому ні міла, каму справа хіла. *Восава.*

Ні сшыць, ні спароць. *Котчына.*

Няма лепшай рэчы, як дома на печы. *Ворсаўшчына.*

Павесіць за кроплю вады. Ён гатоў павесіць чалавека за кроплю вады. *Волма.*

Пагладзь ката — ён і хвост задзярэ. *Грынявічы.*

Пазычка — добра, адданка — кепска. *Відэйкаўшчына.*

Пакуль бацька з маткай ёўню лёну абмалацілі, дык я зох — і абуўся. *Мурожніца.*

Пакуль вялікі нагнецца, то малы нап'ецца. *Крэва.*

Паляц аб паляц не стукне. Гэта невінёнтачка Гармашова каб калі паляц аб паляц стукнула. *Волма.*

Палка на палку шкодзіць, а абед на абед не. *Хадзюкі.*

Панскія ножкі баяцца дарожкі. *Ворсаўшчына.*

Парада не здрада. *Крамяніца-Дольная.*

Пастаў хоць дзе, ніхто не ўкрадзе. *Вастраўка.*

Пела, дзе бацькаў хлеб ела. *Бортнікі.*

Плач, галасі — рады не дасі. *Слабада.*

Покуль у пана ў роце, то ў кухара ў жывоце. *Бярэзінскі р-н.*

Прападае кароўка — прападзі й вяроўка. Пасуды шкода. Але чорт яе: прападае кароўка — прападзі й вяроўка. *Хожава.*

Праўда гэта была як сляпы голага абакраў. *Мялешкі.*

Разумная галава, але дурню дасталася. *Мурожніца.*

Рубель знойдзеш, а два згубіш. *Морач.*

Рыбка ў рацэ — не ў руцэ. *Руда Ліпічанская.*

Сабачка маленькі ўвесь век маладзенькі. *Чырвоная Слабада.*

Сабаку сабакам не зацкуеш. *Валожынскі р-н.*

Сам харошы, а розуму на два грошы. *Восава.*

Сабака не з'есць не пакачаўшы. *Крэва.*

Свой бíся, кусайся, чужы не мяшайся. *Крэва.*

Свая ложка не цяжкая. Кажу: «Едзь дамоў, дома ўсё ёсць». Ды свая ж ложка не цяжкая. *Рудня.*

Свая сярмяжка нікому не цяжка. *Грынявічы.*

Свістаў пакуль дастаў. цяпер пасвішчаш, покуль сышчаш. *Восава.*

Сей у добру пару — збярэш хлеба гару. *Антонаўка.*

Во нявестка! Сем гадоў замужам і не знала, што сучка без хваста. *Мурожніца.*

Сілаю не будзеш мілаю. *Нягневічы.*

Сказала кума куме, ды пайшло па ўсім сяле. *Заполле.*

Слязамі гору не паможаш. Плакалі мы па ём, плакалі, ды што ж, слязамі гору не паможаш, і плакаць век не будзеш. *Хожава.*

Снег бел — ды не сыр, зяць міл — ды не сын. *Бортнікі.*

Ссівеў чалавек, а пытае, каторы век. *Ракаў.*

Старасць не радасць, а смерць — не вяселле. *Гервяты.*

Стыдна, горш як дымна. *Малая Валкалаша.*

Сцеражыся не пана, а падпанка. *Альшаны.*

Сядзець у бога за плячыма. Як у бога за плячыма сядзіць, нічога не робіць. *Волма.*

Сядзеш адпачываць — будзеш сем вёрст даганяць. *Суцін.*

Сяк-так накасяк, абы не па-людску. *Высокі Бор.*

Сякі-такі мужычына, ды ўсё-такі дровы ды лучына. *Хожава.*

Талковы і ў Вільні відаць. *Малая Валкалаша.*

Тваё дзела гаў-гаў і пад печ. *Мурожніца.*

Тваё не мелецца, дык не падсыпай. *Вужанка.*

Трава стаіць, зямля ляціць, а Ёсель косіць. *Навагрудскі р-н.*

У акне свет, за акном яшчэ большы. *Восава.*

У вочы лізком, а за вочы пяском. *Восава.*

У добрай свякрові і добрая нявестка. *Мурожніца.*

У дурнога салаўя дурныя й песьні. *Волма.*

Узяў бяду на сваю шыю. *Крэва.*

Украдзеным і падавіцца можна. *Васілевічы.*

Умеламу рукі не баляць. *Залацеева.*

У пост хварэюць, а ў мясаед дурнеюць. *Ракаў.*

У роднай хаце і качарга маці. *Тураў.*

Усе бабры дабры, адна выдра ліхая. *Селязні.*

Усёраўно, ці выпіваць, ці слёзы выціраць. Яму ўжо гэна ўсёраўно, ці выпіваць, ці слёзы выціраць, не паможаш. *Хожава.*

У хату нявестка, а на сяло павестка. *Суцін.*

Хоць вох, але ўдвох. *Восава.*

Хоць голы, але ж вясёлы. *Дзярэчын.*

Хоць з вадой, абы не з бядой. *Мялешкі.*

Хоць каралём, толькі не ў нашым царстве. *Мялешкі.*

Хоць у цеснаце, абы не ў звадзе. *Крэва.*

Хто арэ ды не троіць — той хлеба не кроіць. *Чыжэвічы.*

Хто бацькоў не слухае, той на пальцы дзьмухае. *Мацевічы.*

Хто з мякінай, хто з аўчынай. Некалі хто з мякінай, хто з аўчынай. *Хожава.*

Хто сам такі, то і на другога кладзе знакі. *Восава.*

Хто ўмее — робіць, а хто не ўмее — крычыць і вучыць. *Антонаўка.*

Хто ў моры пабываў, той лужы не баіцца. *Восава.*

Хвалі хлеб у гумне, а пана ў труне. *Залацеева.*

Хітры дужага паваліць. *Восава.*

Хітры́, не хітры, а хітрэй свету не будзеш. А як пачнеш вельмі хітрыць, то і перахітрышся. *Лёзненскі р-н.*

Хараша не пераходзіш, смачна не параясі. *Валожынскі р-н.*

Чаго не згубіў, таго не шукай. *Крэва.*

Чорт за чорта цягне.

Чужая болька не баліць. *Крэва.*

Чужая старана прыбавіць разума. *Лактышы.*

Чужое пад лесам (бачыць), а сваё пад носам (не бачыць). *Валожынскі р-н.*

Чым багацейшы, тым скупейшы. *Альшаны.*

Чым галейшы, тым смялейшы. *Альшаны.*

Што па той чэсці, калі няма чаго есці. *Слабада.*

Што рок, то і прарок. *Восава.*

Што старана, то й навіна. *Валожынскі р-н.*

Язык доўгі, ды пяты кароткія. *Цішкаўцы.*

Якая мама, такая я і сама. *Восава.*

Якая матка, такое і дзіцятка. *Крамяніца-Дольная.*

Якая папа дык папа, абы не гуляла лапа. *Мурожніца.*

Якая яда, такая хада. *Саска-Ліпка.*

Як б'юць, няхай мяне мінуць, калі п'юць, няхай з мяне пачнуць. *Старадворцы.*

Як вядзецца, дак і на шчэпачку прадзецца. А як неўдасца — свінням ўсё аддасца. *Талочынскі р-н.*

Як да чаркі дык скоры, як да працы дык хворы. *Асяродак.*

Як не пад'еў вол да Міколы, то не пад'есць ніколі. *Макцюты.*

Як няма ў доме ката, то пустая хата. *Цішкаўцы.*

Як пакорміш, так і падоіш. *Стары Свержань.*

Як сеў, дык і прыкіпеў. *Крупскі р-н.*

Які куст, такія галякі. *Крамяніца-Дольная.*

Якое карэнне, такое насенне. *Крамяніца-Дольная.*

Як пайшоў па лекі, так прапаў навекі. *Пхоў.*

Як прыпячэ, дык і святы ўцячэ. *Пятровічы.*

Як хто хоча, так той скоча. *Валожынскі р-н.*

Як прыдзе гора, то не палезе яда ў горла. Саска-*Ліпка.*

Як у лесе ягадно, то і ў полі хлябно. *Нясвіж.*

Яшчэ не злавіў, а ўжо скрабе. *Савоні.*

Я яму так, а ён мне гэдак. *Мялешкі.*

## ПАРАЎНАННІ

Адзін, што палец. А як адзін жывеш, што палец, дак і прыгарнуцца няма да каго. *Хожава.*

Адна, як зязюля шэрая. Дзеткі павырасталі, разьляцеліся хто куды. Засталася адна, як зязюля шэрая. *Хожава.*

Гаворыць, як на ўзгароду вешае. *Мурожніца.*

Гады як рады. Галава ўжо не тая. Гады як рады, як кажуць. Ды і нейкіх думак другіх многа. *Рудня.*

Гадзі, як скуле. *Слабада.*

Галава мотарам ідзе. І так забрэнтаецца часам у галаве, што аж галава мотарам ідзе. *Волма.*

Галодны, як сабака (воўк). *Залацеева.*

Глухі, як сцяна. *Залацеева.*

Глядзіць, як воўк на авечку. *Заборцы.*

Голы, як бізун. *Залацеева.*

Ела, як на плот вешала. *Валожынскі р-н.*

Жывучая, як кошка. (Дзе запісана — не абазначана).

Жыць, як кот з сабакам. Цяпер ужо з пятай жанаты. А жывуць, як кот з сабакам. *Хожава.*

Заняло, як жабе на зіму. *Карэліцкі р-н.*

Збіраць, як курыца валлё. *Мурожніца.*

Капошыцца, як сляпы ў торбе. *Восава.*

Круціцца, як цыган на долаце. *Коцькі.*

Круціцца, як вужака. Учора мы іх купалі, але што ж: хіба яны пасядзяць? Круцяцца, як вужакі. *Рудня.*

Круця мірам, як чорт вірам. *Вілейскі р-н.*

Лезе, як жаба на корч. *Крупскі р-н.*

Лезе як чорт на ражон, а тады абіжаіцца. *Волма.*

Лоб, як лятарня (лятарня — круглы ліхтар на слупе). *Пружанскі р-н.*

Набраўся гарэлкі, як Цюрла гарбуза. *Рудня.*

Набраўся як бот. Дык што ж, калі ён як бот набраўся, вочы заліў і прэцца. *Рудня.*

Наліта гора ў мяне, як вока. Цераз берагі. *Рудня.*

Нараві як ліхой скуле. *Ворсаўшчына.*

Пражыў жыццё, як на свінні праехаў. *Прудок.*

Прытаіся, як заяц пад мяжою. *Грынявічы.*

Рада, як на сто каней уссела. *Ратамка.*

Распусцілася, як пуга. (Дзе запісана — не пазначана).

Рукі дрыжаць, як курэй краў. *М. Валкалаша.*

Сказаў, як піць даў. *Валожынскі р-н.*

Скручыўся, як чорт пад крыжам. *Восава.*

Трэсці, як зялёны мак. *Ратамка.*

Улюбіцца, як чорт у сухую грушу. *Хожава.*

Упарты, як казёл. *Грынявічы.*

Уплятаць, як за сямёх дурных. *Волма.*

Харашо адзета, аж плыве ўсё на ёй. *Волма.*

Харош, як свіння ў дождж. *Мялешкі.*

Ходзіць, як блудная авечка. *Залацеева.*

Ходзіць, як пава. *Залацеева.*

Ходзіць, як падмецены. (Дзе запісана — не пазначана).

Худая, як плашчаніца. (Дзе запісана — не пазначана).

Худзейшы за чапялу. Худзейшы за чапялу станаві́ўся, пакуль кросны вытчаш. *Рудня.*

Як вол у ярме. Усё жыццё цяжка працую, хаджу, як вол у ярме. *Волма.*

Як гразі. У яго грошай — як гразі. *Ляды.*

Як з крыжа зняты. *Навагрудскі р-н.*

Як пятнастоўка. Гэтага Юзюнага шwіва ні магу цярпець, уцісьня так, што — як пятнастоўка. *Волма.*

Як сабакі рвуць. Думаю, што рабіць: ногі так баляць — як сабакі рвуць. *Хожава.*

## СПІС НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ, ДЗЕ ЗРОБЛЕНЫ ЗАПІСЫ

**Альшаны,** *Столінскі р-н.*
**Аляхновічы,** *Маладзечанскі р-н.*
**Антонаўка,** *Навагрудскі р-н.*
**Арэшніца,** *Клецкі р-н.*
**Арэшніца,** *Навагрудскі р-н.*
**Асяродак,** *Асіповіцкі р-н.*

**Бабцы,** *Докшыцкі р-н.*
**Баўцічы,** *Навагрудскі р-н.*
**Баярская,** *Навагрудскі р-н.*
**Белавуша,** *Столінскі р-н.*
**Бірулі,** *Докшыцкі р-н.*
**Больнікі,** *Астравецкі р-н.*
**Бортнікі,** *Сенненскі р-н.*
**Бузуны,** *Пружанскі р-н.*

**Вавукі,** *Смаргонскі р-н.*
**Васілеўшчына,** *Пастаўскі р-н.*
**Вераб'і,** *Глыбоцкі р-н.*
**Відэйкаўшчына,** *Валожынскі р-н.*
**Волма,** *Дзяржынскі р-н* (з 1956 па 1970 — у Валожынскім).
**Восава,** *Мядзельскі р-н.*
**Востраў,** *Пухавіцкі р-н.*
**Вужанка,** *Нясвіжскі р-н.*

**Высокі Бор,** *Чэрвеньскі р-н.*
**Вязынка,** *Маладзечанскі р-н.*
**Вярхуціна,** *Старадарожскі р-н.*

**Ганаратаў,** *Клічаўскі р-н.*
**Гарывада,** *Рэчыцкі р-н.*
**Гервяты,** *Астравецкі р-н.*
**Гілікі,** *Стаўбцоўскі р-н* (з 1956 па 1970 — у Валожынскім).
**Грынявічы,** *Свіслацкі р-н.*

**Даўматаўшчына,** *Навагрудскі р-н.*
**Доўгае,** *Салігорскі р-н.*
**Дзярэчын,** *Зэльвенскі р-н.*

**Езярышча,** *Гарадоцкі р-н.*

**Жабчава,** *Капыльскі р-н.*

**Забор'е,** *Вілейскі р-н.*
**Заборцы,** *Докшыцкі р-н.*
**Загор'е,** *Барысаўскі р-н.*
**Загор'е,** *Карэліцкі р-н.*
**Залацеева,** *Зэльвенскі р-н.*
**Залессе,** *Драгічынскі р-н.*
**Заполле,** *Слуцкі р-н.*
**Заслаўе,** *Мінскі р-н.*
**Зачарэўе,** *Міёрскі р-н.*
**Застадолле,** *Сенненскі р-н.*

**Ігрушка,** *Крупскі р-н.*
**Каліта,** *Чэрвеньскі р-н.*
**Кальнік,** *Докшыцкі р-н.*

**Канстанцінава,** *Мядзельскі р-н.*
**Карцэвічы,** *Нясвіжскі р-н.*
**Касцяні,** *Слонімскі р-н.*
**Кімія,** *Барысаўскі р-н.*
**Котчына,** *Мастоўскі р-н.*
**Коцькі,** *Дзятлаўскі р-н.*
**Крамяніца Дольная,** *Зэльвенскі р-н.*
**Краснае,** *Маладзечанскі р-н.*
**Крупіцы,** *Мастоўскі р-н.*
**Крыўцы,** *Лепельскі р-н.*
**Крэва,** *Смаргонскі р-н.*
**Кукалеўка,** *Чэрвеньскі р-н.*
**Купа,** *Мядзельскі р-н.*

**Ладасна,** *Лепельскі р-н.*
**Лаздуны,** *Іўеўскі р-н.*
**Лактышы,** *Ганцавіцкі р-н.*
**Ліпна,** *Сенненскі р-н.*
**Лучнікі,** *Слуцкі р-н.*
**Ляды,** *Дубровенскі р-н.*
**Ляпешкі,** *Іўеўскі р-н.*
**Ляшчынск,** *Мядзельскі р-н.*

**Малая Валкалаша,** *Пастаўскі р-н.*
**Малева,** *Нясвіжскі р-н.*
**Малінаўка,** *Вілейскі р-н.*
**Маляўка,** *Міёрскі р-н.*
**Манцюты,** *Івацэвіцкі р-н.*
**Маскалі,** *Мастоўскі р-н.*
**Мацкі,** *Мядзельскі р-н.*
**Мікалаеўшчына,** *Стаўбцоўскі р-н.*
**Мілявічы,** *Мастоўскі р-н.*
**Морач,** *Клецкі р-н.*

**Мосар,** *Ушацкі р-н.*
**Моцевічы,** *Лідскі р-н.*
**Мурожніца,** *Шумілінскі р-н.*
**Мялешкі,** *Слуцкі р-н.*

**Налібокі,** *Стаўбцоўскі р-н.*
**Нарэйшы,** *Мядзельскі р-н.*
**Нежын,** *Любаньскі р-н.*
**Новы Свержань,** *Стаўбцоўскі р-н.*
**Нягневічы,** *Карэліцкі р-н.*

**Оршаль,** *Старадарожскі р-н.*

**Папкі,** *Шаркаўшчынскі р-н.*
**Пасарава,** *Круглянскі р-н.*
**Пераброддзе,** *Міёрскі р-н.*
**Перацяткі,** *Дзяржынскі р-н.*
**Прудок,** *Лепельскі р-н.*
**Пруднікі,** *Мядзельскі р-н.*
**Пруды,** *Стаўбцоўскі р-н.*
**Псуя,** *Глыбоцкі р-н.*
**Пхоў,** *Мазырскі р-н.*
**Пятровічы,** *Светлагорскі р-н.*

**Ракаў,** *Валожынскі р-н.*
**Ратамка,** *Мінскі р-н.*
**Руда-Ліпічанская,** *Мастоўскі р-н.*
**Рудня,** *Чэрвеньскі р-н.*

**Савоні,** *Стаўбцоўскі р-н.*
**Сакалова,** *Бярозаўскі р-н.*
**Саска-Ліпка,** *Нясвіжскі р-н.*
**Сачыўляны,** *Дзятлаўскі р-н.*

**Селязні,** *Гарадоцкі р-н.*
**Серкавіца,** *Талачынскі р-н.*
**Слабада,** *Лагойскі р-н.*
**Слабодка,** *Лепельскі р-н.*
**Старадворцы,** *Салігорскі р-н.*
**Стары Свержань,** *Стаўбцоўскі р-н.*
**Суцін,** *Пухавіцкі р-н.*

**Трэці Гарадзец,** *Ушацкі р-н.*
**Тураў,** *Жыткавіцкі р-н.*

**Удзела,** *Глыбоцкі р-н.*
**Уліна,** *Шаркаўшчынскі р-н.*

**Хадзюкі,** *Лідскі р-н.*
**Хожава,** *Маладзечанскі р-н.*
**Хойна,** *Пінскі р-н.*

**Целяшэвічы,** *Дзяржынскі р-н.*
**Цішкаўцы,** *Баранавіцкі р-н.*

**Чухны,** *Смаргонскі р-н.*
**Чыжэвічы,** *Салігорскі р-н.*
**Чырвоная Слабада,** *Салігорскі р-н.*
**Чырвоны Лес,** *Клічаўскі р-н.*

**Язавінь,** *Салігорскі р-н.*
**Язвіна,** *Шумілінскі р-н.*
**Ялова,** *Талочынскі р-н.*

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

**абразл.**— абразлівае
**агульн.**— агульны род
**адз.**— адзіночны лік
**асудж.**— асуджальнае
**бат.**— батанічнае
**безас.**— безасабовая форма
**вык.**— выказнік
**выкл.**— выклічнік
**гл.**— глядзі
**груб.**— грубае
**дзеепрым.**— дзеепрыметнік
**дзеепрысл.**— дзеепрыслоўе
**ж.**— жаночы род
**жарт.**— жартаўлівае
**займ.**— займеннік
**зак.**— закончанае трыванне
**зборн.**— зборны назоўнік
**злуч.**— злучнік
**зневаж.**— зневажальнае
**іран.**— іранічнае
**ласк.**— ласкальная форма
**м.**— мужчынскі род
**мн.**— множны лік
**н.**— ніякі род
**неадабр.**— неадабральнае

**незак.**— незакончанае трыванне
**пагард.**— пагардлівае
**памянш.**— памяншальная форма
**перан.**— пераноснае значэнне
**прым.**— прыметнік
**прыназ.**— прыназоўнік
**прысл.**— прыслоўе
**скаж.**— скажонае
**спагадл.**— спагадлівае
**субст. прым.**— субстантыўны прыметнік
**уст.**— устарэлае
**часц.**— часціца
**экспр.**— экспрэсіўнае

**Ніна ГІЛЕВІЧ**

# ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК

Лексіка. Фразеалагізмы.
Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі.
Параўнанні.

Рэдактар-складальнік Н. С. Гілевіч
Адказны за выпуск І. У. Вінарская
Камп'ютэрны набор і вёрстка В. І. Барута

Падпісана да друку 5.09.2005г. Фармат 70x100 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Гарнітура «Таймс».
Ум. друк. арк. 7,128. Ул.-выд. арк. 5,5.
Наклад 200 асобнікаў. Заказ 1446.

ГА «Беллітфонд»
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.
Ліцэнзія ЛВ № 02330 ад 30.04.2004 г.

Надрукавана ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ»
220004, Мінск, вул. Вызвалення, 9.
Ліцэнзія № 02330/0056661 ад 29.0304 г.